Пралетарыі ўсіх краін, злучайцеся!

# Весьці

## Народнага Камісарыяту Юстыцыі Беларускае ССР.

Зьмест:



№ 6—7

ЧЭРВЕНЬ—ЛІПЕНЬ 1927 г.

1-ы год выданьня.

Менск



# ЗЬМЕСТ.



## Старонка практыка.



## З дзейнасьці Народнага Камісарыяту юстыцыі БССР.



## Хроніка.



## Частка афіцыйная.



---

# ПАПРАЎКА.

У нумары 2—3 часопісі НКЮ на старонцы 67 (Частка афіцыйная) у пункце 2, у трэцім радку зьнізу надрукована: „...якія маюць характар зьдзелак“; трэба чытаць: „...якія ня маюць характару зьдзелак“.

---


Главлітбел № 25.887. Тыраж—1500 экз. Друкарня Менспраўдому.

Пралетарыі ўсіх краін, злучайцеся!

# ВЕСЬЦІ

Народнага Камісарыяту Юстыцыі Беларускае ССР.

1-ы год выданьня.

№ 6—7. Чэрвень—Ліпень.

## НА ВЯЛІКІМ ШЛЯХУ.

(Да чатырохгодзьдзя Канстытуцыі СССР).

Дзень Канстытуцыі СССР зьяўляецца вялікім сьвятам ня толькі для працоўных нашага Савецкага Саюзу. Гэты дзень памятаюць усе працоўныя сьвету. Ён напамінае ім, што ў нашай вялікай савецкай краіне няма эксплёатацыі чалавека чалавекам, што мы вырашылі і вырашаем вялізную праблему вызваленьня чалавецтва ад усякага прыгнечаньня.

У канстытуцыі савецкай дзяржавы па словах Леніна, запісан вопыт барацьбы і арганізацыі пралетарскіх мас проці эксплёататараў і ўнутры краіны і ва ўсім сьвеце. Гэты вопыт дарагі і каштоўны для пралетарыяў усяго сьвету.

6-га ліпеня 1923 году была зацьверджана канстытуцыя Савецкага Саюзу. У гэты дзень была канчаткова аформлена наша саюзная дзяржава. Аснова нашага Саюзу—гэта дабраахвотнае ўваходжаньне ў яго саюзных рэспублік.

Рабочым і сялянам Украіны Ленін пісаў: „Мы хочам дабраахвотнага саюзу нацый—такога саюзу, які-б не дапушчаў ніякага гвалту адной нацыі над другой,—такога саюзу, які-б быў абгрунтаваны на поўным даверʻі, на ясным разуменьні братэрскага адзінства, на поўнай згодзе“. Такім зьяўляецца наш Савецкі Саюз.

Чаму мы стварылі Саюз Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік?

Мы будуем у нашай краіне сацыялізм. Мы павінны аднавіць нашу гаспадарку, мы павінны ўзьняць яе на большую вышыню. Гэта задача можа быць вырашана сіламі толькі савецкіх рэспублік. Побач з прамысловымі раёнамі, мы маем раёны, якія адсталі як у эканамічных, так і культурных адносінах. Гэтак званыя акраіны ператварыліся царскай Расеяй у калёніі, яны надзвычайна адсталі. Мы абвясьцілі юрыдычную роўнасьць рэспублік. Мы павінны дамагчыся фактычнай іх роўнасьці. Нашы сілы павінны быць накіраваны і накіроўвацца ў бок узьняцьця эканамічнага і культурнага ўзроўню адсталых рэспублік. Гэту задачу мы вырашалі, мы яе поўнасьцю вырашым.

Савецкія рэспублікі зьяўляюцца сацыялістычнымі дзяржавамі дыктатуры пралетарыяту, ажыцьцяўляючымі свае задачы на аснове саюзу рабочых і сялян.





Сутнасьць савецкіх рэспублік аднолькавая. Мэты іх аднолькавыя. Усё гэта прымусіла іх аб'яднацца ў адзін Саюз.

Першы ў сьвеце Саюз Рэспублік саветаў выклікае шалёную нянавісьць капіталістычнага сьвету. Існаваньне нашай савецкай дзяржавы зьяўляецца вялізным рэвалюцыянізуючым фактарам. Буржуазея мае надзею на зруйнаваньне Савецкага Саюзу. Дружнымі сіламі ўсіх савецкіх рэспублік, мы гэтыя ілюзіі буржуазеі бязьлітасна разаб'ём.

Капіталістычны сьвет ня можа вырашыць нацыянальнага пытаньня. У буржуазных краінах нацыянальнае прыгнечаньне, нацыянальная розьніца. Толькі наша савецкая дзяржава здолела даканала вырашыць нацыянальнае пытаньне, стварыць братэрскае сужыцьцё ўсіх нацый.

Думка аб стварэньні Савецкага Саюзу была ўжо даўно. Саюзныя рэспублікі на сваіх зьездах саветаў выказваліся аб неабходнасьці аб'яднаньня ўсіх савецкіх рэспублік.

Вось, што сказаў аб гэтым у сваёй дэклярацыі 1-ы Ўсебеларускі Зьезд Саветаў, які сабраўся ў лютым 1919 г.:

„Улічваючы разам з тым шчыльную сувязь і залежнасьць, існуючую між рабочымі і сялянамі ўсіх частак ранейшае царскае імпэрыі, зьезд лічыць, што толькі вольны дабраахвотны саюз працоўных усіх, цяпер незалежных савецкіх рэспублік, забясьпечыць перамогу рабочых і сялян у іх барацьбе з усім капіталістычным сьветам. Таму зьезд зьвяртаецца да ўсіх братэрскіх незалежных сацыялістычных рэспублік з прапановай пасьледаваць прыкладу рабочых і сялян Беларусі, распачаць перамовы аб устанаўленьні фэдэратыўнае сувязі між Савецкай Расеяй і між сабой“.

Тады гэта поўнасьцю ажыцьцёвіць не ўдалося. Былі гады грамадзянскае вайны. Гэраічна змагаліся за існаваньне рэспублік саветаў рабочыя і сяляне. Гісторыя вырашыла наша спрэчнае пытаньне з унутранай і замежнай буржуазеяй у нашу карысьць. 30-га сьнежня 1922 г. быў падпісан угавор аб стварэньні Саюзу Савецкіх Сацыялістычных рэспублік. 6 ліпеня 1923 г. была ўхвалена Канстытуцыя Савецкага Саюзу.

Канстытуцыя СССР устанаўляе ўзаемаадносіны Саюзу і Саюзных рэспублік. Апошнія зьяўляюцца сувэрэннымі дзяржавамі. Сувэрэнітэт саюзных рэспублік абмежаваны толькі ў межах, зазначаных у канстытуцыі Саюзу, і па пытаньнях, аднесеных да кампэтэнцыі Саюзу.

„Па-за гэтымі межамі кожная саюзная рэспубліка ажыцьцяўляе сваю дзяржаўную ўладу самастойна, Саюз ахоўвае сувэрэнныя правы саюзных рэспублік“.

Да сваёй кампэтэнцыі Саюз адносіць:

Замежныя зносіны, арганізацыя і кіраўніцтва ўсімі ўзброенымі сіламі СССР, устанаўленьне асноў і агульнага права ўсяе народнае гаспадаркі, кіраўніцтва ўсёй транспартнай і паштова-тэлеграфнай справай, фінансавая палітыка, адзіны бюджэт і адзіная грашовая і крэдытная сыстэма, агульныя пачаткі і асновы зямельнай палітыкі, судаўпарадкаваньне, судаўніцтва, цывільнае і крымінальнае закана-

даўства, законы аб працы, народнай асьветы, аховы здароўя, статыстыкі. Саюз выдае ў гэтых галінах толькі агульны пачатак. Саюзныя рэспублікі дапасоўваюць свае законы з заканадаўствам Саюзу.

Падкрэсьліваючы дабраахвотнае ўваходжаньне саюзных рэспублік у склад Савецкага Саюзу, Канстытуцыя ўстанаўляе права вольнага выходу рэспублік з саюзу.

Для таго, каб былі захаваны інтарэсы ўсіх нацыянальнасьцяў у складзе Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту апрача Саюзнага Савету, прадстаўляючага працоўных незалежна ад іх нацыянальнасьцяў, маецца Савет Нацыянальнасьцяў, куды ўваходзяць прадстаўнікі ўсіх нацыянальнасьцяў Саюзу. Гэта служыць лепшай гарантыяй таму, што інтарэсы кожнай нацыянальнасьці будуць сурова захованы.

Саюзныя рэспублікі павінны дапасоўваць свае канстытуцыі ў адпаведнасьці з канстытуцыяй Саюзу. Намі гэта выканана. Ухваленая VIII Усебеларускім Зьездам Саветаў у красавіку гэтага году Канстытуцыя БССР дапасавана з Саюзнай Канстытуцыяй.

Ці выканаў Саюз Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік пастаўленыя перад ім гісторыяй задачы? Лепшым адказам зьяўляецца мацнеючая з кожным днём эканамічная і палітычная магутнасьць Савецкага Саюзу.

Усё гэта надзвычайна непакоіць буржуазны сьвет.

У апошні час узмацнілася шалёная атака на наш Савецкі Саюз. Як мы на гэта адказваем? Нязьменным імкненьнем да міру, бадаўніцтвам сацыялізму, умацоўваньнем абароназдольнасьці нашае краіны. Мы ўпэўнена ідзем па вялікім шляху. Праводзячы палітыку міру, займаючыся нашым гаспадарчым будаўніцтвам, мы павінны быць заўсёды на варце. І калі буржуазея ўздумае напасьці на нашу сацыялістычную дзяржаву, рабочыя і сяляне наш Савецкі Саюз абароняць.

„Саюзная дзяржава, гаворыцца ў дэклярацыі аб стварэньні Саюзу ССР, зьявіцца пасьпешным вынікам закладзеных яшчэ ў кастрычніку 1917 г. асноў мірнага сужыцьця і братэрскага супрацоўніцтва народаў, яна будзе верным адказам проці сусьветнага капіталізму і новым рашучым крокам па шляху аб'яднаньня працоўных усіх краін у Сусьветную Сацыялістычную Савецкую Рэспубліку“.

Ці-ж на вечны час пішам сваю канстытуцыю? Зразумела, не. Будзе час, што ажыцьцёвіцца камунізм, тады ня будзе ні падзелу на клясы, ні дзяржаўнай улады. Тады канстытуцыя займе слаўнае месца ў гісторыі, тады яна будзе адным з велічэзных гістарычных помнікаў пэрыяду гісторыі, які павінен скончыцца вызваленьнем назаўсёды чалавецтва ад нявольніцтва.

*М. Сэгаль.*

# ВЫНІКІ ДВУХ-ГАДОВАЙ ПРАЦЫ НАРОДНАГА КАМІСАРЫЯТУ ЮСТЫЦЫІ Ў ГАЛІНЕ ЎЗМАЦНЕНЬНЯ ДЗЕЙНАСЬЦІ ОРГАНАЎ ЮСТЫЦЫІ БССР І ЧАРГОВЫЯ ЗАДАЧЫ.

Падводзячы ў кароткіх рысах агульныя вынікі дзейнасьці Народнага Камісарыяту Юстыцыі за апошнія два гады, патрэбна адзначыць, што калі ў 1923 годзе дзейнасьць НКЮ была накіравана, галоўным чынам, на беспасрэдную арганізацыю самога судовага апарату ў мэтах правільнага яго канструктаваньня і набліжэньня яго да насельніцтва, то ў 1926 г. галоўная ўвага НКЮ была зьвернута на правільнасьць пастаноўкі працы падлеглых яму органаў, на пашырэньне і паглыбленьне працы судовых органаў і на павышэньне якасьці іх працы.

Неабходна падкрэсьліць, што стаяўшыя перад органамі Юстыцыі задачы, у асаблівасьці перад НКЮ, на працягу апошніх двух гадоў, разьвязаны ў значнай меры.

Да дасягненьняў органаў Юстыцыі БССР, якія атрыманы ў выніках двухгадовай працы, неабходна аднесьці ніжэйнаступнае:

1. Значнае набліжэньне суду да насельніцтва шляхам арганізацыі акруговых судоў у 7-мі акругах, замест быўшага Вышэйшага Суду, які знаходзіўся ў гор. Менску і 2-х яго сталых сэсій, знаходзіўшыхся ў г. г. Магілёве і Віцебску.

У сучасны момант НКЮ падрыхтоўваецца пытаньне да арганізацыі апошняга Акруговага Суду ў гор. Полацку. Пашырана сетка народнага суду да 1-га вуч. нарсуду на 1 адміністрацыйны раён і пашырана сетка судовых выканаўцаў. Арганізаваны сталыя выяздныя сэсіі акрсудоў, дзе ня дзейнічаюць акруговыя суды. Прыстасаваны паасобныя народныя суды ў паасобных прамысловых раёнах для разгляду спраў аб парушэньнях Кодэксу Законаў аб працы і арганізавана працоўная сэсія для разгляду працоўных спраў у гор. Віцебску. Значна павялічылася праца судовых органаў па разгляду спраў у выяздных сэсіях па месцу ўчыненьня злачынства. Усе праведзеныя мерапрыемствы за апошнія два гады далі магчымасьць значна наблізіць суд да насельніцтва і абараніць насельніцтва ад лішніх нявыгаднасьцяй і больш своячасна разгледжваць справы.

2. Палепшана пастаноўка працы па аказаньню юрыдычнай дапамогі насельніцтву шляхам карэннай рэарганізацыі калегіі абаронцаў у адпаведнасьці з патрабаваньнем уноў прынятага Палажэньня аб Судабудаўніцтве БССР.

У сучасны момант апарат калегіі абаронцаў арганізацыйна дапасован да найлепшага абслугоўваньня насельніцтва. Пры ўсіх акруговых судох арганізаваны калегіі абаронцаў, якія падпарадкаваны пад непасрэднае кіраўніцтва, з аднаго боку,—акруговых судоў, а з другога—Усебеларускага аб'яднаньня калегій абаронцаў. Арганізацыйна правільна пабудавана сетка юрыдычных кансультацый як у гарадох, так і ў раёнах; наладжваецца сувязь членаў калегіі абаронцаў з даведачнымі сталамі пры хатах-чытальнях у мэтах інструктаваньня ізбачоў аб парадку аказаньня юрыдычнай дапамогі сялян-

ству, наладжваньня працы гэтых даведачных сталоў і пастаноўкі дакладаў на розныя тэмы савецкага права. Апрача таго, неабходна падкрэсьліць, што мясцовыя працаўнікі прыступілі да пабудаваньня кансультацыйных сталоў пры буйных прадпрыемствах і заводзкіх клюбах. Усе прыведзеныя мерапрыемствы далі магчымасьць значна пашырыць колькасьць паслуг насельніцтву, у асаблівасьці бясплатных, павялічыць лік выступленьняў па ардарох суду, а таксама пашырыць палітычна-асьветную працу членаў калегіі абаронцаў.

3. Канчаткова аформлен натарыят у адпаведнасьці з асновамі саюзнага натарыяту, а таксама набліжан да шырокіх гушч насельніцтва як шляхам пэрыядычных выездаў натарыусаў для пастаноўкі справаздачных дакладаў і выкананьня розных натарыяльных функцый на мясцох, так і шляхам пашырэньня функцый народных судзьдзяў у ўчыненьні розных натарыяльных дзеяньняў.

4. Арганізацыйна наладжана пастаноўка самаадукацыі судпрацаўнікоў на мясцох шляхам прапрацоўкі дзеючага заканадаўства ў арганізаваных акруговых і раённых юрыдычных гуртакох. Апрача таго, прыступлена да перападрыхтоўкі тэхнічных працаўнікоў судовых устаноў шляхам пропуску іх праз арганізаваныя гурткі па перападрыхтоўцы тэхнічных працаўнікоў.

Праведзеныя ў жыцьцё мерапрыемствы ў гэтым напрамку далі свае вынікі, але трэба думаць, што калі месцы аднясуцца да гэтых мерапрыемстваў з асаблівай увагай, вынікі ад працы гэтых гурткоў будуць вельмі значныя і посьпех іх будзе гарантаван поўнасьцю.

5. Маюцца значныя дасягненьні ў галіне ўздыму кваліфікацыі адказных судовых працаўнікоў, так і падрыхтоўкі новых кадраў працаўнікоў з асяродку сялянства і працоўных шляхам пропуску праз спэцыяльныя юрыдычныя курсы, якія арганізаваны пры НКЮ.

У мінулым годзе НКЮ ўдалося перападрыхтаваць і падрыхтаваць каля 70-ці чалавек, з якіх пасьля сканчэньня гэтых курсаў паслана на практычную працу каля 50-ці чалавек. У сучасны момант набран новы склад слухачоў другога скліканьня юрыдычных курсаў у колькасьці 70 чалавек. Вынікі працы курсаў значныя і далі вялікую карысьць, у асаблівасьці слухачом, якія былі ўзяты на курсы з непасрэднай судовай практычнай працы. Асобам, якія скончылі юрыдычныя курсы, не працаваўшым раней на судовай працы ў судовых органах, было вельмі цяжка праходзіць гэтыя курсы і, як судовыя працаўнікі,—яны яшчэ слабыя.

6. Значныя вынікі двух-гадовай працы маюцца ў галіне каранізацыі суду, натарыяту, калегіі абаронцаў і судовых выканаўцаў, як у адносіне адказных працаўнікоў, так і ў адносіне тэхнічных. Побач з каранізацыяй судовага апарату маюцца таксама значныя вынікі ў галіне дапасаваньня органаў суду да таго, каб судовы апарат мог бесьперапынку абслугоўваць насельніцтва ўсіх нацыянальнасьцяй Рэспублікі на іх роднай мове. У сучасны момант неабходна лічыць, што гэта праца яшчэ ня зусім скончана і павінна стаяць у парадку дня і ў далейшым.

7. Вялікія дасягненьні маюцца ў галіне беларусізацыі органаў Юстыцыі. У сучасны момант амаль што ўсе органы Юстыцыі вядуць сваю працу на беларускай мове і маецца толькі нязначны лік тых органаў Юстыцыі, якія працаўжаюць яшчэ выносіць прыгаворы і рашэньні і вясьці судагаварэньне на расейскай мове.

8. За апошнія два гады значна ўзмацнеў склад судовых працаўнікоў, як у галіне партыйнасьці, сацыяльнага становішча, кара-

нізацыі, так і ў сэнсе падрыхтоўкі яго. Зробленая ў гэтым напрамку праца як шляхам жывога інструктаваньня судовых працаўнікоў, рэвізій, нарад, пэрыядычных апытаньняў судовых працаўнікоў у спэцыяльных камісіях, дакладаў на інструкцыйных нарадах пры Аддзеле Судабудаўніцтва і Нагляду НКЮ, калегіі НКЮ і пленумах акруговых судоў, так і шляхам, сваячасна дадзеных пісьмовых паказаньняў праз тлумачэньні і абежнікі, цыркулярныя, таварыскія і дырэктыўныя лісты на падставе актаў рэвізіі і касацыйнай практыкі,—у поўнай меры сябе апраўдала і дала станоўчыя вынікі. Трэба лічыць, што ўстанавіўшыйся парадак гэтай працы ў напрамку інструктаваньня судовых працаўнікоў павінен быць замацаваны і мясцовыя працаўнікі, у асаблівасьці акрсудоў, павінны гэту працу паглыбляць і пашыраць, як у напрамку ахвату пытаньняў, так і ў напрамку старанна́й прапрацоўкі іх. У далейшым, калі гэтыя рэкамэндаваныя мэтады будуць працаўнікамі акруговых судоў выконвацца, а нізавыя працаўнікі, у асаблівасьці нарсудзьдзі, аднясуцца з належнай увагай да прапрацоўкі ўказаньняў, якія імі атрымліваюцца ад вышэйстаячых устаноў і будуць сваячасна выконваць іх, дык гэта дасьць магчымасьць яшчэ вышэй падняць кваліфікацыю судовых працаўнікоў і тым самым будзе палепшана якасьць працы.

9. За апошнія два гады маюцца значныя вынікі ў галіне падбору членаў калегіі абаронцаў і пашырэньня яе складу.

Маючыся рост калегіі абаронцаў праходзіў, галоўным чынам, не за лік старай прафэсіянальнай адвакатуры, а за лік асоб, якія скончылі вузы і іншых асоб, якія вытрымалі спробы ў спэцыяльных камісіях.

У мэтах забесьпячэньня больш шырокага доступу ў калегіі абаронцаў устаноўлен пры ёй інстытут стажораў; асобы, якія прыняты ў стажоры, праходзяць вядомы час практыкі пад кіраўніцтвам выдзеленых абаронцаў пры юрыдычных кансультацыях. Затым, па сканчэньні пэўнага пэрыяду часу практычнай працы пры юрыдычных кансультацыях, гэтыя асобы падлягаюць апрабаваньню і залічваюцца ў лік абаронцаў. Такім чынам, за пэрыяд двухгадовай працы ўдалося ўліць у склад абаронцаў, якія складаліся пераважна з старай адвакатуры, новы пласт савецкіх адвакатаў.

10. Неабходна падкрэсьліць, што за гэтыя два гады ўдалося ўстанавіць нармальную сувязь ніжэйстаячых судовых устаноў з вышэйстаячымі органамі, што апошнім дало магчымасьць забясьпечыць живое кіраўніцтва працы нізавых судовых устаноў.

11. У галіне грамадзка-палітычнай працы і папулярызацыі права маюцца таксама значныя вынікі, і значная частка судовых працаўнікоў, выконвае шэраг выбарных абавязкаў, як-та: членаў РВК'аў, Гарсаветаў, розных рэвізійных камісій і партыйных органаў. Удзел судовых працаўнікоў у грамадзкай палітычнай працы дзяржавы значна замацаваў, як асабісты аўтарытэт судовых працаўнікоў, так і самых судовых органаў. Апрача таго, за апошнія два гады шырэй разгарнулася праца судовых працаўнікоў па папулярызацыі савецкага права сярод шырокіх працоўных гушч сялянства. За гэты час судовымі працаўнікамі прачытаны сотні дакладаў на розныя тэмы савецкага заканадаўства.

12. Калі ў мінулыя гады кампанія па перавыбарах народных засядацеляў працякала няпрыкметна, дык перавыбары іх за апошнія два гады прыходзілі пры шырокім удзеле рабочых і сялян. Апошняя кампанія па перавыбарах нарзасядацеляў саправаджалася прадвы-

барнымі сходамі, на якіх судовыя працаўнікі, а таксама і актыўныя народныя засядацелі рабілі справаздачу аб сваёй працы, а таксама судовыя працаўнікі чыталі даклады аб ролі і значэньні савецкага суду, аб рэвалюцыйнай законнасьці, аб правох і абавязках народных засядацеляў; апрача таго, у апошні момант судовымі працаўнікамі ў большасьці раёнаў і гарадоў шырока разгорнута праца па азнаямленьню народных засядацеляў з асноўнымі пытаньнямі дзейнага права.

Неабходна падкрэсьліць, што кампанія па перавыбарах народных засядацеляў на 1927 г. праходзіла куды жывей і ёю прыцягнута вялікая ўвага працоўных. У далейшым неабходна ўсім судовым працаўнікам імкнуцца да таго, каб кампанія па перавыбарах народных засядацеляў працякала больш жывей, для чаго неабходна мясцовым судовым працаўнікам увязаць сваю непасрэдную працу з грамадзкімі савецкімі органамі шляхам пастаноўкі больш справаздачных дакладаў аб працы суду на сельскіх і мясцовых сходах і прафсаюзных сходах, што дасьць магчымасьць больш зацікавіць сялянства працаю суду і тым самым удасца яшчэ больш ажывіць кампанію па перавыбарах народных засядацеляў.

13. Судовая палітыка па крымінальных і грамадзянскіх справах значна выраўнялася і масавых з'явішч скрыўленьня судовай палітыкі па гэтых справах не наглядаецца. Маюцца адзінкавыя выпадкі вынясеньня няправільных прыгавараў і рашэньняў, але ўстанавіўшыйся строгі нагляд, як з боку пракуратуры, так і з боку касацыйных калегій акруговых і найвышэйшага суду, неадкладна зьнішчае іх, і судовая палітыка па крымінальных і грамадзянскіх справах хутка выпраўляецца.

Вялікі ўплыў на выпраўленьне судовай палітыкі па крымінальных і цывільных справах паказалі касац. калегіі зноў арганізаваных акруговых судоў, якія ў сучасны момант значна прыбліжаны да нізавога судовага апарату. Да кастрычніка 1925 г. касацыйныя калегіі быўш. вышэйшага суду былі зачна аддалены ад судовага апарату і зьяўляліся не настолькі гібкімі, каб яны мелі магчымасьць хутка выпраўляць працу народных судоў, дзякуючы чаму ў той час назіралася вялікая колькасьць скрыўленьня судовай палітыкі як па крымінальных, так і па грамадзянскіх справах.

14. За апошнія два гады значна паменшыўся процант адмены прыгавараў і рашэньняў, а таксама значна ўскорыўся рух спраў у судовых органах, што тлумачыцца тым, што на працягу паказанага пэрыяду, за ўвесь час існаваньня органаў Юстыцыі, упяршыню абравізаваны амаль усе судовыя органы Рэспублікі, а таксама-падборам на судовыя пасады больш падрыхтаваных працаўнікаў.

Немалы ўплыў таксама аказвала на процант адмены прыгавараў і рашэньняў частая зьмена судзьдзяў. Меліся выпадкі, калі на судовую працу высоўваліся працаўнікі зусім непадрыхтаваныя, якія спачатку сваёй працы ў судох з прычыны невыстарчальнай падрыхтоўкі дапушчалі шмат памылак і прыходзілася адмяняць вынесеныя імі прыгавары і рашэньні. Зьвяртае на сябе ўвагу, што ў апошні час процант адмены прыгавараў і рашэньняў, з прычыны неправасуднасьці, у адносінах да ўсёй масы разгледжаных судовымі органамі крымінальна-грамадзянскіх спраў вельмі нязначны. Галоўным чынам, прыгавары і рашэньні адмяняліся з прычыны дапушчаных парушэньняў працэсуальных норм, што тлумачыцца тым,

што паасобныя судзьдзі яшчэ невыстарчальна знаёмы з крымінальным і грамадзянскім працэсам, і некаторай няўважлівасьцю і нядбайнасьцю вядзеньня судовых працэсаў.

Тэрміны прахаджэньня спраў у розных стадыях судовага працэсу наогул скараціліся і момант пакараньня да моманту ўчыненьня злачынства значна прыблізіўся.

15. Маюцца значныя дасягненьні ў галіне выкананьня прыгавараў і рашэньняў. Аднак, неабходна адзначыць, што, з прычыны таго, што колькасьць судовых выканаўцаў недахватная і што судовыя выканаўцы ня досыць забясьпечаны і кваліфікаваны, гэтагаліна працы яшчэ кульгае, хоць прапускная здольнасьць з кожным годам павялічваецца. Вельмі шкодна адбіваецца на працы судовых выканаўцаў тое, што ім прыходзіцца абслугоўваць вялікую тэрыторыю, а сродкаў на пераезд іх амаль ня маецца, што выклікае загрузку нявыкананых прыгавараў і рашэньняў, а таксама нараканьні з боку насельніцтва.

У далейшым неабходна будзе зьвярнуць увагу на гэту галіну працы з боку ўсіх судовых працаўнікоў і прыняць самыя рашучыя меры да больш частага інструктаваньня судовых выканаўцаў і больш стараннага падбору іх, а таксама прыдзецца падняць хадайніцтва перад адпаведнымі органамі аб павялічэньні іх колькасьці.

Для замацаваньня маючыхся дасягненьняў як у арганізацыйным пабудаваньні органаў Юстыцыі, так і ў пастаноўцы іх працы, у далейшым усім судовым працаўнікам неабходна будзе ўдзяліць увагу на прывядзеньне ў жыцьцё ніжэйнаступных задач, якія стаяць перад усімі органамі Юстыцыі ў цэлым:

1. У галіне арганізацыі судовых органаў і далейшага наближэньня іх да насельніцтва:

а) зьвярнуць увагу працаўнікоў органаў Юстыцыі да паляпшэньня працы судовых выканаўцаў, вывучэньня пытаньня, наколькі выстарчальна сетка судовых выканаўцаў, і інструктаваньню іх, а таксама да неабходнасьці перагляду асабовага складу судовых выканаўцаў і да падбору больш падрыхтаваных асоб на гэтыя пасады.

б) Неабходна звярнуць увагу працаўнікам усіх акруговых і народных судоў на неабходнасьць перагляду асабовага складу тэхнічных працаўнікоў акруговых і народных судоў і натарыяту, у мэтах замены больш слабых працаўнікоў больш працаздольнымі.

в) Неабходна працаўнікам акруговых судоў зьвярнуць увагу на вывучэньне нагрузкі вучасткаў народнага суду па пытаньню аб неабходнасьці прыстасаваньня існуючых штатаў да сапраўднай нагрузкі вучастку народнага суду.

г) Неабходна зьвярнуць увагу ўсім працаўнікам на дзейнічаючыя працоўныя сэсіі ў прамысловых раёнах і прыступіць да вывучэньня пытаньня аб мэтазгоднасьці застаўленьня працоўных сэсій пры паасобных вучастках народнага суду.

д) Закончыць працу па арганізацыі акруговых і раённых юрыдычных гурткоў і гурткоў па перападрыхтоўцы тэхнічных працаўнікоў і разгарнуць больш сталую працу гэтых гурткоў.

е) Наладзіць арганізацыйна прац у судовых перакладчыкаў і судовай экспэртызы, для чаго выявіць у кожнай акрузе колькасьць гэтых асоб, а таксама скласьці цьвёрдыя сьпісы іх і дагаварыцца з адпаведнымі органамі аб парадку іх выклікаў.

ж) Неабходна прыняць усім працаўнікам самыя рашучыя крокі да прывядзеньня старых архіўных спраў у парадак і перадачы іх у органы Цэнтральнага Архіву, для чаго неабходна дагаварыцца на мясцох з прадстаўнікамі з Цэнтра-Архіву аб парадку, прыёме і здачы спраў у органы Цэнтра-Архіву.

2. У галіне пастаноўкі працы па аказаньню юрыдычнай дапамогі насельніцтву неабходна прыняць наступныя крокі:

а) Прыняць самыя рашучыя меры да ўкамплектаваньня ўсіх раёнаў членамі калегіі абаронцаў.

б) У мэтах набліжэньня юрыдычнай дапамогі да фабрычна-заводзкіх клюбаў і прадпрыемстваў неабходна ўзгадніць пытаньні на мясцох з прафэсійнымі органамі аб парадку правядзеньня гэтай працы і прыняць самыя рашучыя меры да арганізацыі кансультацыйных сталоў на прадпрыемствах і ў фабрычна-заводзкіх клюбах.

в) Неабходна дагаварыцца з акруговымі паліт-прасьветамі аб парадку арганізацыі справачных сталоў пры хатах-чытальнях і нардамох, а таксама дагаварыцца аб парадку снабжэньня справачных сталоў неабходнай юрыдычнай літаратурай.

г) Апрача таго, судовым працаўнікам акрсудоў неабходна дагаварыцца з акруговымі выканаўчымі камітэтамі аб неабходнасьці выданьня сумеснага ліста раённым выканаўчым камітэтам аб аказаньні дапамогі раённым членам калегіі абаронцаў, у сэнсе прадстаўленьня неабходных сродкаў пераезду пры выездах абаронцаў у сёлы для інструктаваньня ізбачоў справачных сталоў і аказаньня юрыдычнай дапамогі і папулярызаваньня савецкага права.

д) Наладзіць пастаноўку работы раённых юрыдычных кансультацый такім чынам, каб гэтыя кансультацыі былі сапраўднымі органамі, у якіх працоўныя маглі-б атрымаць аўтарытэтную юрыдычную дапамогу, і вырвалі насельніцтва з рук падпольнай адвакатуры і іншых сурагатаў юрыдычнай дапамогі, дзеля чаго працаўнікам калегіі абаронцаў і судовым працаўнікам неабходна павесьці рашучую барацьбу з выпадкамі перавышэньня устаноўленых такс за аказваемыя ўслугі з боку паасобных членаў калегіі абаронцаў.

е) Неабходна дагаварыцца з раённымі выканаўчымі камітэтамі аб неабходнасьці выслухоўваньня дакладаў раённых юрыдычных кансультацый на пасяджэньнях прэзыдыумаў раённых выканаўчых камітэтаў, што дасьць магчымасьць больш увязаць гэту галіну працы з вышэйшым кіруючым органам раёну і падняць аўтарытэт раённых юрыдычных кансультацый.

ж) Неабходна вывучыць пытаньне аб мэтазгоднасьці застаўленьня дзейнічаючых канторскіх Бюро ў адпаведных раёнах, а таксама аддзейнічаючых канторскіх Бюро ў адпаведных раёнах, а таксама адшукаць меры да іх замены юрыдычнымі кансультацыямі, бо гэты від юрыдычнай дапамогі ўсьлізгае ад нагляду і агульнага кіраўніцтва судовых органаў і калегіі абаронцаў.

з) Неабходна прыняць належныя крокі да пашырэньня працы па папулярызацыі права членаў калегіі абаронцаў і ўсімі мерамі вясьці барацьбу з усякага роду ўхіламі ад гэтай працы аж да выключэньня з калегіі абаронцаў.

Працаўнікам акруговых судоў і прэзыдыумаў калегіі абаронцаў неабходна будзе ўстанавіць парадак складаньня пэрыядычных ацэначных характарыстык аб дзейнасьці членаў калегіі абаронцаў у якіх павінна ацэньвацца праца членаў калегіі абаронцаў з высьвятленьнем іх грамадзкай дзейнасьці і ў тых выпадках, калі той або

іншы член абаронцаў прыймае зусім малы ўдзел у грамадзкай працы, прымаць меры да пашырэньня ім гэтай працы, а ў паасобных выпадках, ставіць нават і пытаньне аб мэтазгоднасьці яго застаўленьня ў калегіі абаронцаў.

і) Неабходна прыняць належныя крокі, каб на пленумах акруговых судоў рэгулярна заслухоўваліся даклады аб працы калегіі абаронцаў, а таксама, каб быў усілен нагляд акруговых калегій абаронцаў за дзейнасьцю акруговых кансультацый, а акруговых судоў —за дзейнасьцю акруговых калегій абаронцаў.

3. У галіне працы натарыяту:

а) Неабходна ўстановіць больш цьвёрдае кіраўніцтва дзейнасьцю натарыяльных кантор, як шляхам заслухоўваньня пэрыядычных дакладаў на пленумах акруговых судоў, так і шляхам плянавых рэвізій і па-заплянавых пэрыядычных абсьледаваньняў.

б) Неабходна дабіцца большай папулярызацыі натарыяту сярод насельніцтва натарыусамі, шляхам пастаноўкі дакладаў аб ролі і значэньні натарыяту.

в) Неабходна дабіцца ўзмацненьня інструктажу народных судзьдзяў, якія выконваюць натарыяльныя функцыі райвыканкомаў і сельсаветаў шляхам пэрыядычных выездаў натарыусаў на месцы для гэтай мэты і для ўчыненьня натарыяльных дзеяньняў.

4. У галіне самападрыхтоўкі працаўнікоў Юстыцыі:

а) Усім працаўнікам неабходна ўдзяліць увагу папаўненьня сваіх ведаў шляхам больш акуратнага даведваньня юрыдычных гурткоў і гурткоў па перападрыхтоўцы тэхнічных працаўнікоў, што дасьць магчымасьць павялічыць іх веды, аблегчыць іх працу і палепшыць якасьць яе.

Судэвым працаўнікам неабходна адмовіцца ад звычайнай адгаворкі, што няма калі ўдзяліць адпаведнага часу самаадукацыі.

Судовыя працаўнікі павінны, ня гледзячы ні на якія цяжкасьці, вылучыць час да самаадукацыі і павінны зразумець, што, калі яны павялічаць свае веды, дык у першую чаргу прынясуць карысьць самі сабе, бо калі той або іншы працаўнік будзе кепска спраўляцца з сваімі абавязкамі, з прычыны малой падрыхтоўкі і ня досыць значнага знаёмства з работай, то такія працаўнікі заставацца на далейшай працы ня змогуць; дзеля гэтага ўсім працаўнікам неабходна будзе аддаць больш увагі працы самаадукацыі шляхам рэгулярнай сталай працы ў юрыдычных гуртках і ў гуртках па перападрыхтоўцы тэхнічных працаўнікоў.

б) Неабходна ў далейшым праводзіць рэгулярную працу па інструктаваньні судовых органаў шляхам рэвізіі пад кутом выкананьня дадзеных дырэктыў, зьездаў і нарад—пад кутом абмену вопытам і абагуленьня практыкі і абежнікаў і інструкцый на падставе касацыйнай практыкі.

в) Дабіцца таго, каб ні адна дырэктыва не заставалася нявыкананай, а таксама дабіцца, каб судовыя працаўнікі ўсвоілі, што за кожнае нявыкананае даручэньне ў першую чаргу зьяўляецца адказнай тая асоба, якой было дадзена даручэньне.

г) Працаўнікам касацыйных калегій акруговых судоў неабходна павесьці ў далейшым барацьбу з дапускаемымі народнымі судзьдзямі парушэньнямі шляхам спраўленьня іх і дачы паказаньняў пры дапамозе прыватных пастаноў, і ў выпадках устанаўленьня паўторных парушэньняў, па якіх ужо былі дадзены паказаньні, не застаўляць такія выпадкі без пакараньня і выносіць пастанову аб

прыцягненьні такіх народных судзьдзяў да дысцыплінарнай адказнасьці або аб назначэньні праверкі ведаў іх у апрабавальных камісіях.

5. У галіне падбору членаў калегіі абаронцаў:

а) Працаўнікам акруговых судоў разам з членамі Прэзыдыумаў калегій абаронцаў неабходна зьвярнуць увагу, каб праз інстытут стажoраў пры калегіях абаронцаў былі завярбованы ў калегіі абаронцаў перадавыя працаўнікі сельскай і местачковай працоўнай інтэлігэнцыі, а таксама-грамадзкія працаўнікі з рабочых і сялян. Апроч таго, неабходна абгаварыць на пленумах акруговых судоў, каб асобы, якія залічаны ў лік стажораў, праходзілі практычную працу ня толькі ў акруговых цэнтрах, але і пры раённых юрыдычных кансультацыях, пад наглядам і кіраўніцтвам раённых членаў калегіі абаронцаў.

б) У мэтах рэгуляваньня сацыяльнага росту калегіі абаронцаў неабходна зьвяртаць увагу на сацыяльнае становішча асоб, якія жадаюць уступіць у калегію абаронцаў.

в) Акруговым судовым працаўнікам разам з членамі Прэзыдыумаў калегіі абаронцаў неабходна абгаварыць на пленумах, акруговых судоў аб мэтазгоднасьці адчыненьня больш шырокага доступу ў шэрагі калегіі абаронцаў.

6. У галіне сувязі нізавых судовых органаў з вышэйстаячымі судовымі органамі неабходна ў далейшым пры пастаноўцы справаздачных дакладаў на пленумах акруговых судоў зьвяртаць самую сур'ёзную ўвагу на ступень выкананьня дадзеных дырэктыў, на плянавасьць працы і на падрыхтоўку судовых працаўнікоў.

7. У галіне грамадзкай працы і папулярызацыі права:

а) Прыняць усім судовым працаўнікам належныя крокі да пашырэньня працы органаў Юстыцыі па папулярызацыі савецкага права і якаснага паляпшэньня яе. Зьвярнуць таксама ўвагу на тое, каб судовыя працаўнікі пры выступленьні на праўныя тэмы стала падрыхтоўваліся да іх.

б) У галіне па азнаямленьні з народнымі засядацелямі з асноўнымі пытаньнямі дзейнічаючага права неабходна прыняць меры, каб намечаная праграма лекцый па праўных пытаньнях была выканана поўнасьцю.

8. У галіне судовай палітыкі, адмены рашэньняў і прыгавараў і руху спраў:

а) Неабходна пераламаць адносіны судовых працаўнікоў да статыстычных матар'ялаў і прыняць меры, каб усімі судовымі працаўнікамі статыстычныя матар'ялы вывучаліся і на падставе іх дапасоўвалі сваю працу.

б) Павесьці самую рашучую барацьбу за тое, каб атрымоўваемыя на мясцох абежнікі, якія тычацца назначэньня спраў да слуханьня, выконваліся бяз усякіх адступленьняў.

в) Неабходна паклапаціцца, каб касацыйная практыка прапрацоўвалася і сваечасова складаліся характарыстыкі на народных судзьдзяў і дырэктыўныя лісты на падставе касацыйнай практыкі, што дасьць магчымасьць народным судзьдзям сваечасова ўносіць карэктывы ў сваю працу.

9. У галіне выкананьня прыгавараў і рашэньняў:

а) Працаўнікам акруговых судоў неабходна прыняць належныя меры да абрэвізаваньня ўсіх судовых выканаўцаў і заслухоўваньня іх справаздачных дакладаў на пленумах акруговых судоў.

б) Неабходна пераглядзець склад судовых выканаўцаў у мэтах больш дакладнага падбору іх і адхіленьня больш няпрыгодных ад выкананьня ускладзеных на іх абавязкаў.

в) У мэтах паляпшэньня працы судовых выканаўцаў неабходна устанавіць пільны нагляд з боку народных судзьдзяў за рухам спраў у судовых выканаўцаў.

*С. Эднэрал.*

## АБ ГАСПАДАРЧЫХ ЗЛАЧЫНСТВАХ.

У барацьбе з буржуазіяй мы абапіраемся на нашу эканоміку: буйная прамысловасьць і буйны гандаль асяродкаван у руках дзяржавы. Умацаваньне Савецкай Улады ў сваім далейшым ходзе цалкам залежыць ад умацаваньня і разьвіцьця нашай дзяржаўнай прамысловасьці, дзяржаўнага гандлю і каапэрацыі. І ўпаўне натуральна адсюль, што як раз па гэтым напрамку ідзе, як адкрыты абстрэл, так і тайныя падкопы пад Савецкую Уладу і яе эканоміку з боку зноў падымаючайся „нэпманскай“ буржуазіі.

Значыцца, там, дзе трудна ўзяць верх у адкрытым паядзінку, новы буржуа імкнецца пралезьці ў апорныя пункты дзяржаўнага мэханізму хітрасьцю і абманам. Так, ён падшуквае слабыя месцы і ўдобныя подступы да цытадэляў Савецкай гаспадаркі, ён знаходзіць сабе тайных саюзьнікаў і памочнікаў сярод службовых асоб-агэнтаў дзяржавы, абвалакае іх тонкаю павуцінаю розных асабовых спакусьнікаў (удзел у барышох, дастаўленьне сродкаў на куцяжы і іншыя) і такім шляхам вярбуе здраднікаў у лягеры свайго ворага.

Учыняючы злачынствы супроць гаспадарчых інтарэсаў Савецкай дзяржавы, прыватныя асобы наўмысьля, а агэнты дзяржавы іншы раз наўмысьля, а іншы раз і неасьцярожна падтачваюць, паслабляюць і разбураюць гаспадарчы апарат дзяржавы і тармозяць эканамічны посьпех пралетарскай рэвалюцыі.

Вось чаму наш Крымінальны Кодэкс высоўвае на адно з цэнтральных месц, так званыя, гаспадарчыя злачынствы, вылучаныя ў кодэксе ў асобны 4-ы разьдзел, і вось чаму ў нашай практычнай штодзённай барацьбе за Савецкую эканоміку мы павінны заўсёды трымаць у руках нагатове гэгу прыладу Крымінальнага закону супроць злачынцаў, якія ўчынялі гаспадарчыя злачынствы. У той-жа час нам неабходна навучыцца ўладаць гэтым законам з такою спрытнасьцю і ўдасканаленьнем, каб, паражаючы сапраўды вінаватых, не наносіць, аднак, удараў тым інтарэсам і мэтам, дзеля якіх быў дапушчан да жыцьця ў нашай эканамічнай палітыцы прыватны капітал. Труднасьць барацьбы з гаспадарчымі злачынствамі павышаецца яшчэ тым, што ў сучасны момант, у сувязі з ускладненьнем нашага гаспадарчага эканамічнага жыцьця, злачынныя дзеяньні гэтай катэгорыі ўсё больш і больш апранаюцца вонкавымі формамі, складна і прыгожа. Выкачваньне сродкаў з дзяржаўнай прамысловасьці, дзяржаўнага гандлю і каапэрацыі прыватным капіталам або няўстойлівымі элемэнтамі на ўласным гаспадарчым фронце, адбываецца пад відам нармальнай гаспадарчай дзейнасьці, шляхам заключэньня стратных па сутнасьці дагавораў і шляхам марнатрацтва народнай

маемасьці з іншых прычын, нібы станоўчай і творчай гаспадарчай работы.

Праўда, і цяпер прыходзіцца тут і там натыкацца на б'ючую ў вочы стратнасьць дагавораў і на адкрытае, незамаскіраванае невыкарыстаньне дагавораў кантрагэнтамі па зланамернасьці або ў сілу нядобрасумленных адносін да ўгоды. Але гэтыя выпадкі лёгка ўлаўліваюцца рэвізіяй РСІ, органамі ДПУ, сьледзтва, суду і пракуратуры і дзеля гэтага не пасьпяваюць глыбока пусьціць злачынныя карэньні і зрабіць буйны ўшчэрбак каб улавіць больш буйныя гаспадарчыя злачынствы, трэба зорка і напружана ўглядацца ў надворна „прыстойны" ход гаспадарчых апэрацый, бо толькі пры гэтай умове можна спасьцерагчы гаспадарчае злачынства.

Часьцей усяго прыходзіцца натыкацца на наступныя канкрэтныя віды і спосабы гаспадарчых злачынстваў:

1. Самае разнастайнае пратэктарства з боку прадстаўнікоў дзяржаўных органаў прыватнаму прадпрыемцу: а) дапушчэньне дзяржаўным органам пад відам розных прычын прыватнай асобы ў якасьці пасярэдніка між сабою і іншымі дзяржаўнымі органамі; б) крэдытаваньне таварамі дзяржаўныя прадпрыемствы і дзяржаўнага гандлю малазаможных або зусім незаможных даўжнікоў; в) забесьпячэньне прыватных асоб ад імя дзяржаўных устаноў „дружаскімі" вэксалямі; г) невыкананьне з боку прадстаўніка дзяржаўнага органу па якой небудзь добра віднай прычыне аднэй з умоваў угоды і тым самым стварэньне магчымасьці прыватнаму кантрагэнту запасьціся пярэчаньнем на выпадак прыцягненьня да крымінальнай адказнасьці за невыкананьне дагавору па арт. 130 Крымінальнага Кодэксу; д) прадастаўленьне ўсёй назвы прыватнаму прадпрыемцу, які пад сьцягам дзяржаўнай установы выкарыстоўвае ўсе выплываючыя адсюль перавагі (так працуюць сплош і побач у сваю карысьць усякага роду прадстаўнікі, агэнты, упаўнаважаныя і іншыя па сутнасьці прыватныя дзяльцы, але пры гэтым, напэўна, іншы раз бывае і так, дзяржаўная ўстанова атрымоўвае ад такой работы нават некаторую матар'яльную выгаду, але адначасова наносіць трудна вылічаемы ўшчэрбак народнай гаспадарцы ў цэлым, дэзарганізуючы яе сыстэму і сьціраючы грані між інтарэсамі дзяржавы і прыватных асоб).

2) Вельмі распаўсюджана форма растачэньня народнай маемасьці пад відам розных накладных выдаткаў: як-та: празмерны штат, вельмі высокая аплата некаторых катэгорый служачых, нічым не апраўдываемыя разьезды, раздутыя, камандыровачныя выдаткі, завядзеньне прыгожых абставін, коняй, экіпажаў і іншыя невыклікаемыя карысьцю справы траты.

3) І, нарэшце, выкарыстаньне дзяржаўных органаў у якасьці прылады штучна замаскіраванай эканамічнай контррэвалюцыі. Захоўваючы з надворнага боку від дзяржаўных устаноў, яны ўсёй сваёй дзейнасьцю або вядомай ёй галіною служаць не інтарэсам дзяржавы, а асабовым інтарэсам саміх кіраўнікоў прадпрыемстваў. Апошнія, упітаўшыся ў самы арганізм установы або прадпрыемства, умела камбінуюць яго апэрацыі так, што львіная доля прадукту дастаецца ім, пры чым зручна ўтвараюцца дэкарацыі бястратных і нават прыбыльных балянсаў. Сюды адносяцца і тыя выпадкі, калі заправілы, дзейнічаючы пад вонкавай дабравіднай маскай, у сапраўднасьці б'юць на падрыў і разбурэньне гаспадаркі ўстановы або прадпрыемства, каб у далейшым дзяржаве стала яўна нявыгаднай яе эксплёатаваньне:

тагды, прадпрыемства можа перайсьці ў рукі прыватнага капіталу пад відам арэнды, канцэсіі і інш.

Гэты прыкладны пералік злачынных гаспадарчых махінацый, напэўна, далёка ня вычэрпвае ўсяе тае разнастайнасьці канкрэтных відаў і форм, якімі багата наша рэчавістасьць.

Аднак, ужо з гэтага пераліку відаць, колькі зоркасьці, увагі, ведаў і вопыту трэба нашаму сьледча-судоваму хірургу, каб свачасова і ўмела, бяз шкоды для іншых жыцьцёздольных частак, накіроўваць свой апэрацыйны нож на гэтыя злаякасныя балячкі нашага гаспадарчага арганізму.

Само сабой, разумеецца, што ў надзвычайнай разнастайнасьці і складнасьці злачынных камбінацый у гаспадарчай галіне ляжыць і галоўная перашкода да таго, каб тэорэтычна навучыць пітукарству расьсьледаваць і выяўляць гэтыя злачынствы і вінаватых у іх асоб. Тут можна даць ледзь толькі некаторыя дапаможныя парады і паказаньні, але галоўныя настаўнікі тут-веданьне гаспадарчай каньюнктуры, вопыт, удумчывасьць і зіркае вока. Тут трудна навучыць, тут кожнаму трэба працаваць і, працуючы, вучыцца і пры тым не ў адзіночку, а ў пэўнай ўзгоджанасьці ўсім: і РСІ, і Дз. П. У. і сьледчаму, пракурору і суду.

Зьвяртаючыся да паасобных юрыдычных формул нашага крымінальнага закону, трэба затрымаць увагу, галоўным чынам, на самых сур'ёзных і ў той-жа час „хадавых" яго артыкулах, прысьвечаных гаспадарчым злачынствам. Сюды адносяцца артыкулы 128, 128-а і 130 Крымінальнага Кодэксу.

Артыкул 128 Крым. Код. прадугледжвае бесгаспадарчасьць, стаячых на чале дзяржаўных установ і прадпрыемстваў асоб або іх упаўнаважаных. Ні закон, ні навука крымінальнага права не даюць нам дакладнага юрыдычнага азначэньня паняцьця „бесгаспадарчасьці".

Пагэтаму сьледча-судовай практыцы належыць выходзіць з агульнапрынятага жыцьцёвага, бытавога разуменьня гэтага слова.

Бесгаспадарчасьць—гэта значыць незахоўваньне прынятай сыстэмы, адсутнасьць пляну і парадку пры вядзеньні вядомай гаспадаркі, парушэньне правілаў выпрацаванай экономікі, неэканомнае і нявыгаднае абыходжаньне з гаспадарчым дабром і сродкамі той або іншай адзінкі. Аднак, наш закон лічыць злачыннаю ня ўсякую бесгаспадарчасьць кіраўнікоў дзяржаўных установ і прадпрыемстваў—ён абкладае яе крымінальнай карай толькі тады, калі яна зьвязана з наяўнасьцю дзьвёх умоў, менавіта: 1) калі яна зьяўляецца вынікам неахайнага або нядобрасумленнага вядзеньня справы і 2) калі яна мела сваім пасьледкам марнатрацтва маемасьці ўстановы або прадпрыемства, або трудна пакрываемы ўшчэрбак для іх. Коратка гаворачы, для адказнасьці кіраўніка або яго ўпаўнаважанага па арт. 128 ч. 1-ая Крым. Код. патрабуецца адначасовая наяўнасьць трох прымет: 1) бесгаспадарчасьці, 2) неахайнасьці або нядобрасумленнасьці ў якасьці прычыны гэтай бесгаспадарчасьці і 3) марнатрацтва маемасьці або трудна сплачваемага ўшчэрбку, як вынік той-жа бесгаспадарчасьці. Калі якая небудзь з гэтых трох адзнак або момантаў, а роўна і прычынная сувязь між імі адсутнічае ў дзеяньні, то ў ім і ня будзе складу злачынства, прадугледжанага арт. 128 ч. 1-ая Крым. Код. З другога боку, па гэтаму артыкулу павінен адказваць толькі кіраўнік установы або прадпрыемства, альба асоба ім упаўнаважаная, і пры тым упаўнаважаная не ня ўсякае дзеяньне, а зноў-

такі на кіраўніцтва ўстановай або прадпрыемствам, з прычыны, напрыклад, хваробы і адсутнічаньня сталага кіраўніка. Ні якім іншым падначаленым кіраўніку, хоць-бы і нясучым адказную працу, службоваю асобаю арт. 128 Крым. Код. ў 1-ай частцы ўжывацца ня можа.

Такім чынам, пры расьсьледваньні бесгаспадарчасьці неабходна перш за ўсё дакладана выявіць, хто менавіта стаяў на чале ўстановы або прадпрыемства, самотна або сумесна і з іншымі, а роўна ўстанавіць таксама і час, на працягу якога прадаўжалася кіраўніцтва гэтай асобы. Далей неабходна выявіць, у чым-жа менавіта праявілася бесгаспадарчасьць: ці была сыстэма і плян у працы, а роўна і магчымасьць іх захаваць, якія былі адступленьні або парушэньні сыстэмы пляну і падруку; ці адбыліся яны ад неахайнасьці і нядобрасумленных адносін кіраўніка да абавязкаў сваёй службы або ад іншых прычын і нарэшце, трэба выясьніць ці адбылося ў выніку бесгаспадарчасьці марнатрацтва або ўшчэрбак у маемасьці і якія іх разьмеры.

І як агульнае абавязковае патрабаваньне, трэба захоўваць правіла: спачатку старанная ўсебаковая рэвізія спраў усёй установы або прадпраемства, а потым ужо сьледзтва. Ня трэба, па старой прыказцы, „бить в колокол, не справившись в святцах“. Нельга па якой небудзь аднэй кепска праведзенай угодзе прыйсьці да вываду аб бесгаспадарчасьці кіраўніка. Для падобных выпадкаў існуе арт. 108 Крым. Код. з вынікам па 1-ай або 2-ой частці арт. 105 Крым. Код. або арт. 128-а Крым. Код., або бесгаспадарчасьць трэба ўгледжваць не ў паасобных эпізодах, не ў паасобных выпадкавых апэрацыях, а ў „гаспадараньні, вядзеньні“ справы за вядомы больш ці менш значны пэрыяд часу.

2-ая частка арт. 128 Крым. Код. істотна адрозьніваецца ад 1-ай. Першая частка гэтага артыкулу гаворыць аб басгаспадарчасьці, пазбаўленай злоснага замеру нанесьці ўшчэрбак установе або прадпрыемству, 2-ая-ж частка, наадварот, прадбачыць як раз тыя выпадкі, калі бесгаспадарчасьць узьнікла ня ў выніку нядобрасумленнай нядбайнасьці і саманадзейнасьці кіраўніка, а калі яна была прадыктавана простым замерам пажывіцца за лік дзяржавы. Тут, як новая ўскладняючая склад злачынства адзнака, закон уводзіць „згавор“, г. зн. папярэднюю згоду службовых асоб між сабою або з іншымі, гэта значыць з прыватнымі асобамі, і проста паказвае мэту гэтага згавору—раскраданьне дзяржаўнай маемасьці або асабістую нажыву ўдзельнікаў.

Такім чынам, для дапасаваньня 2-ай часткі арт. 128 Крым. Код. неабходна тыя-ж тры адзнакі, якія ўваходзяць у склад 1-ай часткі, плюс згавор, накіраваны да мэты раскраданьня або асабістай нажывы. Пагэтаму пры расьледваньні спраў аб бесгаспадарчасьці заўсёды трэба імкнуцца дакладна выявіць, ці ня было ў кіраўніка ўстановы або прадпрыемства супольнікаў у асобе іншых прыналежных асоб і ці ня было ў іх між сабою або з пабочнымі асобамі згоды, накіраванай да мэты раскраданьня дзяржаўнай маемасьці і к асабоваму абагачэньню ўдзельнікаў.

*П. Цыніт.*

(Канец будзе)

# СТАН ЗЛАЧЫНСТВА БССР Ў 1926-м ГОДЗЕ *).

## 1. Злачынства БССР.

Для характарыстыкі стану злачынства ў Рэспубліцы за мінулы 1926 год неабходна зьвярнуцца да лічбаў аб колькасьці крымінальных спраў, якія паступілі ў гэтым годзе ў народныя і акруговыя суды. Гэта лічба складае ў 1926 годзе 104400 спраў супроць 97987, якія паступілі ў тыя-ж суды ў 1925 годзе. Такім чынам, паступленьне спраў павялічылася ў 1926 годзе на 6,54 проц. супроць 1925 году. Каб меркаваць аб тым, за лік якіх катэгорый спраў павысілася злачынства ў 1926 годзе, неабходна супаставіць паступленьне спраў па паасобных главах Крымінальнага Кодэксу за 1925 і 1926 гады і разабраць паартыкульнае паступленьне іх.

### а) КОНТР-РЭВАЛЮЦЫЙНЫЯ ЗЛАЧЫНСТВЫ.

У 1925 годзе паступіла 130 спраў па абвінавачваньню ў учыненьні контр-рэвалюцыйных злачынстваў, а ў 1926 годзе паступіла 121 справа гэтакай-жа катэгорыі, што паказвае паніжэньне супроць 1925 году на 6,92 проц. У агульнай масе злачынства контр-рывалюцыйныя справы займаюць 0,11 проц. Што-ж датычыцца характару контр-рэвалюцыйных спраў, дык, галоўным чынам, гэтыя справы складаюцца з спраў па абвінавачваньню ў шпіёнажы, а потым ідуць справы па абвінавачваньню асоб, прыймаўшых пры царскай уладзе ўдзел у актыўнай барацьбе супроць рэвалюцыйнага руху рабочай клясы (арт. 67 К. К.). Ня лішнім таксама будзе адзначыць, што з усяго ліку контр-рэвалюцыйных спраў, узбуджаных у 1926 годзе, 64 справы, альбо 52,89 проц., спынена па матывах адсутнасьці складу злачынства і 12 спраў, альбо 9,99 проц. усіх спраў аб контр-рэвалюцыйных злачынствах—спынена па арт. 4-а КПК за нязначнасьцю і мізэрнасьцю ўчыненага злачынства.

### б) ЗЛАЧЫНСТВЫ СУПРОЦЬ ПАРАДКУ КІРАВАНЬНЯ.

Катэгорыя злачынстваў супроць парадку кіраваньня дала ў 1925 годзе 26784 справы, а ў 1926 годзе—26272, што паказвае аб паніжэньні колькасьці гэтых спраў на 1,91 проц. Пры параўнаньні з агульным паступленьнем усіх спраў—гэта катэгорыя злачынстваў складае 25,16 проц.

Зварочваючыся да паартыкульнага разбору спраў, якія ўваходзяць у групу злачынстваў супроць парадку кіраваньня, належыць адзначыць, што падатковыя справы (2 ч. 79 і 3 ч. 80 арт. арт. КК) неплацеж да тэрміну, альбо адмова ад неплацяжу падаткаў, укрыцьцё альбо няправільнае паказаньне аб'ектаў, якія падлягаюць абкладаньню, павысіліся супроць 1925 году на 29 проц. (у 1925 годзе—1403 і ў 1926 годзе 1810 спраў). Гэта тлумачыцца зьменай рэдакцыі арт. арт. 79 і 80 КК, дзякуючы якой значная частка спраў аб падатковых парушэньнях, якія разгледжваліся ў 1925 годзе ў адміністрацыйным парадку, у 1926 годзе разьвязваліся ў судовым парадку,

*) Па матар'ялах справаздачы аб дзейнасьці Народнага Камісарыяту Юстыцыі і падлеглых яму судовых устаноў.

што павінна была натуральна ўплываць на рост паступленьня ў суды гэткай катэгорыі спраў. Павысілася таксама ў 1926 годзе паступленьне спраў аб зьневажэньні службовых асоб пры выкананьні імі ўскладзеных на іх абавязкаў (арт. 88 КК.) і аб супраціўленьні паасобных грамадзян прадстаўніком улады (арт. 86 КК). Так, напрыклад, у 1925 годзе гэтых спраў паступіла 2190, а ў 1926 годзе 2342, альбо на 12,19 проц. больш, чым у 1925 годзе. Рост вышэйпамянёнай катэгорыі спраў трэба аднесьці пераважна за лік павялічыўшайся колькасьці спажываньня алкаголю, калі бушуючыя ў стане сьп'яненьня асобы зьневажаюць затрымліваючых іх міліцыянэраў і аказваюць ім пры гэтым супраціўленьне.

Некалькі панізілася паступленьне спраў па арт. 81 КК (парушэньне правіл вучоту вайсковаабавязанных). Так, у 1925 годзе паступіла гэтых спраў 4595, а ў 1926--4548, што складае паніжэньне на 1,02 проц. і зьяўляецца вынікам увагі судовых органаў гэтай катэгорыі спраў, якая выразілася ў сваячасным разгледжваньні іх у выяздных сэсіях народных судоў і ў скарыстоўваньні судамі адпаведных паказаньняў НКЮ. Вялікае паніжэньні даюць кантрабандныя справы (арт. 97 КК.), паступленьне якіх панізілася ў 1926 годзе на 67,76 проц. супроць 1925 году (у 1925 годзе паступіла ў суды БССР 670 спраў). Гэта тлумачыцца часткова зьменай падсуднасьці, згодна якой справы па 1 ч. 97 арт. КК (прастая некваліфікаваная кантрабанда), выключаны з судовых устаноў і разгледжваюцца адміністрацыйнымі органамі і апрача таго, узмацненьнем карнай палітыкі па справах аб кантрабандзе. Панізілася таксама паступленьне спраў і аб лесапарушэньнях (арт. 99 КК). Так, напрыклад, у 1925 годзе паступіла гэтых спраў 8296, а ў 1926 годзе—8028, што скадае паніжэньне на 3,24 проц. У гэтым выпадку сказваюцца вынікі разьвязаньня пытаньня аб лясох мясцовага значэньня. Некалькі прыкметней панізілася паступленьне спраў аб сваявольстве (арт. 103 КК). У 1925 годзе паступіла спраў аб сваявольстве 7693, а ў 1926 годзе тых жа спраў паступіла 7478, г. з. паступленьне гэтых спраў панізілася на 6,09 проц., што належыць аднясьці за рахунак праведзенай земляўпарадчай працы, якая паменшыла ў сялянскім быту повад для сваявольнага ажыцьцяўленьня паасобнымі земляробамі дапушчаемага імі права.



### в) СЛУЖБОВЫЯ ЗЛАЧЫНСТВЫ.

Зварочваючыся да спраў аб службовых злачынствах, трэба адзначыць надзвычайны рост апошніх. У той час, як у 1925 годзе агульная колькасьць спраў аб службовых злачынствах, якія паступілі ў судовыя органы, складае 3184, а ў 1926 годзе лік іх узрос да 5953, што складае павышэньне гэтых спраў на 86,96 проц. Што-ж датычыцца параўнаньня службовых злачынстваў з усімі злачынствамі, дык гэткія складаюць 5,7 проц. усіх злачынстваў.

Пры паартыкульным аналізе спраў, якія ўваходзяць у групу службовых злачынстваў, прыкмячаюцца наступныя зьмены ў руху паасобных відаў гэтай групы злачынства. Справы па арт. 105—110 КК (злоўжываньне ўладай, перавышэньне ўлады, бязьдзейнасьць улады, нядбайныя адносіны і выкананьне ўскладзеных абавязкаў і дыскрэдытаваньне ўлады) даюць вялікае павышэньне на 111,27 проц. супроць 1925 году (1260 спраў ў 1925 г. і 2662 справы—у 1926 г.). Трэба мець на ўвазе, што рост службовых злачынстваў у 1926 годзе тлумачыцца, у першую чаргу, павышэньнем адказнасьці



службовых асоб, да якіх сталі прад'яўляць больш высокія патрабаваньні ў параўнаньні з мінулым. Гэта-ж пацьвярджаецца і колькасьцю спраў вышэйпамянёнай катэгорыі, спыненых судамі з прычыны адсутнасьці ў іх складу злачынства і малаважнасьці, альбо нязначнасьці ўчыненага злачынства, Так, напрыклад, з агульнай колькасьці 2662 справы (па арт. арт. 105-110 КК), якія паступілі ў суды, было спынена па вышэйпаказаных адзнаках 1924 справы, альбо 76,03 проц. Апошняя акалічнасьць выключае магчымасьць лічыць, што мы стаім перад паграҗаючым ростам службовых злачынстваў. Значна ўзрасла колькасьць спраў па арт. 113 КК (растраты). Так, напрыклад, у 1925 годзе паступіла ў суды 960 спраў аб растратах, а ў 1926 годзе тых-жа спраў паступіла 1932, што павышае злачынства 1926 году на 101,25 проц. Адзначаны рост спраў па арт. 113 КК тлумачыцца кампаніяй па барацьбе з растратамі, якая вялася ў 1926 годзе, з прычыны чаго, злачынствы па арт. 113 КК стаялі ў асяродку ўвагі, і крымінальнае прасьледаваньне ўзбуджалася нават і ў тых выпадках, калі ўчыненыя растраты былі мізэрны па сваіх разьмерах і выніках і калі магчыма было абмежавацца толькі дысцыплінарным узысканьнем.

Паказаная акалічнасьць пацьвярджаецца лічбамі аб колькасьці спраў аб растратах, якія спынены за нядоваднасьцю складу злачынства, альбо за малаважнасьцю і нязначнасьцю ўчыненага злачынства. Так, напрыклад, з агульнай колькасьці спраў па арт. 113 КК, паступіўшых у суды, было спынена па вышэйзазначных адзнаках—686 спраў, або 35 проц. усяго паступленьня той-жа катэгорыі спраў. Апроч прыпыненьня спраў аб растратах, мела таксама месца зьмяненьне кваліфікацыі злачынных дзеяньняў, з прычыны чаго замест растраты прад'яўлялася абвінавачаньне ў нядбайных адносінах (арт. 108 КК, або ў бесгаспадарнасьці арт. 128 КК).

Побач з павышэньнем злачынстваў па вышэйпаказаных артыкулах КК наглядаецца паніжэньне спраў аб хабарніцтве (арт. 114 КК), якіх паступіла ў 1926 годзе 358, замест 453 спраў, паступіўшых ў 1925 годзе, што складае паніжэньне паступленьня на 20,37 проц., прычым з вышэйпаказанай колькасьці спраў аб хабарніцтве спынена справавядзеньнем 283 справы, альбо 79,05 проц. Паказаная акалічнасьць тлумачыцца, з аднаго боку, паляпшэньнем матар'яльнага становішча службовых асоб і, з другога боку, больш старанным падборам асабовага складу іх, маральна больш устойнага.

Зварочвае на сябе ўвагу вялікае павышэньне злачынства па справах аб дачы хабару ( п. „з" арт. 114 КК), якіх у 1926 годзе паступіла 296 спраў супроць 59, паступіўшых у 1925 годзе, г. з. паступленьне спраў аб дачы хабару павялічылася ў 1926 годзе на 401,69 проц., прычым колькасьць гэтых спраў, якія спынены справавядзеньнем, складае 57,77 проц.

Гэтае зьявішча стаіць у цеснай сувязі з прычынамі, якія паказаны пры аналізе паступленьня спраў аб хабарніцтве.

## г) ПАРУШЭНЬНЕ ПРАВІЛ АБ АДДЗЯЛЕНЬНІ ЦАРКВЫ АД ДЗЯРЖАВЫ.

Злачыннасьць па парушэньню правіл аб аддзяленьні царквы ад дзяржавы ў 1926 годзе значна паменшылася. Замест паступіўшых у 1925 годзе 118 спраў вышэйпаказанага характару—у 1926 годзе паступіла тых-жа спраў 81, што складае паніжэньне на 31,35 проц. супроць 1925 году, а да агульнай масы спраў, якія паступілі ў

1926 годзе ў суды Рэспублікі, справы па арт. арт. 119-125 КК, складаюць 0,08 проц. Адзначанае памяншэньне гэтага роду спраў тлумачыцца культурным ростам насельніцтва і ўзмацненьнем эканамічнага і палітычнага становішча Рэспублікі.

## д) ГАСПАДАРЧЫЯ ЗЛАЧЫНСТВЫ.

У адносіне да ўсёй масы спраў, якія паступілі ў суды ў 1926 годзе, справы аб гаспадарчых злачынствах складаюць 1,85 проц.; у параўнаньні з 1925 годам наглядаецца паніжэньне паступленьня спраў аб гаспадарчых злачынствах на 53,96 проц. (у 1925 годзе паказаных спраў паступіла 4181, а ў 1926 годзе тых-жа спраў паступіла 1925). Зварочваючыся да паартыкульнага аналізу паступленьня спраў па некаторых відах гаспадарчых злачынстваў, наглядаем ніжэйнаступнае: справы аб парушэньні наймальнікамі Кодексу Законаў аб Працы (арт. 132 КК) панізіліся паступленьнем у 1926 годзе на 3,33 проц. (у 1925 г. паступіла 385 спраў па арт. 132 КК, а ў 1926 годзе паступіла 260 тых-жа спраў). Гэтакае становішча тлумачыцца большым укараненьнем паняцьця аб рэвалюцыйнай законнасьці сярод насельніцтва і судовым уплывам на правапарушальнікаў паказанай катэгорыі. Справы па арт. арт. 137, 138 і 139 КК (злоснае падвышэньне цаны на тавары шляхам скупкі, сакрыцьця, альбо нявыпускам іх на рынак, а таксама і злоснае паніжэньне цэн на публічных таргох, якія вытвараюцца дзяржаўнымі органамі, парушэньне правіл аб валютных апэрацыях і скупка і збыт як промысел матар‘ялаў, прадуктаў і вырабаў, адносна якіх маецца спэцыяльная забарона, альбо абмежаваньне, вельмі шмат панізілася паступленьнем у 1926 годзе, а як раз на 78,17 проц., прычым замест 590 спраў гэтай катэгорыі, якая паступіла ў 1925 годзе—у 1926 годзе паступіла 129 спраў. Гэта тлумачыцца з аднаго боку, памяншэньнем удзелу прыватнага капіталу ў агульным звароце краіны, а з другога—вынікамі судовай рэпрэсіі.

Справы па арт. арт. 140-140-в КК ( выраб, хаваньне, пакупка і збыт як промысел самагону) таксама далі вялікае паніжэньне злачынства. У 1925 годзе паступіла 2702 справы аб самагонакурэньні, а ў 1926 годзе паступіла 952 справы той-жа катэгорыі, г. з. злачыннасьць гэтых спраў паменшылася на 64,76 проц. Паказанае зьявішча тлумачыцца ўзмацненьнем судовай рэпрэсіі адпаведнымі мерапрыемствамі дзяржавы па рэгуляваньню пытаньня аб сьпірытусных настоях. З усёй главы гаспадарчых злачынстваў толькі справы па арт. 141 КК (парушэньне правіл аб гандлі) далі прыкметнае падвышэньне паступленьня на 179,82 проц. супроць 114 спраў гэтай катэгорыі, якія паступілі ў суды ў 1925 годзе,—у 1926 годзе паступіла 319 тых-жа спраў. У даным выпадку сказваюцца вынікі кампаніі па барацьбе за зьніжэньне цэн, з прычыны чаго адпаведнымі органамі было ўдзелена больш увагі выяўленьню гэтых злачынстваў і паступленьне гэтых спраў натуральна павялічылася.

## е) ЗЛАЧЫНСТВЫ СУПРОЦЬ ЖЫЦЬЦЯ, ЗДАРОЎ‘Я, ВОЛЬНАСЬЦІ І ВАРТАСЬЦІ АСОБЫ.

Найбольшая колькасьць спраў, якія паступілі ў 1926 годзе ва ўсе суды Рэспублікі, прыходзіцца на катэгорыю злачынстваў па арт. арт. 142-179 КК, якія складаюць 45,42 проц. усіх злачынстваў. Паступленьне гэтых спраў у 1926 годзе павялічылася на 12,29 проц. супроць паступленьня ў 1925 годзе (у 1925 годзе паступіла 42220

спраў, а ў 1926 годзе 47410). Рост злачынства гэтай катэгорыі спраў тлумачыцца, галоўным чынам, павялічэньнем спажываньня алкаголю, бо пабоі, калецтвы і часта забойствы адбываюцца пераважна ў бойках у стане ап'яненьня абвіначваемых па гэтых справах.

У стасунку характарыстыкі руху злачынства па паасобных артыкулах вышэйпаказанай главы зварочвае на сябе ўвагу ніжэйнаступнае: справы па арт. арт. 142-144 КК (наўмаснае забойства па нізкіх матывах, альбо бяз гэтакіх, альбо пад уплывам моцнага душэўнага хваляваньня) павысіліся паступленьнем у 1926 годзе на 38,14 проц. (у 1925 годзе паступіла ў суды 197 спраў, а ў 1926 годзе 1101 справа). Справы па арт. арт. 145-148 КК) перавышэньне граніц неабходнай абароны, выгнаньне плада, альбо штучны перарыў цяжарнасьці і неасьцярожнае забойства) даюць яшчэ больш рэзкае павышэньне паступленьня. Так, напрыклад, у 1925 годзе паступіла 103 справы паказанай катэгорыі, а ў 1926 годзе паступіла 156 спраў гэтакага-ж характару, што складае павышэньне паступленьня на 51,45 проц. На рост спраў па гэтай групе злачынстваў, якія павялічыліся спажываньнем алкаголю рабіла таксама ўплыў барацьба з таемнымі абортамі. Паступленьне спраў па арт. арт. 150-154 КК (нанясеньне цялесных пакалечаньняў павысілася на 41-61 проц., прычым, замест 3573 справы гэтай катэгорыі, якія паступілі ў 1925 годзе—у 1926 годзе гэткага роду спраў паступіла 5060. Колькасьць спраў па арт. 156 КК (заведамае пастаўленьне працоўнага ў небясьпечныя для его ўмовы працы) паменшылася ў 1926 годзе на 30,77 проц.) 13 спраў у 1925 годзе і 9 спраў у 1926 г.), што стаіць у зьвязку з прычынамі, якія паказаны пры аналізе арт. 132 КК.

Узрасло на 14,54 проц. паступленьне спраў па арт. 157 КК (нанясеньне пабояў). Агульная колькасьць іх дасягае ў 1926 годзе 27140 спраў, замест 23694 справы, якія паступілі ў 1925 годзе. Вельмі рэзка павысілася злачынства па палавых адносінах (арт. арт. 166-169-а КК). У 1925 годзе паступіла ў суды 293 справы па арт. арт. 166—169-а КК, а ў 1926 годзе паступіла 459 спраў гэтакага-ж характару, што перавышае паступленьне 1925 году на 55,65 проц.

Некалькі панізілася паступленьне спраў па арт. арт. 170 і 171 КК (прынука да заняцьця прастытуцыяй, зводніцва і ўтрыманьне прытону распуства). Супроць 1925 году паступленьне гэтакіх спраў панізілася ў 1926 годзе на 14,58 проц., а ў абсалютных лічбах з 48 спраў у 1925 годзе да 41 справы ў 1926 годзе.

Узмацненьне меры рэпрэсіі і дапасаваньне высылкі з данай мясцовасьці асоб, якія прызнаны віноўнымі ў утрыманьні прытонаў, дапамагала некалькі паніжэньню гэтага злачынства. На 6,46 проц. узрасло ў 1926 годзе паступленьне спраў па арт. 172-174 КК (зьнявага і брахня). У 1925 годзе паступіла паказаных спраў 9418, а ў 1926 г. паступіла 10027 тых-жа спраў. Рост гэтай катэгорыі спраў тлумачыцца ня толькі падвышэньнем спажываньня сьпіртусных напояў, але-ж ростам сьвядомасьці вартасьці асобы, з прычыны чаго зьняважаныя сталі часьцей зварочвацца ў суд за абаронай сваіх інтарэсаў. Рэзка панізілася паступленьне спраў аб хуліганстве (арт. 176 КК), так, напрыклад, у 1926 годзе паступіла 1210 спраў па арт. 176 КК, у той час, як гэтакага роду спраў у 1925 годзе паступіла 2271. Такім чынам, паступленьне спраў аб хуліганстве панізілася ў 1926 годзе на 46,71 проц. Было-б, аднак, памылкова лічыць, што хуліганства ідзе на паніжэньне. У даным выпадку мы маем, як відаць, справу з перакіданьнем колькасьці ў якасьць, бо за лік

памяншэньня сваявольных і бязмэтных хуліганскіх учынкаў, якія прадугледжаны арт. 176 КК, узрасла колькасаць забойстваў і павялічалася панажоўшчына, аб чым сьведчаць вышэйпрыведеныя лічбы.

## ж) МАЕМАСНЫЯ ЗЛАЧЫНСТВЫ.

У агульнай масе злачынства, справы па арт. арт. 180—199 КК займаюць 19,53 проц., у параўнаньні з 1925 годам колькасьць маемасных злачынстваў узрасла ў 1926 годзе на 9,85 проц., а ў абсалютных лічбах з 18566 спраў у 1925 годзе да 20395 спраў у 1926 годзе. Зварочваючыся да аналізу паасобных артыкулаў вышэйпаказанай главы КК прыкмячаем: справы па арт. 180 п. „а“ КК (просты крадзеж) і па п. „б“ арт. 180 КК (крадзеж з узломам, альбо дапасаваньнем іншых тэхнічных прыстасаваньняў) узрасьлі пастуленьнем на 27,71 проц. супроць 1925 году. Усяго паступіла ў 1926 годзе 11208 спраў паказанай катэгорыі, у той час як у 1925 годзе паступленьне іх выяўлялася ў ліку 8778. Рост гэтай катэгорыі злачынства тлумачыцца ў значнай меры наплывам у БССР бяспрытульных пераросткаў з іншых саюзных рэспублік. У працівалеглас́ьць вышэйпаказанай катэгорыі злачынства прадстаўляе ўцешнае зьявішча паніжэньне канакрадзтва і буйнай рагатай жывёлы (арт. 180 „в“ КК) на 27,87 проц. супроць 1925 году (у 1925 годзе паступіла 800 спраў па арт. 180 „в“ КК, а ў 1926 годзе паступіла 577 тых-жа спраў). Павялічэньне выяўленьня вышэйазначаных злачынстваў і дапасаваньне жорсткай судовай рэпрэсіі да канакрадаў аказалі пэўны ўплыў на паступленьне паказаных спраў у бок паніжэньня. Справы аб крадзяжох з дзяржаўных і грамадзкіх устаноў, складаў і іншых сховаў (арт. арт. 180-г—180-ж КК) павысіліся паступленьнем на 22,22 проц. у параўнаньні з 1925 годам (1134 справы ў 1925 г. і 1386 спраў у 1926 г.). Агульныя прычыны росту маемасных злачынстваў сказваюцца ў даным выпадку. Справы аб рабунках і рабунковых нападах (арт. арт. 182-184 КК) узрасьлі на 32,85 проц. (у 1925 годзе паступіла 627 спраў, а ў 1926 годзе 833 справы). У даным выпадку сказваюцца вынікі павялічыўшагася спажываньня алкаголю, а ў пэўнай меры, уплыў хуліганства, якое пераходзіць у кваліфікаванае злачынства. Вельмі рэзкае павышэньне даюць у 1926 годзе справы аб падпалах (арт. 197 КК), колькасьць якіх узрасла на 96,89 проц. у параўнаньні з 1925 годам (у 1925 годзе паступіла 580 спраў аб падпалах, а ў 1926 г. 1142 справы). Рост спраў аб падпалах тлумачыцца ў значнай меры той акалічнасьцю, што і справы аб пажарах, якія ўзьнікаюць у выніку неасьцярожнага звароту з агнём, адносіліся да разьдзелу падпалаў.

## з) ПАРУШЭНЬНЕ ПРАВІЛ, ЯКІЯ АХОЎВАЮЦЬ НАРОДНАЕ ЗДАРОЎ'Е, ГРАМАДЗКУЮ БЯСЬПЕЧНАСЬЦЬ І ПУБЛІЧНЫ ПАРАДАК.

Справы вышэйадзначанай катэгорыі панізіліся ў 1926 годзе на 20 проц. Замест 2804 спраў, якія паступілі ў 1925 годзе, - у 1926 годзе іх паступіла 2243. З усяго ліку спраў, якія паступілі ў суды, справы па арт. арт. 215-227 КК, складаюць 2,15 проц. Паніжэньне паступленьня гэтых спраў тлумачыцца ўзмацненьнем нагляду адпаведных органаў улады за захаваньнем будоўных норм і паляпшэньнем аховы парадку і бясьпечнасьці руху па сухапутных, водных і паветраных шляхох зносін. Ня лішнім будзе адзначыць, што ў вышэйпаказаныя зьвесткі аб стане злачынства ўключаны таксама да-

ныя аб руху злачынства па нацыянальных камэрах нарсуду, у якія паступіла ў 1926 годзе 1132 крымінальных справы, альбо 1,08 проц. усяго паступленьня крымінальных спраў у народныя і акруговыя суды БССР. Паступіўшыя ў нацкамэры крымінальныя справы прыходзяцца, галоўным чынам, на справы прыватнага абвінавачваньня (арт. арт. 153, 157 і 172 КК—пабоі і зьнявага). Наглядаючы агульны стан злачынства БССР, неабходна адзначыць ніжэйнаступнае: з усёй колькасьці 104400 спраў, якія паступілі ва ўсе суды Рэспублікі, спынена справавядзеньнем, за адсутнасьцю складу злачынства, за прыміраньнем старон па справах прыватнага абвінавачваньня, за неразысканьнем абвінавачваемых і па іншых прычынах 40396 спраў, альбо 38,69 проц. агульнага паступленьня, прычым у тым ліку 7981 справа, альбо 19,75 проц. усіх спыненых спраў, спынена справавядзеньнем на падставе арт. 4-а КПК (нязначнасьць і малаважнасьць учыненага ўчынку і немэтазгоднасьць далейшага вядзеньня справы). Апрача таго зварочвае на сябе ўвагу тая акалічнасьць, што 70,33 проц. усіх паступіўшых у 1926 годзе спраў складаюць дробныя злачынствы (157 арт.—пабоі, 172—зьнявага асобы, 103—сваявольле і г. д.), а ўсе апошнія справы (службовыя злачынствы, гаспадарчыя злачынствы, забойствы, цяжкія пабоі і рабункі) складаюць у 1926 годзе 29,67 проц. усяго злачынства. Такім чынам, прыведзеныя лічбовыя даныя не даюць падстаў лічыць, што рост злачынства ў 1926 годзе зьяўляецца пагражаючым. Наадварот, пераважная маса крымінальных спраў прыходзіцца на больш дробныя ўчынкі, якія не адносяцца да разьдзелу небясьпечных для грамады злачынстваў.

## II. Сацыяльны склад, узрост і пол асуджаных па відах злачынстваў і па паасобных артыкулах крымінальнага кодэксу.

### а) САЦЫЯЛЬНЫ СКЛАД АСУДЖАНЫХ.

Агульная колькасьць спраў, асуджаных у 1926 г. акруговымі і народнымі судамі Рэспублікі, складаюць—46630 чалавек, супроць—59256 чалавек, асуджаных тымі-ж судамі ў 1925 г. або—78, 69 проц. ліку асуджаных таго-ж году.

Па сацыяльнаму становішчу асуджаныя разьмяркоўваюцца наступным чынам:

а) Кулакоў асуджана ў прошлым годзе—568 чалавек, а ў 1925 г. тая-ж група асуджаных складала—753 чалавекі. Такім чынам, агульная колькасьць кулакоў, асуджаных у 1926 г., складае - 75,43 проц., у адносіне ліку кулакоў, асуджаных у 1925 г. Што тычыцца ўдзельнай вагі групы асуджаных кулакоў, то ў 1926 г. паказаная катэгорыя складае—1,2 проц. усіх асуджаных, а ў 1925 г. яна складала—1,3 проц. З прыведзеных лічбаў відаць, што ўдзельная вага кулакоў, якія ўчынілі злачынствы, панізілася ў 1926 годзе на 0,1 проц.

б) Серадцякоў асуджана ў 1926 годзе—15722 чалавекі супроць —20920 серадцякоў, асуджаных у 1925 г., што складае- 75, 15 проц. колькасьці серадцякоў, асуджаных у тым-жа 1925 г.

Серадцякі складаюць у 1926 г.—33, 71 проц. усёй колькасьці асуджаных, а ў 1925 г. гэта-ж група давала—35,3 проц., што сьведчыць аб паменшыўшайся удзельнай вазе серадцякоў на 0,41 проц.

в) Найбольшую групу асуджаных складаюць беднякі, каторых асуджана ў 1926 г.—22925 чалавек, або 49,2 проц. усяго ліку асуджаных

у 1926 г. у той час як беднякоў было асуджана—29051 чалавек або 48,9 проц. усіх асуджаных у 1925 г. Прыведзеныя лічбы сьведчаць аб тым, што ў 1926 годзе ўдзельная вага беднякоў павялічалася на 0,3 проц., а ў адносінах усёй колькасьці беднякоў, асуджаных у—1925 г., бедняхі асуджаныя ў 1926 г. складаюць—78,91 проц.

г) Удзел рабочых у ўчыненьні злачынстваў выращаецца ў наступных лічбах: усяго асуджана рабочых у 1926 г.—2666 чалавек, або 5,72 проц. агульнай колькасьці асуджаных у тым-жа годзе, у той час як у 1925 г. было асуджана—3102 рабочых, або—5,3 проц. усіх асуджаных у 1925 г. Такім чынам, удзельная вага рабочых, якія ўчынілі злачынствы ў 1926 г. ўзрасла на 1,42 супроць 1925 г., а з параўнаньня агульнага ліку рабочых асуджаных у 1926 г. з лікам рабочых, асуджаных у 1925 г., відаць, што колькасьць рабочых, асуджаных у 1926 г. складае—85,94 проц. ліку рабочых, асуджаных у 1925 г.

д) З усіх групаў асуджаных у 1926 г. ўзрасла група служачых. Так, напрыклад, у 1926 г. асуджана—1714 служачых, або 3,67 проц. усяго ліку асуджаных, а ў 1925 г. было асуджана—1599 служачых, або 2,7 проц. усіх асуджаных у 1925 г. Агульная-ж колькасьць служачых, асуджаных у 1926 г., складае 107,19 проц. ліку асуджаных у 1925 г. Такім чынам колькасьць служачых, асуджаных у 1926 г. узрасла як у абсалютных ліках (на 113 чалавек), так і ў удзельнай вазе (на 0,8 проц. супроць 1925 г.).

е) Па групе іншых, або дэклясаваных элемэнтаў, асуджана—3035 чалавек, або 6,5 проц. усяго ліку асуджаных, а ў 1925 г. было асуджана—3831 чалавек, або 6,5 проц. усіх асуджаных у 1925 г. Такім чынам, удзельная вага асуджаных з групы дэклясаваных засталося ў 1926 г. бяз усякіх зьмен у параўнаньні з 1925 г.

## б) РАЗЬМЕРКАВАНЬНЕ АСУДЖАНЫХ ПА ПОЛУ.

Што тычыцца разьмеркаваньня асуджаных па полу, то большую колькасьць асоб асуджаных складаюць мужчыны. З параўнаньня з 1925 г. відаць, што ўдзел мужчын у ўчыненьні злачынстваў узрос ў 1926 г. (на 0,5 проц.), бо ў 1925 г. колькасьць асуджаных мужчын складала 86,9 проц. у адносінах усяго ліку асуджаных у тым-жа годзе.

Жанчын асуджана 4472 чалавекі, або 9,6 проц. усіх асуджаных, а ў 1925 г. жанчын было асуджана—5998 чалавек, або 10,1 проц. усяго ліку асуджаных у 1925 г. Такім чынам, удзельная вага жанчын панізілася ў 1926 г. на 0,5 проц. у параўнаньні з 1925 г.

Вышэйпрыведзены рост злачыннасьці з боку мужчын і адпаведнае паніжэньне злачыннасьці з боку жанчын тлумачыцца, напэўна, той акалічнасьцю, што ў 1926 г. рэзка павысіліся службовыя злачынствы, якія ўчыняюцца пераважна мужчынамі, пераважаючымі ў дзяржаўным апараце.

## в) РАЗЬМЕРКАВАНЬНЕ АСУДЖАНЫХ ПА ЎЗРОСТУ.

З усяго ліку асуджаных у 1926 г. 87 чалавек, або 0,2 проц. непаўналетнія ў уросьце ад 14 да 16 год, у той час як непаўналетніх паказанага ўзросту было асуждана 118, або 0,2 проц. усяго ліку асужданых у тым-жа годзе. Такім чынам, удзельная вага непаўналетніх злачынцаў адзначанага ўзросту ў параўнаньні з 1926 г. засталася бяз зьмен.

Некалькі панізілася ў 1926 годзе група асуджаных непаўналетніх злачынцаў у ўросьце ад 16 да 18 год. Так, напрыклад, у 1925 г. было асуждана асоб азначанай катэгорыі—1119 чалавек, або 1,91 проц. усяго ліку асуджаных, а ў 1926 г. асуджана—703 чалавекі той-жа групы, або 1,5 проц. усіх асуджаных у справаздачным годзе. З прыведзеных лічбаў відаць, што доля ўдзелу непаўналетніх злачынцаў вышэй пакazанай катэгорыі панізілася ў 1926 г. на 0,41 проц. супроць 1925 г.

Такім чынам, пераважную групу асужданых складаюць паўналетнія злачынцы, якіх было ў 1925 г.—97,89 проц. усіх асуджаных, а ў 1926 г.—98,3 проц. усяго ліку асуджаных, што дасьць павышэньне ўдзельнай вагі іх на 0,41 проц. у параўнаньні з 1925 г.

## г) САЦЫЯЛЬНЫ СКЛАД, УЗРОСТ І ПОЛ АСУДЖАНЫХ ПА ПААСОБНЫХ ВІДАХ ЗЛАЧЫНСТВАЎ.

Каб меркаваць аб ступені актыўнасьці кожнай сацыяльнай групы асуджаных у ўчыненьні паасобных відаў злачынстваў, неабходна праверыць, у якой меры удзельнічае сацыяльная групіроўка ў паасобнасьці ў учыненьні тых або іншых злачынстваў*).

Зьвяртаючыся да адпаведных лічбаў, прыкмячаем ніжэйнаступнае:

### *1. Кулакі.*

Па справах контр-рэвалюцыйных злачынстваў колькасьць асуджаных у 1926. г. кулакоў складае—13 чалавек або 16,45 проц. усіх асуджаных па гэтых справах, а ў 1925 г. ня было ніводнага кулака, асуджанага па абвінавачваньню ў контр-рэвалюцыі.

Па справах аб злачынствах супроць парадку кіраваньня колькасьць асуджаных кулакоў складае—213 чалавек, або 1,07 проц. усіх асуджаных па азначанай главе Кр. Код., а ў 1925 г. колькасьць той-жа групы асуджаных складае—326 чалавек, або 1,31 проц., з чаго відаць, што ў 1926 г. удзел кулакоў у злачынствах супроць парадку кіраваньня панізіўся на 0,24 проц.

З ліку асуджаных за службовыя злачынствы кулакі складаюць у 1926 г.—16 чалавек, або 1,04 проц. паказанай групы асужданых, а ў 1925 г. колькасьць кулакоў, асужданых па службовых злачынствах складала 7 чалавек, або 0,5 проц. усіх асуджаных у тым годзе. З прыведзеных лічбаў відаць, што ў 1926 г. ўдзел кулакоў у службовых злачынствах павысіўся на 0,9 проц. у параўнаньні з 1925 г.

Па справах аб парушэньні правіл аб аддзяленьні царквы ад дзяржавы было ў 1925 г. асуджаных кулакоў тры чалавекі, або 3,75 проц. усіх асуджаных па азначаных справах, а ў 1926 г. няма ніводнага кулака, асуджанага па тых-жа справах.

Па гаспадарчых злачынствах лік асуджаных кулакоў складае —43 чалавекі, або 3,5 проц. усіх асоб асуджаных па зазначных злачынствах, а ў 1925 г. колькасьць кулакоў асужданых за гаспадарчыя злачынствы складала—58 чалавек, або 1,4 проц. усіх асуджаных па азначаных справах. Такім чынам ўдзел кулакоў у гаспадарчых злачынствах павысіўся ў 1926 г. на 2,1 проц.

У групе злачынстваў супроць жыцьця, здароўя, волі і вартасьці асобы колькасьць асуджаных кулакоў складае ў 1926 г.—221 чала-

*) Ня трэба, аднак, упускаць з віду, што падзел асуджаных на кулакоў, севераднякоў і беднякоў зьяўляецца ня зусім дакладным.

век, або 1,6 проц. усіх асуджаных па гэтых справах, а ў 1925 г. колькасьць іх склала—214 чалавек або 1,3 проц., што сьведчыць аб павышэньні ў 1926 г. ўдзелу кулакоў у паказаных злачынствах на 1,3 проц.

Колькасьць кулакоў у маемасных злачынствах складае ў 1926 г. 0,5 проц. усіх асуджаных па гэтых справах, або 44 чалавекі, а ў 1925 г. колькасьць іх складала—91 чалавек, або 0,8 проц. усіх асуджаных, што сьведчыць аб паніжэньні ў 1926 г. кулакоў у ўчыненьні маемасных злачынстваў.

Па справах аб парушэньні правіл, якія ахоўваюць народнае здароўе, грамадзкую небясьпеку і публічны парадак, колькасьць кулакоў асуджаных у 1926 г. панізілася на 0,9 проц. у параўнаньні з 1925 г., паколькі лік кулакоў, асуджаных у 1925 г. па вышэйпаказаных злачынствах, склаў 54 чалавекі, або 2,3 проц. усіх асуджаных па азначаных справах, а ў 1926 г. колькасьць іх складае 1,4 проц. усіх асуджаных або 18 чалавек.

Зьвяртаючыся да вышэйпрыведзеных лічбаў, заўважаем, што найбольшая ўдзельная вага асуджаных кулакоў прыходзіцца на групу контр-рэвалюцыйных спраў (16,45 проц. усіх асуджаных па гэтых справах), а па справах маемасных злачынстваў—ён зьяўляецца найменшым (0,5 проц. усіх асуджаных па гэтых справах) і па справах-жа „аб парушэньні правіл аб аддзяленьні царквы ад дзяржавы“ кулакі зусім адсутнічаюць.

## *2. Серадлякі.*

Па справах контр-рэвалюцыйных злачынстваў колькасьць асуджаных серадлякоў складае ў 1926 г. 30 чалавек, або 38 проц. усіх асуджаных у 1926 г. па данай групе злачынстваў. Удзел серадлякоў у ўчыненьні контр-рэвалюцыйных злачынстваў панізіўся ў 1926 г. на 19,24 проц. у параўнаньні з 1925 г.

Па справах аб злачынствах супроць парадку кіраваньня колькасьць асуджаных у 1926 г. серадлякоў складае—7.048 чалавек, або 35,5 проц. усіх асуджаных па азначаных злачынствах, а ў 1925 г.—230 чалавек—37,48 проц., што сьведчыць аб паніжэньні ў 1926 г. удзельнай вагі серадлякоў у вышэйпамянёных злачынствах на 1,18 проц. у параўнаньні з 1925 г.

Па службовых злачынствах, асуджаныя серадлякі складаюць у 1926 г. 278 чалавек, або 18,6 проц. усіх асуджаных па данай групе злачынстваў, а ў 1925 г. серадлякоў было асуджаных па тых-жа справах 344 чалавекі, або 27 проц. усіх асуджаных у тым-жа годзе.

З прыведзеных лічбаў відаць, што ў 1926 г. ўдзельная вага серадлякоў у службовых злачынствах панізілася на 8,4 проц. у параўнаньні з 1925 г.

Па справах аб парушэньні правіл аб аддзяленьні царквы ад дзяржавы—4 чалавекі, або 14,3 проц. усіх асуджаных па данай групе злачынстваў складаюць у 1926 г. серадлякі, а ў 1925 г. іх было—25 чалавек, або—28,74 проц., з чаго відаць, што ў 1926 г. ўдзельная вага серадлякоў у вышэйпаказанай групе злачынстваў панізілася на 14,44 проц. у параўнаньні з 1925 г.

Па злачынствах гаспадарчых колькасьць асуджаных у 1926 г. серадлякоў складае—266 чалавек, або 21,7 проц. усяго ліку асуджаных па гэтых справах, а ў 1925 г. колькасьць іх раўнялася 1.168 чалавек, або 28,8 проц., г. зн. удзел серадлякоў у ўчыненьні азначаных злачынстваў панізіўся ў 1926 г. на 7,1 проц.

Па справах аб злачынствах супроць здароўя, волі і вартасьці асобы серадзякі складаюць у 1926 г.—517 чалавек, або 38,4 проц., а ў 1925 г.—40,6 проц. або 6297 чалавек, з чаго можна заключыць аб паніжэньні ў 1926 г. ўдзельнай вагі серадзякоў у вышэйпаказанай катэгорыі злачынстваў на 2,2 проц.

Па маемасных злачынствах лік асуджаных у 1926 г. серадзякоў складае 2674 чалавекі, або 29,5 проц. усіх асуджаных па гэтых злачынствах, а ў 1925 г. яны складалі—29,2 проц., або 3219 чалавек. Такім чынам, ўдзельная вага серадзякоў у ўчыненьні маемасных злачынстваў панізілася ў 1926 г. ўсяго толькі на 0,15 проц.

З усяго ліку асуджаных па справах аб парушэньні правіл, ахоўваючых народнае здароўе, грамадзянскую бясьпечнасьць і публічны парадак серадзякі складаюць—19,8 проц. або 251 чалавек, а ў 1925 г. тая-ж група давала 21,2 проц., або 497 чалавек, з чаго належыць, што ў 1926 г. ступень удзелу серадзякоў у ўчыненьні азначаных злачынстваў панізілася на 1,4 проц. у параўнаньні з 1925 г.

Такім чынам, серадзякі даюць найбольшую удзельную вагу па злачынствах супроць жыцьця, здароўя, волі і вартасьці асобы (38,4 проц.) і найменшую—па справах аб парушэньні правіл аб аддзяленьні царквы дзяржавы (14,3 проц.).

*3. Бедзякі.*

Па контр-рэвалюцыйных злачынствах у прошлым годзе бедзякі складалі 11 чалавек, або 14 проц. асуджаных па данай групе, а ў 1925 годзе яны давалі 9,9 проц., або 15 чалавек, з чаго можна заключыць, што ступень удзелу бедзякоў у ўчыненьні контр-рэвалюцыйных злачынстваў павысілася на 4,1 проц.

Па справах аб злачынствах супроць парадку кіраваньня 53,9 проц. усіх асуджаных па данай групе злачынстваў, або 10696 чалавек прыходзіцца на групу бедзякоў, а ў 1925 годзе бедзякі складалі 51,7 проц., або 12826 чалавек, што гаворыць аб павышэньні ў 1926 годзе ўдзельнай вагі бедзякоў па гэтых справах на 2,2 проц.

У групе службовых злачынстваў бедзякі складаюць 24,6 проц. усіх асуджаных па данай групе злачынстваў, або 378 чалавек, а ў 1925 г. яны складалі 291 чал., або 22,5 проц., што гаворыць аб павышэньні ў 1926 годзе ўдзелу бедзякоў у ўчыненьні службовых злачынстваў на 2,1 проц.

Па справах аб парушэньні правіл аб аддзяленьні царквы ад дзяржавы бедзякі складалі ў прошлым годзе 10 чалавек, або 35,7 пр. усіх асуджаных па данай групе. У параўнаньні з 1925 годам удзел бедзякоў у паказаных злачынствах павысіўся на 10,57 проц., паколькі колькасьць бедзякоў, асуджаных у 1925 годзе за парушэньне правіл аб аддзяленьні царквы ад дзяржавы складала 21 чал., або 24,13 проц. усіх асуджаных па гэтых справах.

Удзел бедзякоў у ўчыненьні гаспадарчых злачынстваў панізіўся ў прошлым годзе на 15,5 проц., бо ў 1926 годзе процант бедзякоў асуджаных за паказаныя злачынствы складаў 33,5 проц. у адносінах ліку ўсіх асуджаных па гэтых справах (411 чал.), а ў 1925 годзе ён раўняўся 49 проц. (1987 чал.).

Па справах аб злачынствах супроць жыцьця, здароўя, волі і вартасьці асобы колькасьць асуджаных бедзякоў складае 6218 чалавек, або 46,4 проц. усіх асуджаных па гэтых справах, пры чым у параўнаньні з 1925 годам удзел бедзякоў у памянёнай групе злачынстваў панізіўся на 1,4 проц., бо ў 1925 годзе яны складалі 47,8 проц., або 7404 чалавекі з ліку ўсіх асуджаных па вышэйпаказаных справах.

Удзел беднякоў у маемасных злачынствах павысіўся ў прошлым годзе на 0,8 проц. У 1926 годзе агульная колькасьць беднякоў, асуджаных па маемасных злачынствах, складала 4751 чал., або 51,6 проц. усіх асуджаных супроць 50,8 проц. 1925 году (5603 чал.).

Па справах аб парушэньні правіл, ахоўваючых народнае здароўе, грамадзкую бясьпечнасьць і публічны парадак бедпякі складаюць у 1926 годзе 490 чалавек, або 35,4 проц., а ў 1925 годзе яны складалі 904 чал., або 38,5 проц. усіх асуджаных па памянёных справах, што сьведчыць аб паніжэньні ўдзелу беднякоў у паказаных злачынствах на 3,1 проц. у параўнаньні з 1925 годам.

Як відаць з вышэйпрыведеных лічбаў, найбольшую ўдзельную вагу даюць бедпякі па злачынствах супроць парадку кіраваньня (53,9 проц. усіх асуджаных па гэтых справах) і найменшую—па контр-рэвалюцыйных злачынствах (14 проц. усіх асуджаных па памянёных справах.

## 4. *Рабочыя.*

Па контр-рэвалюцыйных .справах рабочыя складаюць у 1926 годзе 5 чалавек, або 6,33 проц., а ў 1925 годзе яны складалі 11 чалавек, або 7,24 проц., што сьведчыць аб паніжэньні ўдзелу рабочых у учыненьні памянёных злачынстваў на 0,91 проц.

Па справах аб злачынствах супроць парадку кіраваньня 3,61 проц. усіх асуджаных па гэтых справах, або 716 чалавек складаюць рабочыя, удзел якіх у ўчыненьні памянёных злачынстваў панізіўся ў прошлым годзе на 0,1 проц., пакольні ў 1925 годзе 3,71 проц. (922 чал). усіх асуджаных за злачынствы супроць парадку кіраваньня складалі рабочыя.

Па службовых злачынствах колькасьць асуджаных у прошлым годзе рабочых складала 90 чалавек, або 5,8 проц. усіх асуджаных па гэтых справах, а ў 1925 годзе колькасьць іх раўнялася 5 проц., або 63 чал., з чаго відаць, што ўдзел рабочых у службовых злачынствах павысіўся ў 1926 годзе на 0,8 проц. у параўнаньні з 1925 годам.

Па справах аб парушэньні правіл аб аддзяленьні царквы ад дзяржавы нябыло ніводнага асуджанага рабочага ў 1925 годзе, а ў 1926 годзе рабочыя складаюць у гэтай групе злачынстваў 3,6 проц. або 1 чалавек.

З усяго ліку асуджаных за гаспадарчыя злачынствы 84 чал. або 6,8 проц. складаюць рабочыя, удзел якіх у тых-жа злачынствах у 1925 годзе выражаўся ў колькасьці 185 чалавек, або 4,7 проц. усіх асуджаных. Прыведзеныя лічбы сьведчаць аб тым, што ў прошлым годзе ўдзел рабочых у ўчыненьні гаспадарчых злачынстваў павысіўся на 2,1 проц. у параўнаньні з 1925 годам.

Па справах аб злачынствах супроць жыцьця, здароўя, волі і вартасьці асобы 762 чал., або 4,7 проц. складаюць рабочыя, удзел якіх у тых-жа злачынствах у 1925 годзе выражаўся ў колькасьці 694 чал., або 4,5 проц. усіх асуджаных, з чаго відаць, што ўдзельная вага рабочых у памяненых злачынствах панізілася ў прошлым годзе на 1,2 проц. у параўнаньні з 1925 годам.

У групе маемасных злачынстваў колькасьць асуджаных у 1926 г. рабочых складала 8,5 проц. усіх асуджаных, або 784 чал., а ў 1925 г. яна раўнялася 9,2 проц. усіх асуджаных у 1925 годзе (1013 чалавек). Такім чынам, удзельная вага рабочых у маемасных злачынствах панізілася ў 1926 годзе на 0,7 проц. у параўнаньні з 1925 годам.

Колькасьць рабочых, асуджаных у 1926 годзе па справах аб парушэньні правіл, ахоўваючых народнае здароўе, грамадзкую бясьпечнасьць і публічны парадак складае 224 чал., або 7,6 проц. усіх асуджаных па гэтых справах, а ў 1925 годзе яна складала 9,1 проц., або 214 чалавек, з чаго відаць- што ўдзельная вага рабочых у паказанай групе злачынстваў павысілася ў 1926 годзе на 8,5 проц. у параўнаньні з 1925 годам.

Такім чынам, найбольшая ўдзельная вага рабочых прыходзіцца на групу злачынстваў па парушэньню правіл, ахоўваючых народнае здароўе, грамадзкую бясьпечнасьць і публічны парадак (17,6 проц. усіх асуджаных па ўказаных справах), а найменшая—на групу злачынстваў аб парушэньні правіл аб аддзяленьні царквы ад дзяржавы (3,6 проц. усіх асуджаных па паказаных справах).

### *5. Служачыя.*

Па контр-рэвалюцыйных злачынствах 5,1 проц., або 12 чалавек прыходзіцца на групу служачых, удзел якіх у тых-жа злачынствах у 1925 годзе выражаўся ў колькасьці 11 чалавек, або 10,5 проц., з чаго відаць, што ўдзельная вага служачых у контр-рэвалюцыйных зланчынствах узрасла ў 1926 годзе на 4,6 проц. у параўнаньні з 1925 годам.

Па справах аб злачынствах супроць парадку кіраваньня колькасьць служачых, асуджаных у 1926 годзе, складала 1,8 проц. усіх асуджаных па гэтых справах, або 350 чалавек, а ў 1925 годзе яна складала 395 чалавек, або 1,6 проц. усіх асуджаных па памянёных справах, з чаго патрэбна заключыць, што ўдзельная вага служачых у злачынствах супроць парадку кіраваньня павысілася ў прошлым годзе на 0,2 проц.

Больш прыкметна павысілася ўдзельная вага служачых у службовых злачынствах, па якіх яны складалі ў прошлым годзе 50 проц. усіх асуджаных, або 738 чалавек, у той час, як у 1925 годзе яны складалі 40,1 проц., або 514 чалавек. Такім чынам, удзельная вага служачых у службовых злачынствах узрасла ў 1926 годзе на 9,9 проц. у параўнаньні з 1925 годам.

Па справах аб злачынствах па парушэньню правіл аб аддзяленьні царквы ад дзяржавы 3,6 проц. усіх асуджаных, або 1 чал. складаюць служачыя, а ў 1925 годзе колькасьць служачых, асуджаных за памянёныя злачынствы складала 3 чалавекі, або 3,45 проц. усіх асуджаных, або на 0,15 проц. меней, чым у 1926 годзе.

За гаспадарчыя злачынствы было асуджана ў 1926 годзе 85 служачых, або 6,9 проц. усіх асуджаных па гэтых справах, а ў 1925 годзе колькасьць служачых, асуджаных за памянёныя злачынствы складала 1,9 проц. (77 чалавек), або на 5 проц. ніжэй той колькасьці служачых, якая была асуджана ў 1926 годзе.

У групе злачынстваў супроць жыцьця, здароўя, свабоды і вартасьці асобы колькасьць асуджаных служачых складала 2,1 проц. (286 чал.) усіх асуджаных у 1926 годзе за памянёныя злачынствы, у той час, як у 1925 г. яна складала 1,8 проц. (271 чалавек), што сьведчыць аб павышэньні ў 1926 годзе ўдзельнай вагі служачых у вышэйпамянёных злачынствах на 0,3 проц.

Па справах маемасных злачынстваў асуджана ў 1926 годзе 153 служачых, або 1,65 проц. усіх асуджаных па гэтых справах, а ў 1925 годзе колькасьць асуджаных служачых за маемасныя злачынст-

вы складала 1,9 проц. (220 чалавек), або на 0,25 проц. вышэй, чым у 1926 годзе.

Па справах аб парушэньні правіл, ахоўваючых народнае здароўе, грамадзкую бясьпечнасьць і публічны парадак служачыя складалі ў 1926 годзе 89 чалавек, або 7 проц. асуджаных па данай групе злачынстваў, а ў 1925 годзе яны складалі 4,4 проц., або 103 чалавекі, або на 2,6 проц. ніжэй, чым у 1926 годзе.

Такім чынам, найбольшая ўдзельная вага служачых па службовых злачынствах (50 проц.), а найменшая—у групе маемасных злачынстваў (1,65 проц.).

### 6. *Дэклясаваныя.*

Па контр-рэвалюцыйных злачынствах дэклясаваныя—8 чалавек, або 10,12 проц. усіх асуджаных па данай групе злачынстваў, а ў 1925 годзе яны складалі 15,12 проц. (23 чал.), або на 5 проц. вышэй, чым у 1926 годзе.

У групе злачынстваў супроць парадку кіраваньня дэклясаваныя складаюць 4,12 проц., або 818 чалавек з ліку ўсіх асуджаных па гэтых справах, або меней на 0,08 проц., чым у 1925 годзе.

Па службовых злачынствах дэклясаваныя складалі ў 1926 годзе 2,5 проц., або 29 чалавек з ліку ўсіх асуджаных па данай групе злачынстваў, а ў 1925 годзе яны складалі 4,9 проц. (62 чал.), або на 2,4 проц. вышэй, чым у 1926 годзе.

Па справах аб парушэньні правіл аб аддзяленьні царквы ад дзяржавы колькасьць дэклясаваных складала 42,8 проц., або 12 чалавек з ліку ўсіх асуджаных па гэтых справах, або ў параўнаньні з 1925 годам на 2,57 проц. вышэй.

У групе гаспадарчых злачынстваў дэклясаваныя складаюць 27,6 проц., або 339 чалавек з ліку асуджаных па данай групе злачынстваў, пры чым удзельная вага іх у 1926 годзе у параўнаньні з 1925 годам павысілася на 13,4 проц.

Па справах аб злачынствах супроць жыцьця, здароўя, волі і вартасьці асобы дэклясаваныя складаюць 789 чалавек, або 5,8 проц. усіх асуджаных па данай групе злачынстваў, пры чым удзельная вага іх у 1926 годзе ў параўнаньні з 1925 годам павысілася на 1,8 проц.

Па маемасных злачынствах дэклясаваныя складаюць 798 чалавек, або 8,7 проц. усіх асуджаных па данай групе злачынстваў, пры чым удзельная вага іх павысілася на 0,6 проц. у параўнаньні з 1925 годам.

Па справах аб парушэньні правіл, ахоўваючых народнае здароўе, грамадзкую бясьпечнасьць і публічны парадак дэклясаваныя складаюць 18,8 проц., або 238 чалавек, пры чым удзельная вага іх у памянёнай групе злачынстваў панізілася ў 1926 годзе на 5,7 проц. у параўнаньні з 1925 годам.

Такім чынам, дэклясаваныя пераважаюць у справах аб парушэньні правіл аб аддзяленьні царквы ад дзяржавы, дзе азначаная сацыяльная група складае 42,8 проц. усіх асуджаных па гэтых справах і ў найменшай меры дэклясаваныя прымаюць удзел у ўчыненьні службовых злачынстваў (2,5 проц.).

Па некаторых паасобных артыкулах Крымінальнага Кодэксу склад асуджаных па адзнаках сацыяльнага становішча разьмяркоўваецца наступным чынам:

а) 2 ч. арт. 79 і 3 ч. арт. 80 К. К. Па справах аб неплацяжу падаткаў і аб сакрыцьці падлягаючых абкладаньню альбо вучоту прадметаў і прадуктаў 92,6 проц. усіх асуджаных складаюць сяляне, з іх: кулакоў—3,1 проц., серадзякоў—59 проц. і беднякоў—30,5 проц., а з ліку астатніх асуджаных па гэтых артыкулах: рабочых—0,9 проц., служачых 0,5 проц. і дэклясаваныя—6 проц.;

б) арт. арт. 86 і 88 К. К. Па справах аб сапраціўленьні паасобных грамадзян прадстаўніком улады і аб публічным зьневажаньні прадстаўнікоў улады—76,2 проц. усіх асуджаных складаюць сяляне, з іх кулакі—1,1 проц., серадзякі—36,8 проц. і беднякі 38,3 проц., а астатні процант асуджаных па вышэйзазначаных справах разьмяркоўваецца наступным чынам: рабочых—10,2 проц., служачых—3,6 проц. і дэклясаваных—10 проц.

в) арт. 113 К. К. Па справах аб растратах, сацыяльнае становішча асуджаных гэтакае: кулакоў—0,7 проц., серадзякоў—18 проц., беднякоў—26,3 проц., рабочых—8,3 проц., служачых—44 проц. і дэклясаваных—2,7 проц.;

г) арт. 114 К. К. Па абвінавачваньню ў атрыманьні хабарніцтваў асуджана: серадзякоў—48,1 проц., беднякоў—18,5 проц., рабочых—2,5 проц., служачых—28,4 проц., і дэклясаваных—2,5 проц.;

д) арт. 141 К. К. Па справах аб парушэньні правіл аб гандлі (зьніжэньне цэн) асуджана: кулакоў—8,7 проц., серадзякоў—14,2 проц., беднякоў—11,2 проц., рабочых—5,1 проц., служачых—2,5 проц. і іншых—58,3 проц.;

е) арт. арт. 142—144 К. К. Па абвінавачваньню ў злачынствах супроць жыцьця асуджана: кулакоў—4,8 проц., серадзякоў—45,3 проц., беднякоў—38,9 проц., рабочых—4,8 проц., служачых—3,1 проц. і іншых—3,1 проц.;

ж) арт. 157 К. К. Па справах аб нанясеньні пабояў склад асуджаных гэтакі: кулакоў—1,02 проц., серадзякоў—39,18 проц., беднякоў—49,3 проц., рабочых—4,4 проц., служачых—1,4 проц. і іншых—4,7 проц.;

з) арт. арт. 166—169 К. К. Па абвінавачваньню ў палавых злачынствах асуджана: кулакоў—5,7 проц., серадзякоў—46 проц., беднякоў—31,1 проц., рабочых—9,8 проц., служачых—6,6 проц. і іншых—0,8 проц.;

і) арт. арт. 170—171 К. К. Па справах аб прынуцы займацца праституцыяй і па справах аб зводніцтве сацыяльны склад асуджаных ніжэйнаступны: беднякоў—20 проц., рабочых—12 проц., служачых—4 проц., і іншых—64 проц.;

к) 2 ч. арт. 176 К. К. Склад асуджаных па абвінавачваньню ў хуліганстве гэтакі: кулакоў—1,2 проц., серадзякоў—23,6 проц., беднякоў—44,2 проц., рабочых—16,8 проц., служачых—2,8 проц. і іншых—11,4 проц.;

л) п. „в“ арт. 180 К. К. Па абвінавачваньню ў канакрадзтве асуджана: кулакоў—1 проц., серадзякоў—31,75 проц., беднякоў—54,5 проц., рабочых—1,75 проц., служачых—0,5 проц. і іншых—10,5 проц.;

м) п. „г“, „ж“ арт. 180 К. К. Па справах аб раскрадваньні з дзяржаўных і грамадзкіх складаў і магазынаў асуджана: кулакоў—0,9 проц., серадзякоў—27,5 проц., беднякоў—48,4 проц., рабочых—12,5 проц., служачых—3,94 проц. і іншых—6,76 проц.;

н) арт. арт. 182—184 К. К. Па абвінавачваньню ў рабунках і разбойных нападках асуджана: кулакоў—1,8 проц., серадзякоў—

28,6 проц., беднякоў—57 проц., рабочых—6,6 проц., служачых—1,6 проц. і іншых—4,4 проц.;

о) арт. 197 К. К. Па справах аб падпалах асуджана: кулакоў—3,06 проц., сераднякоў—52,04 проц., беднякоў—38,76 проц., рабочых 4,08 проц., служачых—1,02 проц. і іншых—1,02. проц.

## д) ПОЛ АСУДЖАНЫХ ПА ПААСОБНЫХ ВІДАХ ЗЛАЧЫНСТВАЎ.

Як ужо было вышэй адзначана колькасьць асуджаных у 1926 г. мужчын складае 90,4 проц. усіх асуджаных, а жанчын—9,6 проц., пры чым колькасьць жанчын па паасобных групах злачынстваў выразілася ў наступных даных:

Па гаспадарчых злачынствах жанчыны складаюць 263 чал., або 21,4 проц. усіх асуджаных па гэтых справах. Па справах аб злачынствах супроць жыцьця, здароўя, волі і вартасьці асобы жанчыны складаюць 2266 чалавек, або 16,8 проц. усіх асуджаных па данай групе злачынстваў.

У справах аб парушэньні правіл, ахоўваючых народнае здароўе, грамадзкую бясьпечнасьць і публічны парадак жанчыны складаюць 183 чал., або 14,4 проц. асуджаных данай групы злачынстваў.

Па контр-рэвалюцыйных злачынствах на жанчын прыходзіцца 14 проц., або 11 чалавек.

Па маемасных злачынствах жанчыны складаюць 9,8 проц., або 900 чалавек.

Па злачынствах супроць парадку кіраваньня жанчыны складаюць 4,9 проц., або 802 чал.

Па службовых злачынствах асуджана 47 жанчын, або 3 проц. усіх асуджаных.

Па справах аб парушэньні правіл аб аддзяленьні царквы ад дзяржавы ў 1926 годзе асуджаных жанчын ня было, а ў 1925 годзе па азначаных справах было асуджана 10 жанчын, або 11,5 проц. усіх асуджаных па памянёных злачынствах.

Як відаць з вышэйпрыведзеных лічбаў, жанчыны больш усяго абвінавачваліся ў злачынствах супроць жыцьця, здароўя, волі і вартасьці асобы, паколькі па азначаных справах асуджана 50,67 проц. усіх асуджаных жанчын; потым ідуць маемасныя злачынствы, па якіх колькасьць асуджаных жанчын складае 20,21 проц. усіх асуджаных жанчын; па справах аб злачынствах супроць парадку кіраваньня яны складаюць 17,93 проц.; па гаспадарчых злачынствах—5,88 проц.; па справах аб парушэньні правіл, ахоўваючых народнае здароўе, грамадзкую бясьпечнасьць і публічны парадак—4,09 проц.; па справах аб службовых злачынствах—1,05 проц. і па контр-рэвалюцыйных злачынствах—0,24 проц.

Асаблівай увагі заслугоўвае тая акалічнасьць, што па справах аб парушэньні правіл аб аддзяленьні царквы ад дзяржавы, асуджаных жанчын у 1926 годзе ня было, у той час, як у 1925 годзе колькасьць жанчын асуджаных па тых-жа справах складала 11,5 проц. усіх асуджаных па памянёных справах.

## е) УЗРОСТ АСУДЖАНЫХ З ПАДРАЗЬДЗЯЛЕНЬНЕМ НА ПААСОБНЫЯ ВІДЫ ЗЛАЧЫНСТВАЎ.

Вышэй было ўжо адзначана, што пераважную катэгорыю асуджаных складаюць паўналетнія.

Што-ж тычыцца ўдзелу непаўналетніх у ўчыненьні паасобных злачынстваў, то ступень іх актыўнасьці наступная:

1) *Непаўналетнія ў узросьце ад 14 да 16 год.*

Па справах аб злачынствах супроць парадку кіраваньня асуджана тры чалавекі, або 0,02 проц. усіх асуджаных па гэтых справах.

Па гаспадарчых злачынствах асуджана 3 чалавекі, што складае 0,24 проц. усіх асуджаных па гэтых справах.

Па злачынствах супроць жыцьця, здароўя, волі і вартасьці асобы асуджана 15 чалавек, або 0,15 проц. усіх асуджаных па гэтых справах.

Па маемасных злачынствах асуджана 60 чалавек, або 0,65 проц. усяго ліку асуджаных па гэтых справах.

Па контр-рэвалюцыйных злачынствах, па службовых, рэлігійных і па злачынствах аб парушэньні правіл, ахоўваючых народнае здароўе, грамадзкую бясьпечнасьць і публічны парадак ня было ніводнага асуджанага непаўналетняга ў узросьце ад 14 да 16 год.

Зьвяртаючыся да пытаньня аб тым, у якой групе злачынстваў праяўляецца найбольшая актыўнасьць непаўналетніх у ўзросьце ад 14 да 16 год знаходзім, што 69,76 проц. усіх асуджаных непаўналетніх паказанага ўзросту складаюць асуджаныя па маемасных злачынствах; па злачынствах супроць жыцьця, здароўя, волі і вартасьці асобы колькасьць асуджаных непаўналетніх таго-ж узросту складае 23,26 проц.; па справах аб злачынствах супроць парадку кіраваньня і па гаспадарчых злачынствах колькасьць асуджаных тых-жа непаўналетніх аднолькава для ўсіх груп злачынстваў, пры чым па кожнай з іх складае па 3,49 проц. усіх асуджаных непаўналетніх.

Такім чынам, непаўналетнія злачынцы пераважаюць у групе маемасных злачынстваў.

2) *Непаўналетнія ў узросьце ад 16 да 18 год.*

Асуджаныя непаўналетнія гэтага ўзросту разьмяркоўваюцца наступным чынам:

Па контр-рэвалюцыйных злачынствах асуджана 2 чал., або 2,58 проц. усіх асуджаных па гэтых справах.

Па справах аб злачынствах супроць парадку кіраваньня непаўналетнія памянёнай групы складаюць 107 чалавек, або 0,5 проц.

Па службовых злачынствах асуждана 9 непаўналетніх, або 0,6 проц. усіх асуджаных па гэтых справах.

Па гаспадарчых злачынствах асуждана 4 чалавекі, або 0,33 проц. усіх асуджаных гэтай катэгорыі.

Па справах аб злачынствах супроць жыцьця, здароўя, волі і вартасьці асобы непаўналетнія вышэйпаказанага ўзросту складаюць 242 чал., або 1,8 проц.

Па маемасных злачынствах асуджана 330 чалавек, або 3,6 проц. усіх асуджаных па гэтых справах.

Па справах аб парушэньні правіл, ахоўваючых народнае здароўе, грамадзкую бясьпечнасьць і публічны парадак асуджана 9 непаўналетніх, або 0,7 проц. усіх асуджаных па гэтых справах.

Па рэлігійных справах ня было асуджаных з ліку непаўналетніх злачынцаў.

Што тычыцца актыўнасьці непаўналетніх злачынцаў па паасобных відах злачынстваў, то разьмяркоўваньне іх гэтакае:

46,94 проц. усіх асуджаных непаўналетніх складае група асуджаных па маемасных злачынствах;

34,42 проц. агульнай колькасьці асуджаных непаўналетніх пры, ходзіцца на асуджаных па злачынствах супроць жыцьця, здароўя волі і вартасьці асобы.

Па справах аб злачынствах супроць парадку кіраваньня, колькасьць асуджаных непаўналетніх злачынцаў складае 15,22 проц. усіх асуджаных непаўналетніх.

Па службовых злачынствах і па справах аб парушэньні правіл, ахоўваючых народнае здароўе, грамадзкую бясьпечнасьць і публічны парадак, ступень удзелу непаўналетніх аднолькавая: 1,28 проц. усіх асуджаных непаўналетніх.

Па гаспадарчых злачынствах асуджана 0,57 проц. усяго ліку асуджаных непаўналетніх.

Па контр-рэвалюцыйных злачынствах асуджана непаўналетніх 0,29 проц.

Як відаць з прыведзеных лічбаў, найбольшую актыўнасьць непаўналетнія ў узросьце ад 16 да 18 год праяўляюць па маемасных злачынствах і найменшую актыўнасьць—па контр-рэвалюцыйных злачынствах.

## СТАН ГРАМАДЗЯНСКІХ ПРАВААДНОСІН БССР Ў 1926 ГОДЗЕ *).

Усяго паступіла ў 1926 г. ў акруговыя і народныя суды Рэспублікі 93.704 грамадзянскіх справы, у той час як у 1925 г. паступіла ў тыя-ж суды 73.433 грамадзянскіх справы. Робячы параўнаньне паступленьня 1925 г. і 1926 г. прыкмячаем, што ў 1926 годзе паступленьне грамадзянскіх спраў перавысіла паступленьне тых-жа спраў 1925 г. на 27,6 проц. Азначаныя лічбы кажуць аб росьце грамадзянскіх праваадносін у нашай рэспубліцы, што ў сваю чаргу тлумачыцца пашырэньнем таваразвароту.

Паступіўшыя ў 1926 г. грамадзянскія справы разьмяркоўваюцца наступным чынам па характару прад'яўленых іскаў:

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1. Па іскаў дзяржаўных устаноў да дзяржаўных устаноў . . . . . . | 7 спраў, | або | 0,01% |
| 2. Па іскаў дзяржаўных устаноў да кааперацыйных арганізацый . . . . | 530 „ | „ | 0,75 „ |
| 3. Па іскаў дзяржаўных устаноў да прыватных асоб . . . . . . . . | 12142 „ | „ | 12,99 „ |
| 4. Па іскаў каапэрацыйных арганізацый да дзяржаўных устаноў . . . | 244 „ | „ | 0,26 „ |
| 5. Па іскаў каапэрацыйных арганізацый да каапэр. органаў . . . . . | 645 „ | „ | 0,69 „ |
| 6. Па іскаў каапэрацыйных арганізацый да прыватных асоб . . . . . | 14664 „ | „ | 15,65 „ |
| 7. Па іскаў прыватных асоб да дзяржаўных устаноў . . . . . . . . | 1360 „ | „ | 2,45 „ |
| 8. Па іскаў прыватных асоб да каапэрацыйных арганізацый . . . . . | 558 „ | „ | 0,59 „ |
| 9. Па іскаў прыватных да прыватных асоб . . . . . . . . . . . . | 63554 „ | „ | 67,82 „ |
| Разам . . . . . . . . . . . . | 93704 справы | „ | 100 „ |

*) Па матар'ялах справаздачы аб дзейнасьці Народнага Камісарыяту Юстыцыі і падлеглых яму судовых устаноў.

Як відаць з гэтых лічбаў найбольшую групу 67,82 проц. усяго паступленьня—складаюць справы з выключным удзелам прыватнага капіталу, а 32,18 проц. паступленьня прыходзіцца на справы з удзелам дзяржаўных і каапэрацыйных арганізацый.

Пры параўнаньні азначаных лічбаў з адпаведнымі лічбамі 1925 г. знаходзім, што ўдзельная вага спраў з удзелам прыватнага капіталу панізілася ў 1926 г. на 16,62 проц., бо ў 1925 г. тыя-ж іскі склалі 84,44 проц. усяго паступленьня грамадзянскіх спраў; адпаведна (на 16,62 проц.) узрасьлі ў удзельнай вазе справы з удзелам капіталу дзяржаўных і каапэрацыйных арганізацый: у 1925 г. азначаныя справы складалі 15,56 проц. усяго паступленьня грамадзянскіх спраў, а ў 1926 г. колькасьць тых-жа іскаў узрасла да 32,18 проц.

Вышэйпрыведзеныя лічбовыя даныя аб зьмене суадносін удзелу ў таваразвароце дзяржаўных установ і каапэрацыйных арганізацый, з аднаго боку, і прыватных асоб, з другога боку, сьведчаць аб выцясьненьні з таваразвароту прыватнага капіталу і аб замяшчэньні яго капіталам у вышэйпаказаных арганізацыях.

Пры дасьледаваньні пытаньня аб ступені актыўнасьці кожнай з вышэйпайменаваных груп у таваразвароце нашай стараны (гл. % суадносіны між дзяржаўнымі і каапэрацыйнымі арганізацыямі і прыватнымі асобамі, аб чым лічбы праведзены спачатку гэтай главы), заўважваем ніжэйнаступнае:

Агульная колькасьць спраў, па якіх дзяржаўныя ўстановы і прадпрыемствы выступаюць у якасьці адказчыка, складае 1,72 проц. усяго паступленьня грамадзянскіх спраў, у той-жа час як справы, па якіх дзяржаўныя ўстановы і дзяржаўныя прадпрыемствы зьяўляюцца істцамі, складаюць 13,54 проц. усяго паступленьня спраў.

Каапэрацыйныя арганізацыі выступаюць у якасьці адказчыка на 1,85 проц. усяго паступленьня спраў, а істцамі—на 16,6 проц.

Зусім іншае становішча назіраецца ў стасунку ўдзелу асоб. Так, напрыклад, 96,43 проц. усяго паступленьня складаюць справы, па якіх прыватныя асобы прыцягнуты ў якасьці адказчыкаў, а 67,82 проц. таго-ж паступленьня складаюць справы, па якіх прыватныя асобы выступаюць у якасьці істцоў.

Для больш поўнага азначэньня характару грамадзянскіх праваадносін у БССР неабходна зьвярнуцца да лічбаў, якія вызначаюць цану (у рублёх) прад'яўленых іскаў.

Агульная вартасьць прад'яўленых па грамадзянскіх справах іскаў складае 3.382.747 руб. 09 к., якая па паасобных відах іскаў разьмяркоўваецца наступным чынам:

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1. Па ісках дзяржаўных установ да дзяржаўных установ . . . . . | 1.171 р. | 12 к. | — 0,04% |
| 2. Па ісках дзяржаўных установ да каапэрацыйных органаў . . . . | 162.972 р. | 25 к. | — 48 „ |
| 3. Па ісках дзяржаўных установ да прыватных асоб . . . . . . . | 557.538 р. | 71 к. | —16,48 „ |
| 4. Па ісках каапэрацыйных арганізацый да дзяржаўных установ . . . | 40.165 р. | 92 к. | — 1,19 „ |
| 5. Па ісках каапэрацыйных арганізацый да каапэрацыйных органаў. . | 229.290 р. | 54 к. | — 6,57 „ |
| 6. Па ісках каапэрацыйных арганізацый да прыватных асоб . . . . . | 513.914 р. | 47 к. | —15,19 „ |
| 7. Па ісках прыватных асоб да дзяржаўных установ. . . . . . . . . | 88.817 р. | 80 к. | — 2,62 „ |

| | | |
|---|---|---|
| 8. Па ісках прыватных асоб да каапэрацыйных органаў . . . . . . . | 49.800 р. 14 к. | — 1,47 % |
| 9. Па ісках прыватных асоб да прыватных асоб . . . . . . . . . | 1.746.076 р. 14 к. | —51,62 „ |
| Разам . . . . . . . . . . . | 3.382.747 р. 09 к. | — 100 „ |

Як відаць з вышэйпрыведзеных лічбаў, 51,62 проц. агульнай вартасьці прад‘яўленых іскаў прыходзіцца на справы з выключным удзелам прыватнага капіталу, а рэшта 48,38 проц. агульнай сумы іскаў складаюць справы з удзелам дзяржаўных і каапэрацыйных арганізацый.

Зьвяртаючыся да пытаньня аб суадносінах між вышэйпаказанымі групамі, знаходзім:

Дзяржаўнымі органамі прад‘яўлена іскаў на 21,34 проц. з агульнай сумы ўсіх прад‘яўленых іскаў, а ў якасьці адказчыкаў дзяржаўныя органы выступаюць па справах, агульная цана іскаў якіх складае 3,85 проц. у адносінах цаны ўсіх іскаў. З прыведзеных лічбаў відаць, што дзяржаўны капітал выступае ў большай меры ў якасьці ісца.

Каапэрацыйныя арганізацыі выступаюць з іскамі з агульнай цаною іх у 22,95 проц. усёй вартасьці прад‘яўленых іскаў, а адказчыкамі—з агульнай цаною іскаў у 12,86 проц. у стасунку агульнай цаны ўсіх іскавых спраў. У даным выпадку таксама наглядаецца пераважнасьць іскавых патрабаваньняў, па якіх каапэрацыйныя арганізацыі выступаюць у якасьці ісцоў.

Узаемаадносіны прыватнага капіталу складваюцца менш спрыяюча для апошняга. Так, напрыклад, прыватныя асобы выступаюць ісцамі па справах, цана іскаў якіх складае 55,71 проц. усёй вартасьці прад‘яўленых іскаў, у той-жа час як адказчыкамі яны выступаюць па справах на суму 83,29 проц. усёй цаны паступіўшых грамадзянскіх спраў,—прыватны капітал у большай меры ў якасьці адказчыка.

З вышэйпрыведзеных даных можна заключыць, што прыватныя асобы зьяўляюцца менш акуратнымі даўжнікамі ў параўнаньні з дзяржаўнымі і каапэрацыйнымі арганізацыямі.

Для больш дакладнага выяўленьня ступені актыўнасьці ў тавараздвароце кожнай з вышэйпайменаваных катэгорый ісцоў неабходна зьвярнуцца да лічбаў, якія характарызуюць сярэднюю цану іску, прад‘яўляемага дзяржаўным установам, каапэрацыйнымі арганізацыямі і прыватнымі асобамі.

Высьвятляючы азначанае пытаньне знаходзім, што сярэдняя цана іску, прад‘яўляемага прыватнымі асобамі складае 28 рублёў, сярэдняя цана іску, прад‘яўляемага каапэрацыйнымі арганізацыямі складае 49 рублёў, перавышае сярэднюю цану прыватных іскаў на 75 проц., а па справах, дзе іскі прад‘яўляюцца дзяржаўнымі ўстановамі і арганізацыямі, сярэдняя цана іску выражаецца ў 56 р., перавышае сярэднюю цану прыватных іскаў на 100 проц.

З вышэйпрыведзеных лічбаў можна заключыць, што колькасьць паступіўшых спраў, у якіх стораны зьяўляюцца прыватнымі асобамі не зьяўляюцца паказьнікам, характарызуючым удзел прыватнага капіталу ў тавараздвароце нашай краіны, бо колькасьць такіх спраў вельмі вялікая, але па сутнасьці гэтыя справы зьяўляюцца дробнымі па сваёй іскавой цане.

# Старонка практыка.

## ЦІ ПАТРЭБНЫ ЗЬМЕНЫ АРТ. АРТ 233 І 249 КПК?

У практыцы народных судоў сустракаецца вялікі разнабой у пытаньні прыстасаваньня арт. 233 КПК. Так, напрыклад, адны нарсудзьдзі лічаць, што да ліку спраў, „непасрэдна паступіўшых у народны суд“, адносяцца матар‘ялы, якія накіроўваюцца органамі дазнаньня ў нарсуд у парадку п. 2 арт. 105 КПК і на гэтай падставе ўносяць частку азначаных спраў у распарадчае пасяджэньне суду для прыпыненьня па адзнаках недастатковай абаснованасьці прад‘яўленага абвінавачваньня, або за адсутнічаньнем складу злачынства ў прыпісваемых абвінавачваемаму дзеяньнях. Іншыя нарсудзьдзі лічаць, што арт. 233 КПК, кажучы аб справах, якія непасрэдна паступілі ў народны суд: мае на ўвазе толькі падаваемыя ў нарсуд заявы паасобных асоб, але ня справы. паступаючыя ў суд ад органаў дазнаньня на падставе п. 2 арт. 105 КПК, якія справы нарсудзьдзя абавязан унесьці ў судовае пасяджэньне для разгледжаньня іх па сутнасьці, у сувязі з чым выключаецца магчымасьць накіраваньня гэтых спраў у распарадчае пасяджэньне суду. Пацьвярджэньне гэтага погляду нарсудзьдзі знаходзяць у катэгарычным патрабаваньні арт. 249 КПК, паводле якога „па паступленьні справы ад органаў дазнаньня (арт. 105 КПК) або ад сьледчага (арт. 233 КПК) народны судзьдзя ўносіць справу ў судовае пасяджэньне для разгледжаньня па сутнасьці“.

Тут неабходна адзначыць, што вышэйцытараваны парадак (арт. 249 КПК) назначэньня да слуханьня спраў, паступаючых у суд ад органаў дазнаньня супярэчыць некалькі агульнаму прынцыпу адданьня суду і не зьяўляецца ўпаўне жыцьцёвым, аб чым сьведчаць шматлікавыя выпадкі сьвядомага парушэньня нарсудамі артык. 249 КПК.

Па агульнаму прынцыпу КПК існуе толькі ніжэйнаступны парадак адданьня суду:

1. Самастойная пастанова народнага судзьдзі аб адданьні абвінавачваемага суду па справах, якія паступілі непасрэдна ў народны суд—п. 3 арт. 247 КПК.

2. Пастанова распарадчага пасяджэньня суду аб адданьні абвінавачваемага суду—арт. 237 КПК і

3. Пастанова сьледчага аб адданьні абвінавачваемага суду па матар‘ялах дазнаньня, якія паступілі да яго ў парадку арт. 105 КПК (арт. 222 КПК).

З вышэй зазначанага, а таксама з усяго зьместу главы VIII-й КПК, устанаўляючай парадак правядзеньня дазнаньня і рэгламантуючай права органаў дазнаньня, відаць, што заканадаўца не дае

органам дазнаньня права адданьня суду. Наадварот—арт. 98 КПК проста ўстанаўляе, што акты органаў дазнаньня па справах, якія не патрабуюць абавязковага правядзеньня папярэдняга сьледзтва, могуць служыць толькі падставай для адданьня суду, г. зн. мяркуецца наступнае аддаваньне суду правамоцным на гэта органам: судзьдзя самастойна (п. 3 арт. 247 КПК) або нарсьледчы (арт. 222 КПК), або распарадчае пасяджэньне суду (арт. 337 КПК).

Такім чынам, пазбаўленьне нарсудзьдзі права (арт. 233 КПК) выносіць пастанову аб адданьні суду абвінавачваемага па справе, якая паступіла ў нарсуд у парадку п. 2 арт 105 КПК і абавязваньне нарсудзьдзі (арт. 249 КПК) уносіць паказаныя справы ў судовае пасяджэньне для разгледжаньня па сутнасьці прыводзяць да таго, што абвінавачваемыя вышэйпаказанай катэгорыі спраў працягваюцца нарсудамі да крымінальнай адказнасьці без дадатковых на тое падстаў, паколькі няма патрабуемай законам пастановы аб адданьні іх суду.

Апроч таго, катэгарычнае зазначэньне арт. 249 КПК аб унясеньні нарсудзьдзёю ў судовае пасяджэньне для разгледжаньня па сутнасьці спраў, паступіўшых ад органаў дазнаньня і абмежаваньня права нарсудзьдзі ўносіць азначаныя справы ў распарадчае пасяджэньне суду на прадмет іх прыпыненьня, зьяўляецца яўна немэтазгодным і не адпавядае сапраўднасьці—КПК ставіць пад кантроль суду работу нарсьледчага і пракаратуры, абавязвае суд унесьці ў яго распарадчае пасяджэньне (арт. 235 КПК) справу, якая паступіла ад пракурора ў парадку арт. арт. 226 і 228—232 КПК.

Ня гледзячы на тое, што па зазначаных справах праводзілася папярэдняе сьледзтва і па ім давалася заключэньне пракурорскім наглядам, распарадчае пасяджэньне суду не абмяжована наліччам абвінавачваемага заключэньня па справе і згодай пракурора і можа вынесьці пастанову аб спыненьні падобнай справы. У тых выпадках, калі па справе рабілася толькі дазнаньне, пры тым асобамі, якія многа ніжэй стаяць па сваей кваліфікацыі нарсьледчага (ня кажучы ужо аб працаўнікох пракуратуры), суд пазбаўлен права папярэдняй праверкі абаснованасьці прад‘яўленага органамі дазнаньня абвінавачваньня або правільнасьці кваліфікацыі данага злачынства. Нарсудзьдзі застаецца толькі назначыць такую справу да слуханьня нават тады, калі ён (нарсудзьдзя) загадзя ведаў, што ў данай справе няма с к л а д у злачынства. Больш таго, нарсьледчы пры паступленьні да яго справы ад органу дазнаньня нічым і нiколькі ня зьвязан, зьмяняючы кваліфікацыю злачынства па прад‘яўленаму органамі дазнаньня абвінавачваньню.

Наадварот—„пры выяўленьні ў дазнаньні міліцыі памылак, якія робяць уплыў на сутнасьць паступіўшай справы, сьледчы абавязан зрабіць адпаведныя выпраўленьні“ (абежнік НКЮ 1926 г. № 8), г. зн. —абавязан перакваліфікаваць злачынства. Нарсудзьдзя-ж пазбаўлен гэтага права і, бачачы яўную памылковасьць кваліфікацыі злачынства, допушчаную органамі дазнаньня, ня можа ўнесьці неабходных па справе выпраўленьняў, а абавязан назначыць гэту справу да слуханьня ў такім відзе, як яна паступіла ў нарсуд.

Якімі-ж меркаваньнямі выклікаецца такая яўная пераважнасьць органаў дазнаньня над органамі сьледзтва? Ці неабходна і ў далейшым ставіць матар‘ял дазнаньня вышэй сьледчага матар‘ялу і пазбаўляць маўчымасьці папярэдняй праверкі актаў дазнаньня?

Не сакрэт-жа, што нізкая кваліфікацыя працаўнікоў органаў дазнаньня, а ў асаблівасьці раённых міліцыянэраў прыводзіць досыць

часта да кур'ёзаў баечнага характару, і крымінальнае прасьледаваньне паднімаецца імі там, дзе маюцца грамадзянскія праваадносіны (незварочваньне грошай па даўгавой расьпісцы, прадажа зрубу трэцяй асобе, пасьля атрыманьня за яго задатачнай сумы ад іншага і г. д.) або адсутнічаньне крымінальна-караемых дзеяньняў. Аднак, завадзімыя ў органах дазнаньня справы паступаюць у нарсуды (і ў вялікай колькасьці), а нарсудзьдзі, загадзя багачы немэтазгоднасьць назначэньня гэтых спраў да слуханьня, абавязаны ўносіць іх у судовае пасяджэньне (арт. 249 КПК), загружваюць апошняе бескарысным баластам і заграмаджаюць сваю канцэлярыю выкананьнем непатрэбнай работы, якая зьвязана з разгледжаньнем гэтых спраў.

Ня прыходзіцца пагэтаму дзівіцца таму, што шмат якія нарсудзьдзі сьвядома абыходзяць патрабаваньне арт. 249 КПК, не захоўваюць яго і ўносяць у распарадчае пасяджэньне на прадмет прыпыненьня матар'ялы дазнаньня, узамен няўхільнага ўпасьледку вынясеньня па гэтых справах апраўдальнага прыгавару на падставе п. 2 арт. 320 КПК.

Ці ня лепей у такім выпадку ўзаконіць укараніўшаеся ў практыцы нарсудоў сыстэматычнае парушэньне арт. 249 КПК? Гэта неабходна і чым хутчэй—тым ляпей! Арт. 249 КПК павінен быць зусім выключан з КПК! Выключэньне гэтага артыкулу будзе тым больш бесхваробна, што ў часцы ўказаньня парадку назначэньня спраў, паступаючых ад сьледчага, на падставе арт. 223 КПК, арт. 249 КПК зьяўляецца паўтарэньнем арт. 234 КПК, а ў часцы азначэньня парадку назначэньня нарсудзьдзёю спраў, якія паступаюць ад органаў дазнаньня, ён як ужо было зазначана вышэй, зусім не патрэбен. Адпаведна патрэбна толькі зьмяніць арт. 233 КПК, уключыўшы ў яго і справы паступаючыя ў суд ад органаў дазнаньня—і народныя судзьдзі слабодна ўздыхнуць, атрымаўшы магчымасьць, не баючыся дысцыплінарнай адказнасьці, назначаць да слуханьня толькі тыя справы, дзе маецца склад злачынства.

*Уладаўскі.*

---

## НЕАБХОДНА ЎЗГАДНІЦЬ.

У сувязі з прадстаячым выданьнем у БССР Крымінальнага Кодэксу ў новай рэдакцыі ўзьнікае, між іншым, пытаньне аб запаўненьні маючагася ў К. К. прабелу, які выявіўся ў працэсе практыкі крымінальнага суду. Я хачу сказаць аб артыкуле 180 п. „в" і арт. 196 К. К. Здавалася-б на першы погляд, што паміж гэтымі артыкуламі няма ніякае сувязі, і ні аб якім прабеле тут гаварыць ня прыходзіцца, бо рэдакцыі іх выстарчаюча ясны і зразумелы, але пры больш дасканальным разборы гэтых артыкулаў, мы убачым, што крымінальная практыка ўстанавіла паміж імі сталую сувязь, дзякуючы якой неабходна ўвесьці дадатак ў арт. 196(175) К. К. Справа ў тым, што згодна практыкі, якая мае месца ў нашым крымінальным судзе, забойствы коняй і буйнае рагатае жывёлы ў працоўнага земляробчага насельніцтва, кваліфікуюцца па арт. 196 К. К., г. зн., як наўмыснае зьнішчэньне ці псаваньне маемасьці. Такая кваліфікацыя зусім правільна і адпавядае дакладнаму сэнсу паказанага артыкулу, аднак, калі мы зьвернемся да яго карацельнай санкцыі, то ўбачым, што ў

той час, як па арт. 180 п. „в“ К. К. кража коняй і буйнае рагатае жывёлы ў сялян караецца пазбаўленьнем волі на тэрмін ня ніжэй 2 год з канфіскацыяй маемасьці, забойства іх па арт. 196 караецца пазбаўленьнем волі ці прымусовымі работамі на тэрмін да 1 году ці штрафам. Такая неадпаведнасьць у кары ня можа быць абаснована ні розьніцай у матывах злачынства, ні розьніцай у яго выніках. Бо калі артыкул 180 п. „в“ прадугледжвае гэткую высокую карацельную санкцыю ў параўнаньні з другімі відамі кражы прыватнае ўласнасьці, так гэта тлумачыцца выключна тым, што кража коняй і буйнае рагатае жывёлы ў працоўнага селяніна надзвычайна пагубна адбіваецца на яго гаспадарцы і часта вядзе яго да поўнага зруйнаваньня, бо ў сялянскай гаспадарцы конь і карова—гэтак важныя фактары для яго разьвіцьця, што бяз іх гаспадарка ня можа існаваць і нармальна разьвівацца. Вось дзеля гэтага, каб у корані зьнішчыць падобнага гатунку злачынствы, і ўстаноўлена гэтакае высокае для іх пакараньне.

Цяпер, калі мы зьвернемся да арт. 196 К. К., калі па ім кваліфікуюцца забойствы коняй і буйнае рагатае жывёлы ў працоўнага земляроба, то мы ўбачым, што гэта злачынства цягне за сабою такія жа вынікі, як і кража гэтае жывёлы, бо і ў гэтым выпадку сялянская гаспадарка таксама пазбаўляецца сваіх кармільцаў.

Можа быць мне скажуць, што тут розьніца ў матывах пры кражы, абавязкова маюцца на ўвазе карысныя пабуджэньні, якіх пры забойстве ў даным выпадку няма. Але-ж матывамі для забойства жывёлы можа быць толькі помста і ў рэдкіх выпадках—хуліганства. Як тое, так і другое, ні ў якім разе ня могуць зьяўляцца зьмякчаючымі акалічнасьцямі ў параўнаньні з карысьцю, хутчэй наадварот, бо калі на кражу звычайна штурхае цяжкае матар‘яльнае становішча, якое само па сабе зьяўляецца зьмякчаючай віну акалічнасьцю, то помста і хуліганства гэтакімі зьмякчаючымі акалічнасьцямі не зьяўляюцца, і прадстаўляюць з сябе тыя якраз нізкія пабуджэньні, якія ў нашым крымінальным заканадаўстве лічацца павялічваючымі віну акалічнасьцямі.

З сказанага, мне здаецца, відавочна, што няма ніякае падставы для таго, каб за забойства кароў і коняй у працоўнага сялянскага насельніцтва дапасоўвалася больш мяккая рэпрэсія, чым за кражу іх.

Дзеля гэтага было-б вельмі пажадана, каб пры ўкладаньні новага К. К. гэта было ўлічана і ў арт. 196 быў-бы ўнесен адпаведны дадатак.

*М. Рэйшах-Рыт.*

# З ДЗЕЙНАСЬЦІ НАРОДНАГА КАМІСАРЫЯТУ ЮСТЫЦЫІ БССР.

## Вынікі каранізацыі судовага апарату БССР.

Ажыцьцяўленьне нацыянальнай палітыкі судовымі органамі было ў асноўным вырашана ў прошлым годзе ўтварэньнем нацыянальных камэр народнага суду. Мерапрыемствы Народнага Камісарыяту Юстыцыі па правядзеньню нацыянальнай палітыкі ў органах юстыцыі выразіліся ў наступным:

Як акруговыя, так і народныя суды забясьпечаны народнымі засядацелямі з ліку ўсіх нацыянальных меншасьцяў, якія насяляюць тэрыторыю БССР.

Зьвернута таксама ўвага на каранізацыю судовага апарату шляхам папаўненьня асабовага складу працаўнікоў судовых устаноў з мясцовых рабочых і сялян.

Так, напрыкад: нарсудзьдзі разьмяркоўваюцца наступным чынам па нацыянальных адзнаках: беларусаў—70,73 проц., яўрэяў—14,63 проц., расейцаў—8,54 проц., палякаў—3,05 проц., іншых—3,05 проц.

Старшыні і члены акруговых судоў таксама укамплектаваны з мясцовых рабочых і сялян, што знаходзіць сабе пацьвярджэньне ў наступных лічбах: беларусаў—59,09, яўрэяў—22,73 проц., расейцаў—9,09 проц., іншых 9,09 проц.

Той-жа прынцып падбору працаўнікоў па нацыянальных адзнаках быў ужыт і ў адносінах членаў калегіі абаронцаў: беларусаў 46,57 проц., яўрэяў—32,35 проц., расейцаў—16,18 проц., палякаў—0,49 проц., іншых—4,41 проц.

Судовыя выканаўцы таксама здавальняюць вышэйпаказаным патрабаваньням: беларусаў--68,29 проц. яўрэяў—17,17 проц., расейцаў—7,32 проц., палякаў—2,44 проц., іншых 4,88 проц.

У такой-жа меры падобран і склад тэхнічных працаўнікоў акруговых і народных судоў: беларусаў—70,05 проц., яўрэяў—20,47 проц., расейцаў—3,73 проц., палякаў—1,18 проц., іншых—4,57 проц.

Апроч таго, у мэтах абслугоўваньня нацыянальных меншасьцяў, якія зьвяртаюцца ў нацыянальныя камэры суду Народным Камісарыятам Юстыцыі былі прымацованы да азначаных камэр нарсуду члены калегіі абаронцаў, якія ўладаюць адпаведнымі нацыянальныі мовамі.

Усе вышэйпаказаныя лічбы ў выстарчальнай меры пацьвярджаюць, што пытаньне аб каранізацыі судовага апарату разьвязана мерапрыемствамі Народнага Камісарыяту Юстыцыі ў бок прывядзеньня ў адпаведнасьць нацыянальнага складу працаўнікоў судовых устаноў з нацыянальным складам насельніцтва рэспублікі.

У далейшым пры падборы судовых працаўнікоў Народны Камісарыят Юстыцыі мае на ўвазе прытрымоўвацца прынцыпу каранізацыі органаў Н. К. Ю. як у цэнтры, так і на мясцох.

## Праца па беларусізацыі судовага апарату БССР.

У адносінах беларусізацыі судовага апарату маюцца наступныя вынікі:

З агульнага ліку 133 вучасткаў народнага суду 122 або 91,73 проц. праводзілі сваю працу на беларускай мове. Калі адкінуць 9 вучасткаў нацыянальных камэр народнага суду, якія працуюць на адпаведных нацыянальных мовах, то акажацца, што толькі два вучасткі народнага суду не пасьпелі яшчэ перайсьці на беларускую мову.

Праца акруговых судоў таксама пераведзена ў значнай меры на беларускую мову, як у адносінах першый інстанцыі, так і ў адносінах другой інстанцыі, ня кажучы ўжо аб адміністрацыйнай працы акруговых судоў. Адсутнасьць беларускай юрыдычнай тэрміналёгіі перашкаджала і перашкаджае канчатковай беларусізацыі суду, асабліва пры вырашэньні грамадзянскіх спраў, з прычыны неабходнасьці ўжываньня спэцыяльных тэрмінаў, дзякуючы чаму сустракаліся пастановы і рашэньні акруговых судоў, складзеныя на расейскай мове. Трэба меркаваць, што ў бліжэйшы час будзе зьнішчан і гэты недахоп і беларусізацыя судовага апарату будзе праведзена поўнасьцю.

Апроч акруговых і народных судоў беларусізавана таксама і дзелаводзтва натарыяльных кантор і судовых выканаўцаў і часткова беларусізавана праца калегіі абаронцаў, паасобныя члены якой выступалі ў судовых пасяджэньнях на беларускай мове. Усё гэта сьведчыць, што судовыя органы ўпаўне асазналі пытаньне аб неабходнасьці беларусізацыі дзяржаўнага апарату і, ня лічачыся з тымі перашкодамі, якія стаялі на пакаменным шляху, прымалі ўсе меры да беларусізацыі органаў юстыцыі.

Народны Камісарыят Юстыцыі мае на ўвазе і ў далейшым не паслабляць працы па беларусізацыі падлеглых яму органаў.

## Роля працаўнікоў органаў юстыцыі ў папулярызаваньні права

Маючы на ўвазе, што шмат якія заканадаўчыя акты застаюцца вельмі часта не ўпаўне зразумелымі на мясцох, а ў асаблівасьці сярод сялянства, што прыводзіць нярэдка к парушэньню рэвалюцыйнай законнасьці, Народны Камісарыят Юстыцыі паставіў перад усімі судовымі працаўнікамі пытаньне аб шырокім удзеле іх у справе папулярызацыі савецкага права.

У адпаведнасьці з дырэктывамі, якія былі даны Наркамюстам па паказанаму пытаньню, як судовыя органы, так і працаўнікі натарыяту ўключалі ў плян сваей працы папулярызацыю права і аддавалі гэтай працы не малую ўвагу. Так, напрыклад, у мэтах растлумачэньня працоўным паасобных заканадаўчых актаў было праведзена 683 даклады па розных праўных пытаньнях.

Па паасобных судовых акругах паказаная колькасьць дакладаў разьмяркоўваецца наступным чынам:

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Бабруйскім | акр. | судом | 267 | дакл. |
| Магілеўскім | „ | „ | 228 | „ |
| Менскім | „ | „ | 199 | „ |
| Мазырскім | „ | „ | 133 | „ |
| Віцебскім | „ | „ | 36 | „ |

Вышэйпрыведзеныя лічбы паставленых дакладаў сьведчаць аб тым, што судовымі працаўнікамі на мясцох было ўдзелена даволі ўвагі папулярызацыі права, і што значна адстала толькі Віцебская судовая акруга ў адносінах папулярызацыі права. Аб'яднаючы тры акругі і, значыцца, найбольшая колькасьць судовых працаўнікоў,

Віцебская судовая акруга мела магчымасьць і павінна была даць куды большую колькасьць дакладаў па праўных пытаньнях, чым гэта ёю было зроблена. З прычыны гэтага працаўнікам Віцебскай судовай акругі прыдзецца ў далейшым узмацніць працу па папулярызацыі права і раўняцца ў гэтых адносінах па іншых акругах.

Што тычыцца тэм, на якія рабіліся судовымі працаўнікамі даклады ў мэтах папулярызацыі права, то імі дакраналіся пераважна наступныя пытаньні: аб рэвалюцыйнай законнасьці, суд і яго задачы, сямейнае і шлюбнае права, працоўнае права, зямельны і лясны кодэксы і г. д.

Акруговым судом неабходна ўзмацніць у далейшым працу па папулярызацыі права сярод працоўных, уцягваючы ў гэту працу ўсіх судовых працаўнікоў акругі, пры чым, побач з дакладамі па найбольш цікавячых тую ці іншую аўдыторыю праўных пытаньнях, Народны Камісарыят Юстыцыі рэкамэндуе наладжваць вечары пытаньняў і адказаў на юрыдычныя тэмы, даючы гэтым магчымасьць удзельнікам азначаных вечароў высьвятляць шмат якія незразумелыя для іх моманты заканадаўчага і судовага характару.

## Вынікі дзейнасьці апрабвальных Камісій Судовых працаўнікоў пры Акруговых Судох.

Утварэньне апрабавальных камісій прасьледавала падвойную мэту: выяўленьне акруговымі судамі ступені падрыхтоўкі народных судзьдзяў і стымуліраваньня апошніх да вырашэньня сваіх ведаў і павышэньня сваёй кваліфікацыі. І тое і другое ажыцьцеўлена ў вядомай меры. З агульнай колькасьці 133 народных судзьдзяў, 104 прайшло праз апрабавальныя камісіі, пры чым некаторыя народныя судзьдзі падпалі паўторным апрабаваньням, з прычыны нездавальняльнасьці вынікаў першых апрабаваньняў. Патрэбна адзначыць, што апрабавальныя камісіі паслужылі вялікім штурхачом к азнаямленьню народных судзьдзяў у шмат якімі пытаньнямі права і, з канчатковым выніку, некалькі павысілі ўзровень іх ведаў, З другога боку, акруговыя суды навочна выявілі ступень падрыхтаванасьці народных судзьдзяў і атрымалі магчымасьць даць пэрсанальныя паказаньні кожнаму з іх у паасобнасьці на тыя нормы права, якія павінны быць імі вывучаны для паляпшэньня сваёй працы.

Па паасобных акругах колькасьць народных судзьдзяў, якія падпалі апрабаваньням, разьмяркоўваюцца наступным чынам:

| | Усяго народных судзьдяў | |
|---|---|---|
| у Менскай акр. | —19 падп. апр. | 14 |
| у Барысаўск „ | —12 „ | 10 |
| у Віцебскай „ | —18 „ | 21 (трое падпала паўторн. апрабаваньням |
| у Полацкай акр. | —11 „ | 11 |
| у Аршанскай „ | —12 „ | 12 |
| у Магілеўскай „ | —14 „ | 14 |
| у Калінінскай „ | —11 „ | 7 |
| у Бабруйскай „ | —15 „ | 8 |
| у Слуцкай „ | — 8 „ | 7 |
| у Мазырскай „ | —13 „ | — |

Як відаць з прыведзеных лічбаў, большасьць народных судзьдзяў прайшло праз апрабавальныя камісіі пры акруговых судох. Толькі Мазырскі акруговы суд адстаў у гэтых адносінах ад усіх астатніх акруговых судоў, што тлумачыцца ў частковасьці меншай колькасьцю членаў Мазырскага акруговага суду у параўнаньні з іншымі судамі і зьменай старшынь акруговага суду. Патрэбна адзначыць таксама, што на агульнай колькасьці падпаўшых апрабаваньням народных судзьдзяў адбіліся і адбываўшыяся зьмены ў асабовым складзе іх, па-

колькі азначаным апрабаваньням падпадаюць толькі судзьдзі, якія прапрацавалі ў гэтай пасадзе ня менш трох месяцаў.

Паколькі сыстэма праверкі ведаў народных судзьдзяў праз апрабавальныя камісіі апраўдала сябе, у сэнсе дасягненьня ў гэтых адносінах пэўных вынікаў, Народны Камісарыят Юстыцыі рэкамэндуе і ў далейшым рааіць такія-ж апрабаваньні як у адносінах тых, якія падпалі ўжо паказаным апрабаваньням, але ў адносінах якіх па тых ці іншых акалічнасьцях будзе прызнана неабходным зноў праверыць іх веды, так і ў адносінах уноў назначаных.

## Праца выязных сэсій народных і акруговых судоў.

У мэтах прыбліжэньня суду да насельніцтва, Наркамюстам было прынята шэраг мер ня толькі к ускарэньню руху спраў і своечаснасьці іх разгляду ў судох, але і к тэрытарыяльнаму прыбліжэньню суду да насельніцтва. З гэтай мэтаю праведзены наступныя мерапрыемствы:

1) У тых акругах, дзе няма акруговых судоў, былі арганізаваны з другой паловы прошлага году сталыя сэсіі акруговага суду. Пры раней практыкаваўшайся пасылцы пэрыядычных выязных сэсіях акруговых судоў, насельніцтва аддаленых ад судовых акругаў прымушана было месяцамі чакаць прыезду азначанай сэсіі, бо апошняя выязджала па меры накапленьня спраў. З моманту арганізацыі сталых сэсій акруговага суду стала магчымым назначаць да слуханьня справы ў азначаных сэсіях па меры паступленьня спраў у суд, чым было дасягнута іх разгледжаньне і адначасна значнае прыбліжэньне суду да насельніцтва.

Апроч разгляду спраў у сталых сэсіях акруговых судоў, была вытварана таксама нямалая колькасьць выязных сэсій акруговага суду ў паасобныя раёны для разгляду спраў на месцы ўчыненьня злачынстваў. Усяго адбылося такіх выязных сэсій суду 37, у якіх было разгледжана 772 справы. Па паасобных акруговых судох лічбы гэтыя наступныя:

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| 1) | па Віцебскаму акрсуду | — 8 сэсій, у якіх разгледж. | 300 | спраў |
| 2) | „ Менскаму „ | — 6 „ „ „ | 157 | „ |
| 3) | „ Магілёўскаму „ | — 2 „ „ „ | 133 | „ |
| 4) | „ Бабруйскаму „ | —12 „ „ „ | 72 | „ |
| 5) | „ Мазырскаму „ | — 9 „ „ „ | 10 | „ |

З прыведзеных лічбаў відаць, што нагрузка выязных сэсій акруговых судоў далёка нераўнамерная і ў паасобных акруговых судох яна была невыстарчальнай.

Акруговым судом неабходна прыняць у далейшым меры да больш поўнай і дастатковай нагрузкі сваіх выязных сэсій, каб большая колькасьць насельніцтва магла быць абслугована судом на месцы іх сталага пражываньня.

2) З тэй-жа мэтаю было дана ў абавязак народных судзьдзяў наладжваць пэрыядычныя выязныя сэсіі суду. Такога роду сэсіі народнага суду практыкаваліся і ў мінулым, але яны прывурочваліся да заслуханьня якой небудзь нашумеўшай ці асобна цікавай справы. Вярней кажучы, у выязных сэсіях народнага суду праводзіліся толькі паказальныя працэсы. З тае прычыны, што значная частка спраў паступае ў народныя суды з вёсак, якія далёка знаходзяцца ад месца знаходжаньня народнага суду, народным судзьдзям было прапанована часьцей наладжваць выязныя сэсіі суду, што і было выканана апошнімі. Пры чым, у паказаных сэсіях разглядаліся ня толькі асаблівай важнасьці справы, але

наогул усе тыя справы, якія паступілі за пэўны пэрыяд часу з данай мясцовасьці. Выезды народных судзьдзяў на месца выкарыстоўваліся таксамн для папулярызацыі права і для наладжваньня на мясцох вечароў пытаньняў і адказаў на юрыдычныя тэмы.

Аб колькасьці сэсій народнага суду і аб колькасьці спраў, разгледжаных імі ў азначаных сэсіях можна меркаваць па наступных лічбах:

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Народнымі судамі | Менскай акругі | 203 сэсіі | 746 | спраў |
| „ „ | Магілёўскай акругі | 274 | 1972 | „ |
| „ „ | Бабруйскай „ | 190 | 1200 | „ |
| „ „ | Мазырскай „ | 80 | 1487 | „ |
| „ „ | Віцебскай „ | 229 | 1643 | „ |
| | А разам | . . . 973 | і 7048 | спраў |

Вышэй прыведзеныя лічбы навочна пацьвярджаюць, насколькі прыблізіліся народныя суды да насельніцтва шляхам заслухоўваньня спраў у вызных сэсіях суду.

Акруговым судом пеабходна дабіцца ў далейшым больш пляномернай нагрузкі вызных сэсій народнага суду і зьвярнуць увагу на павялічэньне колькасьці вызных сэсій таго-ж суду з адначасовым павялічэньнем колькасьці спраў, якія разглядаюцца імі ў заначаных сэсіях.

3) Для прыбліжэньня судовых выканаўцаў да насельніцтва колькасьць судовых выканаўцаў была павялічана, пры чым узамен 24 судвыканаўцаў, якія былі ў 1925 годзе, колькасьць апошніх была даведзена да 35. Такім чынам адзін судвыканаўца стаў абслугоўваць у сярэднім не чатыры раёны, як гэта было раней; а толькі тры раёны.

Упяршыню за час арганізацыі натарыяту былі ўведзены выезды натарыусаў у паасобныя населенныя пункты для ўчыненьня на месцы розных натарыяльных дзеяньняў і для папулярызацыі натарыяту.

Так напрыклад у 1926 годзе было праведзена ніжэйнаступная колькасьць выездаў натарыусаў на месцы:

| | | | |
|---|---|---|---|
| Натарыус. | Менскай кант. | 10 | выезд. |
| „ | Віцебскай „ | 10 | „ |
| „ | Бабруйскай „ | 6 | „ |
| „ | Магілеўскай „ | 4 | „ |
| „ | Аршанскай „ | 3 | „ |

Усяго было засьведчана натарыусамі ў час іх выездаў 428 дагавораў, у тым ліку пераважная колькасьць дагавораў забудоўкі, заключаных працоўнымі. Апроч таго натарыусамі было прачытана 17 дакладаў аб дзейнасьці натарыяльных кантор і 61 даклад па розных праўных пытаньнях.

Гэтыя лічбы сьведчаць аб бяспрэчным прыбліжэньні натарыяту да насельніцтва, пры чым выездамі натарыусаў дасягаецца тое, што для ўчыненьня тых або іншых натарыяльных дзеяньняў насельніцтва ня прымушана адрывацца ад сваіх заняткаў, каб папасьці ў натарыяльную кантору, а мець магчымасьць учыняць гэтыя дзеяньні на месцы пры прыезьдзе натарыусу.

Акруговым судом неабходна зьвярнуць увагу, каб паказаная праца не паслаблялася ў далейшым, імкнуцца да яшчэ большага прыбліжэньня ўсяго судовага апарату да насельніцтва.

## Паказальныя працэсы.

У дырэктывах, якія дадзены Наркамюстам у прошлым годзе акруговым судом аб арганізацыі паказальных працэсаў, было паказана, каб акруговыя і народныя суды ня гналіся-б у сваёй працы за колькасьцю паказальных працэсаў. А ставілі-б у паказальным парадку толькі тыя справы, якія заслугоўваюць грамадзкай думкі ва ўмовах данай мясцовасьці.

Характар праведзеных судамі паказальных працэсаў сьведчыць аб тым, наколькі былі выкананы на практыцы вышэйпаказаныя дырэктывы Народнага Камісарыяту Юстыцыі. Так, напрыклад, у ліку спраў, разгледжаных акруговымі судамі ў парадку паказальных працэсаў, першае месца займаюць справы аб службовых злачынствах, галоўным чынам справы аб растратах. Такім чынам, праводзіўшаяся кампанія барацьбы з растратамі спаткала жывы водзыў у судовым апараце.

Што тычыцца паказальных працэсаў, праведзеных народнымі судамі, то да ліку апошніх адносяцца пераважна справы аб растратах, справы аб хуліганстве, лесапарушэньні і справы аб неплацяжу падаткаў. З сказанага відаць, што народныя суды правільна ўлічвалі грамадзка-палітычнае значэньне тэй ці іншай справы, ставячы яе ў парадку паказальнага працэсу.

Паказальныя працэсы, якія зьяўляюцца агульнай мерай папярэджаньня, далі магчымасьць судом шырока правесьці выхаваўчую працу сярод аграмадных мас насельніцтва, укарэньваючы ў іх канкрэтныя паняцьці рэвалюцыйнай законнасьці.

Аб колькасьці паказальных працэсаў, праведзеных акруговымі і народнымі судамі, можна меркаваць па ніжэйнаступных лічбах:

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Менскім | акр. | суд. | прав. | 9 | пак. пр. |
| Віцебскім | „ | „ | „ | 9 | „ |
| Мазырск. | „ | „ | „ | 8 | „ |
| Бабруйск. | „ | „ | „ | 7 | „ |
| Магілеўск. | „ | „ | „ | 4 | „ |

Народнымі судамі тых-жа судовых акруг праведзена ў прошлым годзе наступная колькасьць паказальных працэсаў:

Нарсудамі.

| | | | |
|---|---|---|---|
| Менскай | суд. акр. | 99 | паказ. прац. |
| Віцебскай | „ | 14 | „ |
| Бабруйскай | „ | 10 | „ |
| Магілеўскай | „ | 8 | „ |
| Мазырскай | „ | 4 | „ |

Народны Камісарыят Юстыцыі, ня ставячы перад акруговымі і народнымі судамі кантрольнай лічбы спраў, якія падлягаюць разгляду ў парадку паказальных працэсаў, акруговым судом неабходна ў далейшым зьвярнуць увагу, каб народныя суды часьцей выносілі за межы камэры суду слуханьне тых спраў, якія прыцягваюць да сябе на мясцох увагу працоўных мас.

## Практыка Асобай Калегіі Вышэйшага Кантролю па зямельных справах.

16. Бабруйская 2 раённая зямельная камісія прасіла растлумачыць, ці можна на грунце арт. 7 зям. код. завясьці справу аб адабраньні зямлі ад працоўнае гаспадаркі, якая скарыстоўвае зямлю з парушэньнем арт. 58 таго-ж кодэксу, калі раней заведзеная сельскім саветам падобная-ж справа спынена была вышэйшымі інстанцыямі зямельнага суду.

Разгледзеўшы гэтае пытаньне ў распарадчым пасядженьні 22 красавіка 1927 г., Асобая Калегія Вышэйшага Кантролю журналам сваім № 28 растлумачыла:

„На падставе 7 арт. зям. код. нагляд зямельных органаў за законнасьцю працоўнага землякарыстаньня складаецца з: 1)назіраньня, каб землякарыстацелі правільна вялі сельскую гаспадарку з заха-

ваньнем працоўнага ладу; 2) адміністрацыйнага абсьледаваньня паасобных гаспадарак пры неабходнасьці і 3) пра'яўленьня ў раённай зямельнай камісіі іску аб адабраньні зямлі ад гаспадарак, парушаючых асноўныя абавязкі працоўнага землякарыстаньня.

Самымі блізкімі да насельніцтва зямельнымі органамі, якія рэгулююць землякарыстаньне, зьяўляецца сельскі савет і зямельны стол раённага выканаўчага камітэту. Калі пачатая імі справа аб адабраньні зямлі ад гаспадаркі, парушаючай умовы працоўнага землякарыстаньня спынена была зямельным судам, а землякарыстацель пасьля гэтага зноў парушыў вызначаныя законам правілы рацыянальнага вядзеньня працоўнае сельскае гаспадаркі, альбо ўчыніў незаконную ўмову на зямлю, дык зямельны орган павінен, зрабіўшы належнае абсьледаваньне, прад'явіць новы іск у парадку 26 ці 58 арт. зям. код.".

17. У практыцы Асобае Калегіі Вышэйшага Кантролю ўзьнікла пытаньне: калі член сялянскага двара знаходзіцца на выбарнай грамадзянскай службе, дык ці можа лічыцца ў складзе двара сям'я гэтага служачага, якая жыве з ім разам.

Разгледзеўшы гэтае пытаньне ў распарадчым пасяджэньні 31 мая 1927 г., Асобая Калегія Вышэйшага Кантролю журналам сваім № 30 растлумучыла:

„У арт. 16 зям. код. пералічаны выпадкі, калі адсутнасьць члена двара з гаспадаркі не пазбаўляе яго права на зямлю ў складзе гэтага двара. У адных выпадках члены, якія вышлі з гаспадаркі, захоўваюць права на зямлю, колькі-б часу яны не адсутнічалі (вайсковая служба, выбарная савецкая і грамадзянская, атрыманьне адукацыі ў навучальнай установе і знахаджэньне ў лячэбніцы), у другіх—толькі на вызначаны тэрмін, гэта значыць, двухсевазваротны пры адыходзе на працоўныя заробкі і пяцёхгадовы пры вызначанай бязвестнай адсутнасьці. Сям'я адсутнічаючага члена двара, якая жыве разам з ім, карыстаецца такім-жа правам на зямлю ў складзе двара, як і адсутнічаючы. Дзеля гэтага сям'і яго павінна лічыцца ў складзе сялянскага двара ўвесь той час, у працягу якога адсутнічаючы член двара захоўвае ў ім права на зямлю".

18. Каморнік па земляўпардкаваньню ў Барысаўскай акрузе т. Красінскі прасіў растлумачыць, ці трэба абавязкова браць падпіску ад усіх працоўных членаў двара аб тым, што яны адмаўляюцца ад сваей надзельнай зямлі, з якой высяляюцца на запасны фонд дзе атрымліваюць поўную норму зямлі.

Па гэтаму пытаньню Асобая Калегія Вышэйшага Кантролю дала 31 мая 1927 г. ў журнале № 30 наступнае тлумачэньне:

„Падпіска ад усіх паўнапраўных членаў двара аб адмове ад зямлі бярэцца па сэнсу арт. 18 зям. код. толькі ў тым разе, калі двор, спыніўшы вядзеньне сельскае гаспадаркі адмаўляецца ад права працоўнага землякарыстаньня Калі-ж у парадку земляўпарадкаваньня робіцца толькі перамяшчэньне двара з аднаго месца на другое, ён на грунце 114 арт. зям. код. можа захаваць за сабою права карыстаньня толькі сваім ранейшым сядзібным вучасткам на тэрмін ня звыш 3 гадоў, але не астатнімі ўжыткамі. Дзеля гэтага ні ад паасобных ченаў двара, ні ад гаспадара ня трэба браць падпіску аб адмове двара ад зямлі, калі ў парадку землякарыстаньня ён атрымлівае замест гэтае зямлі другі вучасгак".

19. Па пытаньню, ці магчыма прад'яўленьне іску на ўрадавай установы аб аднаўленьні парушанага землякарыстаньня, Асобая Калегія Вышэйшага Кантролю 14 мая 1926 г. ў журнале № 9 дала наступнае тлумачэньне:

„Арт. 25 зям. код. ужываецца і тады, калі парушэньне землякарыстаньня альбо гаспадаркі выклікана няправільнымі дзеяньнямі зямельных органаў альбо іншых устаноў. Прад'яўлены да ўрадавай установы іск аб аднаўленьні парушанага землякарыстаньня разглядаецца ў агульным парадку акруговаю зямельнаю камісіяй".

20. Койданаўскі раённы выканаўчы камітэт просіць растлумачыць, як трэба паступіць з тымі буйнымі землякарыстальнікамі, якія робяць захопы зямельных лішкаў, адабраных на падставе судовых рашэньняў зямельных камісій з іх карыстаньня ў парадку абрэзкі і пераданых сельсаветамі ў часовае карыстаньне малазямельных грамадзян.

Разгледзеўшы гэтае пытаньне ў распарадчым пасяджэньні 11 кастрычніка 1926 г., Асобая Калегія Вышэйшага Кантролю журналам сваім № 17 растлумачыла:

„Калі па ўвайшоўшаму у законную сілу рашэньню зямельнае камісіі, вынесенаму на падставе абежніку Наркамзему за 17 студзеня 1923 г. № 2, вызначана колькасьць зямлі, пакідаемай буйнай гаспадарцы ў парадку абрэзкі, і рашэньне гэта прыведзена ў выкананьне сельсаветам з перадачай зямельных лішкаў маючым патрэбу ў зямлі грамадзянам, то карыстаньне апошніх гэтымі абрэзкамі зьяўляецца законным і працоўным, а таму і бестэрміновым па падставе 12 і 124 арт. арт. зям. код. Парушанае землякарыстаньне гэтых грамадзян падлягае аднаўленьню па іх хадайніцтву ў парадку арт. 25 і ўвагі 3 да арт. 199 зям. код., а

ў выпадку самавольнага захопу зямлі вінаватыя прыцягваюцца да адказанасьці па арт. 103 Крым. Код.“.

21. Калінінская акруговая зямельная камісія прасіла растлумачыць, ці ўжывацца трохгадовая даўнасьць для зямельных іскаў.

Па пытаньню гэтаму Асобая Калегія Вышэйшага Кантролю 22 красавіка 1927 г. ў журнале № 29 дала наступнае тлумачэньне:

„Для іскаў аб зямлі, прад'яўленых дзяржавай у асобе яе органаў, даўнасьці няма, бо зямля складае выключна дзяржаўную ўласнасьць. У адносіне-ж да іскаў, прад'яўляемых рознымі землякарыстальнікамі паміж сабою, ужываецца арт. 44 грамадзянскага код., згодна якога права на іскі скасоўваецца па сканчэньні трохгадовага тэрміну, калі ў законе ня вызначаны другі тэрмін даўнасьці. Такім чынам спэцыяльны тэрмін даўнасьці існуе, напрыклад, для іскаў, прадугледжаных 16 і 73 арт. зям. код. Права-ж на іск аб аднаўленьні парушанага землякарыстаньня скасоўваецца агульнаю трохгадоваю даўнасьцю.“.

## АГЛЯД ВАЖНЕЙШЫХ АКТАЎ САВЕЦКАГА ЗАКОНАДАЎСТВА, АПУБЛІКАВАНЫХ ЗА ЧАС ад 1-IV да 1-VI 1927 г.

### А. ПАСТАНОВЫ УРАДУ СССР.

*Дзяржаўная будова*

Пастанова ЦВК і СНК за 4 мая 1927 г. аб пашырэньні праў Рабоча-Сялянскай Інспэкцыі (З. З. СССР 1927 г. № 22, арт. 247), выданая ў мэтах барацьбы з негаспадарлівасьцю, бюракратызмам і валакітаю, прызнае канчатковымі і абавязковымі для ўсіх дзяржаўных і гаспадарчых органаў пастановы НК РСІ СССР па пытаньні аб скарачэньні справаздачнасьці, аб ліквідацыі лішніх органаў і прадстаўніцтваў, аб скарачэньні штатаў, аб зьмяншэньні накладных выдаткаў, аб зьмене структуры устаноў і прадпрыемстваў, а таксама аб накладаньні дысцыплінарных пакараньняў і аб звальненьні службовых асоб за негаспадарнасьць, бюракратызм і валакіту.

*Праца*

Пастанова ЦВК і СНК СССР за 7 сакавіка 1927 г. аб парадку выдачы заахвочваючай узнагароўды асобам кіруючага пэрсаналу дзяржаўных прадпрыемстваў і акцыйных (паявых) таварыстваў з пераважным удзелам дзяржаўнага капіталу (З. З. СССР 1927 г. № 16, арт. 167) скасоўвае ўсе пастановы аб выдачы тант'ем (З. З. СССР 1925 г. № 43, арт. арт. 324 і 325; 1926 г. № 22, арт. 147). Правам на атрыманьне заахвочваючай узнагароды карыстаюцца асобы кіруючага адміністрацыйнага і тэхнічнага пэрсаналу, якія нясуць адказнасьць за дзеяльнасьць усяго прадпрыемства або паасобных яго частак якія праслужылі ў прадпрыемстве ня менш аднаго году. Падстава для выдачы зьяўляецца асабістая ініцыятыва і дасягненьні іх у палепшаньні пастаноўкі работы прадпрыемства. Фонд для выдачы заахвочваючай узнагароды складаецца з адлічэньняў ад прыбыткаў прадпрыемства ў разьмеры да $1/4\%$ агульнай сумы гэтых прыбыткаў.

*Асьвета.*

Пастанова ЦВК і СНК СССР за 16 сакавіка 1927 г. аб праве перадачы па радыётэлефоне публічнага выкананьня музычных, драматычных і іншых твораў, а таксама лекцый і дакладаў (З. З. СССР 1927 г. № 16, арт. 171) дае гэтае права ўсім установам і арганізацыям, якія маюць права радыёвяшчаньня без асобнай узнагароды на карысьць аўтараў, выканаўцаў, тэатраў, антрэпэнэраў і інш.

*Каапэрацыя.*

Пастановай ЦВК і СНК СССР за 11 мая 1927 г. зацьверджана палажэньне аб прамысловай каапэрацыі (З. З. СССР 1927 г. № 26, арт. 279 і 280). Гэта палажэньне ўстанаўляе мэты, склад і парадак закладаньня прамысловых каапэрацыйных таварыстваў (арцеляй), парадак іх дзеяльнасьці, правы і абавязкі членаў арцелі, катталы і разьмеркаваньне прыбыткаў і страт, органы кіраваньня і рэвізій, парадак закладаньня і правы саюзаў

прамысловых каапэрацыйных таварыстваў і парадак ліквідацыі арцеляй і іх саюзаў. Прамысловыя каапэрацыйныя таварыствы (арцелі) утвараюцца ў мэтах вядзеньня прамысловых прадпрыемстваў сумеснай асабістай працай сваіх членаў, а таксама ў мэтах аб'яднаньня прамысловых гаспадарак сваіх членаў для збыту і перапрацоўнікі прадуктаў іх працы, сумеснага карыстаньня прыладамі вырабу і сумеснага набываньня ўсяго неабходнага ім у іх промыслах. З моманту рэгістрацыі таварыствы карыстаюцца правамі юрыдычных асоб. Таварыствы маюць права ўтвараць склады для хаваньня вырабаў і матар'ялаў, адчыняць магазіны, канторы, агэнцтвы і прадстаўніцтвы, аддаваць пабочным асобам і прадпрыемствам у перапрацоўку сырызну і паўфабрыкаты; дастаўляць сваім членам харчы і прадметы шырокага спажываньня, набываць для перапродажу і прымаць на камісію вырабы ад саматужнікаў і рамесьнікаў, якія лічацца членамі таварыства і прымаць уклады ад сваіх членаў; вясьці сярод сваіх членаў культурна-асьветную работу. Ужываньне таварыствам наёмнай працы дазваляецца толькі для выкананьня дапаможных работ, якія не зьяўляюцца асноўным прадметам вытворчай дзеяльнасьці таварыства. Таварыству дазваляецца мець вучняў у прадпрыемстве і ў паасобных членаў. Удзел асабістай працай у дзеяльнасьці таварыства зьяўляецца абавязковым для ўсіх членаў. Органамі кіраваньня таварыства зьяўляецца агульны збор і праўленьне, а органам рэвізіі—рэвізійная камісія. Прамысловыя каапэрацыйныя таварыствы могуць складаць саюзы, у якія могуць уступаць таксама прамысловыя крэдытныя таварыствы, сельска-гаспадарчыя і сельска-гаспадарчыя крэдытныя таварыствы і каапэрацыйныя таварыствы з мяшанымі функцыямі прамысловай і сельскагаспадарчай каапэрацыі.

*Фінансы.*

Пастановай ЦВК і СНК СССР за 23 сакавіка 1927 г. аб мэтавым кватэрным падатку на патрэбы будаўніцтва рабочых жылішч (З. З. СССР—27 г., № 16, арт. 172) даецца права мясцовым саветам устанаўляць у гарадох памянёны падатак. Мэтавы падатак спаганяецца ў залежнасьці ад займаемай жылой плошчы са ўсіх фізычных асоб, якія абкладаюцца падаткам ад прыбытку па п. „в" арт. 4 Палажэньня за 24 верасьня 1926 г. (З. З. СССР 1926 году № 64, арт. 484). Разьмер падатку не павінен перавышаць граніц, устаноўленых спэцыяльным росьпісам.

Пастанова ЦВК і СНК СССР за 11 сакавіка 1927 г. аб выпуску трэцяй дзяржаўнай сялянскай выйгрышнай пазыкі (З. З. СССР 1927 г. № 17, арт. 182) мае на мэце ўзмацненьне сродкаў, якія адпушчаюцца па дзяржаўным бюджэце СССР на падняцьце сельскае гаспадаркі. Сума пазыкі—25 мільёнаў рублёў і аблігацыі па 5 і 10 рублёў, па якіх налічваецца 6 проц. гадавых. Аблігацыі звальняюцца ад ўсіх падаткаў і збораў.

Пастанова ЦВК і СНК за 30 сакавіка 1927 г. аб скасаваньні акцызаў на кухонную соль (З. З. СССР 1927 г. № 17, арт. 186) скасоўвае з 1-IV—27 г. шэраг законаў аб дзяржаўнай салянай манаполіі і аб акцызе на соль.

Пастанова ЦВК і СНК за 31 сакавіка 1927 г. аб дазволе Цэнтральнаму Сельска-Гаспадарчаму Банку выпусьціць забясьпечаную Урадам СССР аблігацыйную пазыку на суму сто мільёнаў рублёў па наміналe (З. З. СССР 1927 г. № 17, арт. 187) выдана з мэтаю ўтварэньня моцнай фінансавай базы для работы сыстэмы сельска-гаспадарчага крэдыту, а таксама для ўзмацненьня крэдытаваньня вытворчых патрэб сялянскага нася-

леньня і сельскай гаспадаркі і зваротных сродкаў сельскагаспадарчай крэдытнай каапэрацыі. Сума пазыкі 100 мільёнаў рублёў, кошт аблігацый—10.000 р.

Пастанова ЦВК і СНК СССР за 6 красавіка 1927 г. аб дапаўненьні Палажэньня аб спагнаньні падаткаў артыкулам 25 (З. З. СССР—1927 г. № 18, арт. 199) устанаўляе, што апісаныя за няплату падаткаў хлебныя прадукты не прадаюцца з публічных таргоў, а перадаюцца фінансавымі органамі дзяржаўным і кагпэрацыйным хлебазагатоўчым арганізацыям загатоўку па загатоўчай цане, існуючай па дзень перадачы ў данай мясцовасьці.

Пастановай ЦВК і СНК СССР за 30 красавіка 1927 г. зацьверджана Палажэньне аб спагнаньні рэнты з гарадзкіх зямель (З. З. СССР 1927 г. № 22, арт. арт. 244 і 245), якое скасоўвае пастанову ЦВК і СНК СССР за 12 лістапада 1923 г. (З. З. 1923 г. № 114-115, арт. 1055). Рэнта спаганяецца са ўсіх забудаваных і незабудаваных зямель, якія знаходзяцца ў межах гарадзкіх паселішчаў. Рэнта падзяляецца на асноўную, якая ідзе ў прыбытак дзяржаўнага скарбу, і дапаўняльную, якая паступае ў мясцовыя бюджэтныя рэсурсы. Законам устанаўляецца шэраг льгот па звальненьню ад выплаты рэнты з мэтаю заахвочваньня розных галін гаспадарчай і сацыяльна-культурнай дзеяльнасьці.

Пастановай ЦВК і СНК СССР за 11 мая 1927 г. аб зьмене арт. 36 Палажэньня аб дзяржаўных працоўных касах ашчаднасьці (З. З. СССР 1927 г. № 25, арт. 267) укладчыку даецца права паказваць касе ашчаднасьці парадкам, які ўстанаўляецца Народным Камісарыятам Грашовых Спраў СССР, асоб, якім павінен быць выдан уклад пасьля сьмерці ўкладчыка, незалежна ад таго ці гэтыя асобы ўваходзяць у кола законных спадчаньнікаў.

Пастанова ЦВК і СНК СССР за 18 мая 1927 г. аб дзяржаўным падатку на прыбытак (З. З. СССР 1927 г. № 25, арт. 273) уводзіцца на замену пастановы ЦВК і СНК СССР за 18 чэрвеня 1926 г. аб часовым дзяржаўным падатку на падпрыбытак (З. З. СССР 1926 г. № 42, арт. 307).

## Б. ПАСТАНОВЫ УРАДУ БССР.

### *Грамадзянскае права.*

Пастанова ЦВК і СНК за 19 лютага 1927 г. аб умовах і парадку высяленьня грамадзян з занятых імі памяшканьняў у гарадох і мястэчках (З. З. № 12, арт. 42) выдана для аб'яднаньня раней выданых пастаноў аб парадку высяленьня грамадзян з занятых імі памяшканьняў. Высяленьне ўчыняецца праз суд у адміністрацыйным парадку. Высяленьне праз суд дапушчаецца ў выпадках, калі жылец пагоршвае становішча памяшканьня і калі ён карыстаецца памяшканьнем ня згодна з законам, дагаворам або прызначэньнем яго; калі ён сябе так трымае, што робіць для іншых жыльцоў немагчымым сумеснае з ім пражываньне і каліён у ўстаноўлены час не зрабіў рамонту, які належыць да яго абавязку і ў выпадку няплаты за кватэру; калі жылец заняў памяшканьне у прыватнаўласьніцкім доме без дазволу дамаўласьніка; у выпадку, калі патрэбен капітальны рамонт памяшканьня. Высяленьне ў адміністрацыйным парадку дапушчаецца з дамоў, якія замацаваны за дзяржаўнымі ўстановамі і прадпрыемствамі, прафэсіянальнымі і партыйнымі арганізацыямі, калі памяшканьне патрэбна ім для службовых мэт; з камунальных дамоў, калі яны заняты без дазволу адпаведных органаў; з дамоў пагранічных абвалам; з памяшканьняў, якія даюцца сэзонным рабочым, дамовым работнікам,

вучням, супрацоўнікам устаноў і прадпрыемстваў,—пасьля таго, як яны страцілі сувязь з тым органам, які даў ім памяшканьне; з казарменных памяшканьняў і з памяшканьняў у паласе чыгуначнага і воднага транспарту—рабочных асоб з агульных памяшканьняў для беспрацоўных, калі беспрацоўны дастане работу. У законе падрабязна азначаны ўмовы і парадак высяленьня, а таксама тэрміны для кожнага паасобнага выпадку, калі можа ўжывацца высяленьне. Асобы, належачыя да працоўнай клясы, ня могуць быць выселены ў пэрыяд з 1 лістапада па 1 красавіка.

Пастановай ЦВК і СНК за 26 сакавіка 1927 г. аб парадку рэквізыцыі маемасьці прыватных асоб і таварыстваў (З. З. № 17, арт. 71) скасаван дэкрэт СНК ССРБ 1922 г. аб парадку рэквізыцыі і канфіскацыі маемасьці прыватных асоб і таварыстваў і ў разьвіцьцё арт. арт. 69 і 70 Грамадзянскага Кодэксу, устаноўлена, што пастанова СНК аб рэквізыцыі выконваецца акруговымі выканаўчымі камітэтамі, якія ўтвараюць асобныя камісіі для ўстанаўленьня разьмеру платы за рэквізаваную маемасьць. За сакрыцьцё маемасьці, якая падлягае рэквізыцыі віноўныя асобы прыцягваюцца да адказнасьці, а на захаваную ад рэквізыцыі маемасьць накладаецца арышт.

Пастанова ЦВК і СНК за 25 сакавіка 1927 г. аб дапаўненьні артыкулу 166 Грамадзянскага Кодэксу ўвагаю 2-ю і артыкулу 173 ўвагаю, а таксама аб зьмене ўвагі 1-й да арт. 73 ГК (З. З. № 17, арт. 72), выдана на замену пастановы ЦВК і СНК за 17 красавіка 1925 г. аб льготах прыватнаму бунаўніцтву (З. З. 1925 г. № 21, арт. 194) і ўстанаўляе новыя льготы для забудоўшчыкаў у адносінах да права здачы памяшканьня без абмежаваньня ўстаноўленымі нормамі жылой плошчы і ўстаноўленае платы за нажылыя памяшканьні па згодзе. Для распачатку будаваньня ўстанаўляецца ня больш 2 год, а для сканчэньня будаваньня—ня больш 4 год ад дня заключэньня дагавору.

Пастанова ЦВК і СНК за 26 сакавіка 1927 г. аб зьмене артыкулу 12 Грамадзянскага Кодэксу (З. З. № 17, арт. 73) устанаўляе, што асоба, якая ў парадку, устаноўленым Грамадзянскім Працэсуальным Кодэксам, прызнана невядома дзе адсутнаю, можа быць абвешчана прапаўшай, калі ад дня публікацыі аб прызнаньні яе невядома дзе адсутнаю мінула пяць год. Асоба, якая зьявіцца пасьля ўваходжаньня ў сілу пастановы суду аб прызнаньні яе прапаўшаю, губіць права на атрыманьне раней належаўшай ёй маемасьці.

## *Грамадзянскі працэс.*

Пастанова ЦВК і СНК за 26 сакавіка 1927 г. аб прызнаньні асобы невядома дзе адсутнай і невядома дзе адсутную прапаўшай (З. З. № 17, арт. 70) устанаўляе, што справавядзеньне аб прызнаньні асобы невядома дзе адсутнаю падымаецца па ініцыятыве суду, пракуратуры, органаў апекі, па просьбе іншых устаноў і арганізацый, а таксама асоб, маючых права на спадчыну і ўтрыманьне, і крэдытараў. Заява падаецца ў народны суд, які зьбірае даныя аб адсутнай асобе і выносіць пастанову аб выкліку адсутнага праз публікацыю ў афіцыйных газэтах і аб ахове яго маемасьці. Па зыходзе двух месяцаў ад дня публікацыі народны суд пасьля апытаньня заяўніка і сьведак, выносіць пастанову аб прызнаньні асобы невядома дзе адсутнаю і аб устанаўленьні апекі над яе маемасьцю. Па зыходзе 5 год ад дня публікацыі аб прызнаньні асобы невядома дзе адсутнаю, калі даная асоба ня зьявіцца і ня будуць атрыманы зьвесткі аб яе месцы прабываньня, народны суд, па просьбе вышэй памянёных асоб ці ўстаноў, пачынае справавядзеньне аб прызнаньні асобы невядома дзе

адсутнай—прапаўшаю. Народны суд зноў публікуе і запрашае ўсе ўстановы і асоб, якія могуць даць зьвесткі аб месцы знаходжаньня асобы, невядома дзе адсутнай, і па зыходзе аднаго месяца, пасьля апытаньня заяўніка і сьведак, выносіць пастанову аб прызнаньні асобы прапаўшай.

*Крымінальны працэс.*

Пастанова ЦВК і СНК за 26 сакавіка аб зьмене артыкулу 108 Крымінальна-Працэсуальнага Кодэксу (З. З. № 17, арт. 74) устанаўляе, што папярэдняе сьледства абавязкова па ўсіх справах, падсудных акруговым судом і Найвышэйшаму суду, а таксама па справах аб злачынствах, якія прадугледжаны арт. арт. 81-г, 1 ч. 113, 1 ч. 114, 1 ч. 114-а, 120, 129, 2 ч. 137, 143-148, 1 ч. 149, 162, 179 і 188 Крымінальнага Кодэксу. Па ўсіх іншых справах папярэдняе сьледзтва або паасобныя сьледчыя дзеяньні робяцца на падставе асобнай кожны раз пастановы суду або па прапанове пракурора.

*Зямельнае права.*

Пастановай ЦВК і СНК за 5 сакавіка 1927 г. аб пашырэньні на тэрыторыю Гомельскае і Рэчыцкае акруг Зямельнага Кодэксу БССР і аб парадку разгляду зямельных спраў, паднятых на паказанай тэрыторыі паводле Зямельнага Кодэксу РСФСР (З. З. № 13, арт. 51) за 10 сакавіка 1927 г. на тэрыторыю Гомельскае і Рэчыцкае акруг пашырана дзеяньне Зямельнага Кодэксу БССР выданьня 1925 г., а таксама законаў аб перасяленчых таварыствах (З. З. 1925 г. № 21, арт. 198), аб прыпыненьні падзелаў сялянскіх гаспадарак (З. З. 1925 г. № 24, арт. 220), аб парадку ўжываньня норм працоўнага землякарыстаньня (З. З. 1925 г. № 28, арт. 253) і аб зямельных распарадках у гарадох і паселішчах гарадзкога тыпу (З. З. 1925 г. № 43, арт. 353).

*Адміністрацыйнае права.*

Пастановай ЦВК і СНК за 5 сакавіка 1927 г. аб пашырэньні дзеяньня Папраўна-Працоўнага Кодэксу БССР на тэрыторыю Гомельскай і Рэчыцкай акруг (З. З. № 13, арт. 50) 15 сакавіка 1927 г. спынена на тэрыторыі Гомельскай і Рэчыцкай акруг дзеяньне Папраўна-Працоўнага Кодэксу РСФСР і выдадзеных у яго разьвіцьцё інструкцый і пашырана на гэтую тэрыторыю дзеяньне Папраўна-Працоўнага Кодэксу БССР і выдадзеных у яго разьвіцьцё інструкцый.

# Хроніка.

## ЗАКАНАДАЎЧАЯ ХРОНІКА.

### Зьмена арт. 137 Грамадзянскага Кодэксу.

У толькі што выданым Грамадзянскім Кодэксе БССР арт. 139-ы адпавядае ранейшаму арт. 137, выкладзен у рэдакцыі пастановы ЦВК і СНК БССР за 14 мая г. г. (З. З. БССР 1927 г. № 21, арт. 93).

Прадстаўнікі дзяржаўных установаў даўно ўжо паднімалі пытаньне аб зьмене арт. 137, а цяпер 139-ага Грам. Кодэксу, і новая рэдакцыя гэтага артыкулу ўпаўне ідзе насустрэч інтарэсам дзяржаўных установаў і каапэрацыйных арганізацый.

Артыкул 139 (137) зьяўляецца натуральным дапаўненьнем да папярэдняга артыкулу, г. зн. 138 (або 136 па старой нумарацыі).

У арт. 138 (па старой нумарацыі 136) выкладзена агульнае правіла аб тым, што пісьмовая форма абавязкова толькі для дагавораў на суму звыш 500 рублёў.

З гэтага агульнага правіла арт. 137 Гр. Кодэксу РСФСР 1922 г. (уведзенага на тэрыторыі БССР з 1-III-23 г.) рабіў выключэньне для дагавораў, заключаемых дзяржаўнымі ўстановамі і прадпрыемствамі, як між собою, так і з прыватнымі собамі. Усе гэтыя дагаворы за дакладна паказанымі ў тым-жа артыкуле выключэньнямі падлягалі абавязковаму засьведчаньню ў натарыяльным парадку.

З часу ўвядзеньня ў дзеньне Гр. Кадэксу сьпісак выключэньняў, паказаных у арт. 137, некалькі разоў зьмяняўся і папаўняўся. У сучасны-ж момант гэты арт падпаў карэннай перапрацоўцы.

Перш за ўсё гэты арт. (139-ы па новай нумарацыі) гаворыць ужо не аб „засьведчаньні ў натарыяльным парадку“, а аб „натарыяльным пасьведчаньні“. Гэта тлумачыцца тым, што новае натарыяльнае Палажэньне БССР (З. З. БССР 1927 г. № 5, арт. 17) зусім зьнішчыла раней існаваўшыя два віды натарыяльных угод: а) учыненьне ў натарыяльрым парадку; б) засьведчаньне ў натарыяльным парадку; цяпер у натарыяльных канторах вытвараецца толькі натарыяльнае пасьведчаньне ўгод.

Потым, імкнучыся да аблягчэньня дзяржаўнага звароту, заканадаўца ў новай рэдакцыі вышэйпаказанага артыкулу ўжо непатрабуе абавязковай натарыяльнай формы для ўсіх дагавораў дзяржаўных органаў і дзяржаўных прадпрыемстваў, а толькі для тых з іх, якія заключаны імі з прыватнымі асобамі і грамадзкімі арганізацыямі. Значыцца, для дагавораў, заключаемых дзяржаўнымі ўстановамі і прадпрыемствамі між сабою натарыяльная форма ўчыненьня не абавязкова.

Вызвалены ад натарыяльнага пасьведчаньня таксама ўсе дагаворы дзяржаўных установаў і прадпрыемстваў з органамі каапэрацыі (дагаворы каапэрацыйных арганізацыі між сабою і раней непатрабавалі абавязковай натарыяльнай формы) і з акцыянэрнымі таварыствамі, калі ў апошніх пераважае дзяржаўны капітал (п. „б“ арт. 139).

Навіною ў разглядаемым артыкуле зьяўляецца таксама вызваленьне ад абавязковасьці натарыяльнага пасьведчаньня дагавораў камісіі, заключаемых дзяржаўнымі органамі і прадпрыемствамі, з кімбы гэтыя дагаворы не заключаліся, пры гэтым без абмежаваньня сумы дагавору (п. „і“ арт. 139).

Затым слабодны ад натарыяльнага пасьведчаньня таксама дагаворы органаў ваеннага і марскога ведамства, а таксама органаў асобых аддзелаў і войск Аб'яднанай Дзярж. Палітычнай Управы і канвойнай варты па куплі-продажу, пры гэтым усёроўна, з кім гэтыя дагаворы заключаюцца.

У астатнім разглядаемы арт. ГК застаўся без зьмен, г зн. з ліку дагавораў, заключаемых дзяржаўнымі органамі і ўстановамі з прыватнымі асобамі і грамадзкімі арганізацыямі, натарыяльная форма не абавязкова для ніжэй наступных:

1) дагаворы з прыватнымі асобамі на суму ня звыш адной тысячы рублёў;

2) угод па ўкладной, пазычковай і камісійнай апэрацыях крэдытных установаў;

3) угод па куплі-продажу за наяўны рахунак;
4) дагавор страхаваньня;
5) угод, якія ўчыняюцца ў плянавым парадку па распараджэньнях Савету Працы і Абароны Союзу ССР або Эканамічнай Нарады БССР, калі ў пастанове Савету Працы і Абароны Саюзу ССР або Эканамічнай Нарады БССР паказаны ўмовы, на якіх павінны быць заключаны ўгоды;
6) дагавор, які заключаецца дзяржаўнымі, прафэсіянальнымі і партыйнымі выдавецтвамі між сабою і з іншымі прадпрыемствамі, арганізацыямі і прыватнымі асобамі на перадачу аўтарскіх правоў.

Увага першая да азначанага артыкулу робіць абмоўку, што ўгода па куплі-продажу за наяўны рахунак, дагаворы з прыватнымі асобамі на суму ня звыш адной тысячы рублёў і дагаворы з каапэрацыйнымі арганізацыямі і акцыянэрнымі кампанямі з пераважным удзелам дзяржаўнага капіталу вызваляюцца ад абавязковага натарыяльнага пасьведчаньня толькі тады, калі гэтыя дагаворы не адносяцца да катэгорыі дагавароў, для якіх Грам. Кодэксам установлена абавязковае натарыяльнае пасьведчаньне, напрыклад, па арт. арт. 155, 187 і інш. Само сабою разумеецца, што тая-ж заўвага дзейнічае і ў стасунку дагавароў дзяржаўных устаноў і прадпрыемстваў між сабою.

Паводле другой увагі да арт. 139 ГК рэгістрацыя на біржы ўгод куплі-продажу і пастаўкі прыраўноўваецца да натарыяльнага пасьведчаньня. У БССР ў сучасны момант скасаваны таварныя біржы, чаму гэта ўвага адносіцца толькі да ўгодаў, рэгіструемых на біржах іншых союзных рэспублік. Што-ж тычыцца рэгістрацыі ўгод у органах Нар. Кам. Гандлю (арт. 1 закону за 27-І-27 г.—З. З. Саюзу ССР 1927 г. № 7, арт. 77) дык ён, па сэнсу арт. 139 ГК, ад натарыяльнага пасьведчаньня невызваляе. Гэта тлумачыцца тым, што ў адрозьніваньне ад таварных біржаў, органы НКТ рэгіструюць выключна ў мэтах вучоту ўчыняемых угод, але ня могуць сачыць затым, каб угоды ўпаўне адпавядалі патрабаваньням закону.

# У НАРОДНЫМ КАМІСАРЫЯЦЕ ЮСТЫЦЫІ.

## Неадкладныя зьмены паасобных артыкулаў ГПК БССР

У заканадаўчых органах Саюзу ССР ня так даўно было пастаўлена пытаньне аб выпрацоўцы „Асноў Грамадзянскага Судавядзеньня“.

„Асновы“ павінны даць прынцыпы пабудаваньня нашага грамадзянскага працэсу. Пры выпрацоўцы асноў, бясспрэчна, будуць прыняты пад увагу ўсе тыя асноўных дэфэкты дзейнічаючага працэсу, якія ўстаноўлены судовай практыкай.

Пасьля прыняцьця „асноў“ заканадаўчымі органамі Саюзу СССР і на прынцыпах, якія будуць выпрацаваны гэтымі асновамі, пачнецца перагляд грамадзянскіх працэсуальных кодэксаў паасобных саюзных рэспублік. Такога грунтоўнага перагляду чакае, канечна, і ГПК БССР.

Аднак, зараз, за адсутнасьцю „асноў“ гэта работа павінна быць адкладзена. Але жыцьцё не чакае і настойліва патрабуе хоць бы частковых зьмен у ГПК.

Праэкты такіх прыватных зьмен у сучасны момант і распрацоўваюцца Народным Камісарыятам юстыцыі.

I.

Істотныя зьмены ўносяцца ў арт. 297, 298 299, якія выкладаюць правілы аб пераглядзе судовых рашэньняў у парадку нагляду.

Перш за ўсё, права ўзбуджаць справавядзеньне аб адмене рашэньняў па грамадзянскіх справах у парадку нагляду прадастаўляецца, згодна праэкту, ня толькі пракуратуры, як гэта было і да гэтага часу, але і старшыням Найвышэйшага і акруговых судоў. Трудна ўявіць якія-небудзь моцныя супярэчаньні супроць падобнага пашырэньня кругу асоб, якім дадзена права ўзбуджэньня справавядзеньня ў парадку нагляду.

У гэтым сэнсе зьмена арт. 297 ГПК; сільна зьмяняецца па праэкту таксама самы парадак перагляду спраў,

Выкладаючы гэты парадак арт. 298 ГПК ў дзейнічаючай рэдакцыі (З. З. БССР 1926 г. № 40 арт. 145) вельмі прост па сваім канструктаваньні. Паводле арт. 298 перагляд рашэньняў у парадку нагляду асяродкаван у Грамадзянскай Касацыйнай Калегіі Найвышэйшага суду, пры чым у выпадку нязгоды пракурора рэспублікі або яго памочніка пры Найвышэйшым судзе з рашэньнем Грамадзянскай Касацыйнай Калегіі Найвышэйшага суду справа пераносіцца ў пленум Найвышэйшага суду Такі парадак мае, бясспрэчна, усе перавагі прастаты і забясьпечвае адзінства практыкі ў такой сур'ёзнай справе, як перагляд рашэньняў у парадку нагляду. Але вопыт паказаў, што існуюкчы парада

пры вялікай колькасьці спраў, якія падлягаюць перагляду вядзе да перагрузкі Найвышэйшага суду працай, а ў выніку можа праявіцца некаторая павольнасьць у вырашэньні такіх спраў. Усё гэта і дало падставу Калегіі НКЮ прыйсьці да перакананьня ў неабходнасьці зьмены паказанага парадку.

Праэктуемы парадак зводзіцца да наступнага:

Пры выяўленьні ў рашэньні асабліва істотнага парушэньня дзейнічаючых законаў і яўнага парушэньня інтарэсаў дзяржавы або працоўных, справа падлягае перагляду ў парадку нагляду па патрабаваньню пракурора рэспублікі або яго памочніка пры Найвышэйшым судзе, старшыні Найвышэйшага суду альбо старшыні акруговага суду ці акруговага пракурора адпаведнай акругі.

Калі справа, вырашана народным судом, то яна ўносіцца на разгляд пленуму акруговага суду, пры чым пракурору рэспублікі і яго памочніку пры Найвышэйшым судзе прыналежыць права, у выпадку нязгоды з пастановай пленуму акруговага суду, уносіць справу ў Грамадзянскую Касацыйную Калегію Найвышэйшага суду.

Калі-ж справа вырашана грамадзянскім аддзяленьнем акруговага суду ў якасьці першай інстанцыі, то справа для перагляду ў парадку нагляду ўносіцца ў грамадзянскую Касацыйную Калегію Найвышэйшага суду.

Патрэбна адзначаць, усякае рашэньне судовай або пастановы Грамадзянскай Касацыйнай Калегіі можа быць апратэставана ў парадку нагляду прукурорам рэспублікі або яго памочнікам пры Найвышэйшым судзе, альбо старшынёю Найвышэйшага суду, і тады ўносіцца на разгляд пленуму Найвышэйшага суду.

Нарэшце, у новым праэкце адхілен цяпер існуючы гадовы тэрмін узбуджэньня справаводзтва ў парадку нагляду.

Тэрмін гэты захован толькі для старшыні акруговага суду і акруговага пракурора. Па зыходу 1 году з дня ўступленьня рашэньня ў законную сілу гэтыя службовыя асобы могуць прасіць аб пераглядзе справы ў парадку нагляду толькі праз вышэйстаячыя органы.

II.

Другі праэкт, распрацованы кансультацыяй пры НКЮ і прыняты Калегіяй НКЮ—гэта праэкт пастановы аб зьмене арт. арт. 243, 244 ГПК БССР (арт. арт. 210, 211 старой рэдакцыі).

За апошні час выдана некалькі агульна саюзных і беларускіх законаў, каторыя надаюць некалькім арганізацыям, непрадугледжаным у арт. 243 ГПК права спаганяць даўгі ў парадку судовага загаду. Гэтыя пастановы выклікаюць неабходнасьць адпаведнага пашырэньня ліку выпадкаў дапушчэньня судовых загадаў.

Пры пераглядзе 243 арт. НКЮ знайшоу неабходным унесьці ў 243 арт. аказаньне ўсіх выпадкаў, у якіх на гэты час дазваляецца заяўляць іскі ў парадку судовага загаду. Акрамя таго арт. 243 дапоўнен пастановай аб тым, што судовыя загады дапушчаюцца і ў іншых выпадках, калі гэта прадугледжана спэцыяльным законам.

Адначасна зьмяняецца і рэдакцыя першай (п. а) часткі арт. 243. Тут дабаўлена, што проці дзяржаўных установ або прадпрыемстваў судовыя загады не дазваляюцца, але за выключэньнем іскаў такіх арганізацый, каторым гэтае права надана спэцыяльным законам.

Падобная-ж абумоўка зроблена таксама ва ўводзе да арт. 82 і ў 189 арт. ГПК, бо ў спэцыяльных законах маюцца адпаведныя паказаньні.

III.

Трэці праэкт—гэта аб дапаўненьні арт. 28 увагай аб падсуднасьці спраў паісках якія выцякаюць з дагавораў куплі-продажу з растэрміноўкай выплаты і якія падаюцца прадаўцамі. Усе гэтыя іскі падсудны выключна па месцы пражываньня пакупніка ў момант паданьня іску.

Паказаны праэкт знаходзіцца ў зьвязку з кадыфікацыяй Грамадзянскага Кодэксу, у каторы ўнесена за выключэньнем арт. 7 пастанова СНК БССР ад 26 лістапада 1923 г. аб куплі-продажу ў раздроб з растэрміноўкай выплаты (Зб. Зак. БССР 1924 г. № 3, арт. 29). Артыкул-жа 7-ы, як маючы працэсуальны характар, цяпер і складае зьмест праэктуемай увагі да арт. 28 ГПК.

Усе тры выкладзеныя праэкты прадстаўляюцца ў камісію заканадаўчых праэктаў пры СНК БССР і пажадана толькі, каб яны хутчэй сталі законамі.

## Габінэт па вывучэньню злачынства і злачынца.

18 мая г. г. ў габінэце па вывучэньні злачыннасьці і асабістасьці злачынца пры БДУ адбылося навуковае пасяджэньне, на якім былі заслуханы даклады Слупскага на тэму „Забойства ў БССР", праф. Шыраева „Сацыалёгічнае вывучэньне злачыннасьці", праф. Ленца „Сацыапатыя і хуліганства", Лобача „аб хуліганскіх рэакцыях".

Тав. Слупскі ў сваім дакладзе аснованым на вывучэньні матар'ялаў. аб дынаміцы і складзе забойстваў у БССР за стау-

годні пэрыяд ( 1827—1927 г.) адзначыў характэрныя асаблівасьці забойстваў у прыгонны пэрыяд, далей у рэвалюцыйны і пасьляваенныя гады. Як пасьлярэвалюцыі 1905 г., так і пасьля імпэрыялістычнай вайны забойствы павялічваліся. З 1924 г. наглядаецца тэндэнцыя паніжэньня забойства. Найбольшай меры разьвіцьця забойствы дасягаюць у сельскай мясцовасьці і пераважна ўчыняюцца сялянамі на глебе сямейных спрэчак, зямельных падзелаў і ў апошні час вылучаецца група аліментных забойстваў".

Мужчыны большаю часткаю ўчыняюць забойства з мэтай нажывы, ці з-за помсты, а жанчыны галоўным чынам забойства дзяцей або сваяцкае або супругзабойствы. Па ўзросту найбольшая інтэнсыўнасьць забойстваў наглядаецца ў 20—25 год; у гарадок забойцы больш маладыя, а ў сельскіх мясцовасьцях адзначаецца вядомая колькасьць забойцаў у ўзросьце вышэй 60 год.

У забойствах пераважна ўдзельнічаюць нежанатыя і дзяўчаты. З акруг БССР вылучаюцца па інтэнсыўнасьці забойстваў Бабруйская, Віцебская і Аршанская. У параўнаньні з іншымі рэспублікамі СССР у БССР забойствы больш інтэнсыуней. У заходняй Эўропе разьвіцьцё забойстваў дасягнула найбольшай вышыні ў пасьляваенныя гады. У агуле забойствы ў БССР не прадстаўляюць грознага зьявішча і с кожным годам іх становіцца менш і менш.

Прафэсар Шыраеў зазначыў, што на сцэну ўзамен юрыдычна дагматычнага мэтаду выступае мэтад сацыялёгічнага вывучэньня злачыннасьці, які імкнецца даць прычыннае аб'ясьненьне злачыннасьці, як зьявішча масавага. Толькі гэты мэтад, які шырока карыстаецца статыстыкай можа выявіць асноўныя тэндэнцыі разьвіцьця злачыннасьці.

Прафэсар Ленц выясьніў, што сацыапаты прадстаўляюць сабою асоб з невыстарчальнай сацыяльнай прыстасаванасьцю. Яны ня душэўна хворыя, а толькі ў не выстарчальнай меры прыстасаўванны к сацыяльнаму асяродзьдзю. Лячэньне іх у выпадку канфлікту з акаляючым жыцьцём павінна вытварацца не ў псыхіатрычных установах, а ў мясцох пазбаўленьня волі. З сацыапатаў у большасьці выпадкаў камплектуюцца як-бы хуліганы Доктар Лобач падкрэсьлівае асаблівасьць хуліганскіх учынкаў: 1) у асобнай агрэсыўнасьці, 2) наносячая хуліганам траўма заўсёды носіць умоўны характар, 3) у хуліганскіх учынках можна ўлавіць рысы дзецкага павядзеньня.

# Частка афіцыйная.

## Цыркулярны ліст Народнага Камісарыяту Юстыцыі БССР

### АБ ВЫКЛІКАНЬНІ СУДАМІ З СПРАЎДАМОЎ ЗЬНЯВОЛЕНЫХ ШЛЯХАМ ПАСЫЛКІ АФІЦЫЙНЫХ ТРЭБАВАНЬНЯЎ.

*Усім акруговым і народным судом.*

У Народным Камісарыяце Юстыцыі маюцца зьвесткі, што некаторыя народныя судзьдзі вельмі часта выклікаюць з спраўдамоў тэрмінова-зьняволеных, якія абвінавачваюцца яшчэ зя якія-небудзь злачынствы, шляхам прысылкі ім позваў, а не належных трэбаваньняў на імя начальнікаў спраўдамоў, на падставе якіх адміністрацыя спраўдамоў павінна камандыраваць зьняволеных у суды да дня слуханьня іх спраў. З гэтай прычыны паміж спраўдамамі і судамі ўзьнікаюць спрэчкі.

У мэтах адхіленьня вышэйпаказанага зьявішча, Народны Камісарыят Юстыцыі прапануе ўсім акруговым і народным судом у далейшым выклікаць зьняволеных праз адміністрацыю спраўдамоў толькі шляхам пасылкі належных трэбаваньняў, а ня позваў.

Час. вык. аб. Народнага Камісара Юстыцыі
і Пракурора Рэспублікі **С. Гохман.**

Член Калегіі НКЮ **С. Эднэрал.**

20 чэрвеня 1927 г.
№ 9.

---

## Абежнік Народнага Камісарыяту Юстыцыі БССР

### АБ БАРАЦЬБЕ З ВАЛАКІТАЙ.

*Усім органам Юстыцыі.*

У гэты час праводзіцца важная і цяжкая праца па рацыяналізацыі дзяржаўнага апарату. Бюракратызму і валакіце абвешчана вайна.

Органы Юстыцыі павінны заняць у барацьбе з валакітай самую рашучую пазыцыю.

Народны Камісарыят Юстыцыі прапануе дзеля гэтага ўсім без выключэньня працаўнікам судовага, сьледчага і пракурорскага апарату прыняць безадкладна ўсе залежныя ад іх меры да прысьпяшэньня справавядзеньня ў органах Юстыцыі, да зьнішчэньня нядбайнасьці ў працы і максімальнаму запаўненьню працай устаноўленага законам працоўнага часу.

Тэрміны ўстаноўленыя працэсуальнамі кодэксамі, паасобнымі дырэктывамі Народнага Камісарыяту Юстыцыі і іншымі ўправамочанымі на гэта органамі павінны захоўвацца без якіх бы та ня было адхіленьняў. Пры неабходнасьці адхіленьня ад устаноўленага законам або дырэктывамі тэрміну павінен быць атрыманы адпаведны дазвол вышэйстаячых органаў.

Неабаснованыя пропускі тэрмінаў і наогул усякага праяўленьня валакіты, нядбайнасьці або нясумленнасьці ў працы з боку паасобных супрацоўнікаў

выклікаюць безадкладна пасьля выяўленьня рашучы ўплыў з боку Пракуратуры Рэспублікі. Акруговым пракурорам і ў належных выпадках старшыням акруговых судоў прапануецца вырашаць важнейшыя выпадкі валакіты ў органах Юстыцыі, праяўляючы пры гэтым максымум дапушчаемай законам строгасьці і выходзячы з правіла, што за дакладнасьць выкананьня адказны перад акруговым пракурорам і старшынёю акруговага суду тыя асобы, каторым беспасрэдна даручана выкананьне па справе. Аб найбольш важных выпадках валакіты і аб прадпрынятых мерах прапануецца ім безадкладна паведамляць у НКЮ.

Асобна ўважлівыя адносіны і хуткасьць выкананьня павінна быць праяўлена па даручэньнях ўрадавых і дырэктыўных органаў.

Адначасна з зьнішчэньнем выпадкаў валакіты ў апараце НКЮ, прапануецца ўсім органам Юстыцыі ўзмацніць кантроль за выкананьнем іх даручэньняў іншымі савецкімі органамі ў межах і на аснове існуючых законаў.

Час. вык. абав. Народнага Камісара Юстыцыі
і Пракурора Рэспублікі **С. Гохман.**

22 чэрвеня 1927 г.
№ 51.

## Абежнік Народнага Камісарыяту Юстыцыі БССР

### АБ СКАСАВАНЬНІ НАТАРЫЯЛЬНАГА ПАД'АДДЗЕЛУ СУДАБУДАЎНІЦТВА І НАГЛЯДУ НКЮ.

*Усім акруговым судом, дзяржаўным натарыяльным канторам і народным судзьдзям, выконваючым натарыяльныя дзеяньні.*

У сувязі з рацыяналізацыяй апарату Народнага Камісарыяту Юстыцыі пераходу яго на функцыянальную сыстэму, Аддзел Судабудаўніцтва і Нагляду Натарыяльны Пад'аддзел скасаваны.

У інтарэсах аднастайнай і правільнай пастаноўкі натарыяльнай справы на мясцох і ў адмену цыркулярных распараджэньняў НКЮ за 30 студзеня 1926 году за № 14, 27 студзеня і 8 лютага 1927 году за №№ 12 і 17-н, уводзіцца наступнае правіла кіраваньня і нагляду за дзейнасьцю натарыяльных установаў.

Народны Камісарыят Юстыцыі ажыцьцяўляе агульнае кіраваньне і нагляд за дзейнасьцю ўсяго натарыяту БССР.

### 1. НА СУДОВУЮ ІНСПЭКЦЫЮ НКЮ ЎСКЛАДАЕЦЦА:

а) распрацоўка праэктаў палажэньняў і такс па натарыяту, унасімых Народным Камісарыятам Юстыцыі ў заканадаўчыя ўстановы;
б) выпрацоўка інструкцый і цыркулярных растлумачэньняў па натарыяту;
в) рэвізія і інструктаваньне ўсіх натарыяльных органаў БССР;
г) праверка пастаноў пленумаў акруговых судоў па пытаньнях натарыяту і актаў рэвізіі натарыяльных кантор, якія вытвараны акруговымі судамі;
д) прапрацоўка квартальных справаздач аб дзейнасьці натарыяльных кантор;
е) укладаньне штатаў па натарыяту;
ж) візіраваньне даверанасьцяй, усякага роду ўгод, заяў і іншых дакумэнтаў, якія накіроўваюцца замяжу.

### 2. ДА ПРАДМЕТАЎ ВЯДЗЕНЬНЯ БУХГАЛЬТЭРЫІ НКЮ ПА НАТАРЫЯТУ АДНОСЯЦЦА:

а) укладаньне праэктаў каштарысаў, разьмеркаваньне і раз'асыгнаваньне крэдытаў згодна зацьверджанага каштарысу і кіраваньне дзейнасьцю органаў натарыяту ў фінансавай галіне;
б) укладаньне фінансавых справаздач па натарыяту.

### 3. НА АКРУГОВЫЯ СУДЫ ЎСКЛАДАЕЦЦА:

а) кіраваньне натарыятам і нагляд за дзейнасьцю гэтакага ў акрузе.

Кожны акруговы суд у сваёй акрузе, кіруе дзейнасьцю натарыяльных кантор і народных судзьдзяў, якія выконваюць натарыяльныя дзеяньні шляхам рэвізіі і інструктаваньня іх і пастаноўкі дакладаў натарыусаў на пленумах акруговага суду аб дзейнасьці кантор.

Пры гэтым акруговы суд нясе адказнасьць за правільную пастаноўку натарыяльнай справы і за дакладнае выкананьне існуючых законаў і распараджэньняў.

Вынікі рэвізіі павінны быць абмяркованы на пленумах акруговага суду і мець сваім вынікам вычэрпываючыя матывіраваныя пастановы пленуму, якія даюць правільную лінію, накіраваньня далейшай дзейнасьці абрэвізаванай канторы або народнага суду, выконваючага натарыяльныя дзеяньні.

б) даваньня пісьмовых растлумачэньняў па запытаньнях натарыусаў і народных судзьдзяў, а таксама і па паступаючых у акруговы суд матар'ялах, з мэтаю зьнішчэньня заўважаных недалікаў працы па натарыяту і ў растлумачэньне пытаньняў натарыяльнай практыкі;

в) укладаньне і пасылка тавары́скіх лістоў на аснове квартальных справаздач кантор і нарсудзьдзяў і актаў рэвізіі.

4. Акруговыя суды свае функцыі па кіраваньню і нагляду за дзейнасьцю натарыяльных кантор і выконваючых натарыяльныя дзеяньні народных судзьдзяў выконваюць праз старшыню акруговага суду або намесьніка старшыні акругоаага суду па грамадзянскаму аддзелу.

5. Натарыяльныя канторы і народныя судзьдзі, пры перашкодах або няясасьці пытаньняў натарыяльнай практыкі, павінны мець непасрэдную сувязь толькі з належнымі акруговымі судамі.

6. Выкладзеныя акруговымі судамі па натарыяту абежнікі і растлумачэньні, павінны прадстаўляцца імі ў копіях у судовую інспэкцыю НКЮ ў сямі-дзённы тэрмін з дня зацьверджаньня іх пленумам акрсуду.

7. Па пытаньнях фінансавай практыкі, натарыяльныя канторы і народныя судзьдзі зварочваюцца ў Народны Камісарыят Юстыцыі.

Справаздачу як грашовую, так і аб дзейнасьці пачынаючы з 1-га ліпеня 1927 году, не пазьней 10 чысла месяца, наступнага за справаздачным пэрыядам, належыць прадстаўляць у ніжэйпаказаным парадку.

## 8. У НАРОДНЫ КАМІСАРЫЯТ ЮСТЫЦЫІ:

### Штомесячна.

Натарыяльныя канторы прадстаўляюць: а) справаздачную ведамасьць аб зваротах па форме № 9; б) параўнальную спраздачную ведамасьць па руху і выдатку крэдытаў і в) справаздачную ведамасьць, як касы спэцыяльнага зборшчыка па форме № 7-а.

### Па чвэрцях году.

Натарыяльныя канторы прадстаўляюць справаздачу аб дзейнасьці канторы.

Народныя судзьдзі, якія выконваюць натарыяльныя дзеяньні, прадстаўляюць справаздачна-параўнальную ведамасьць аб зваротах.

## 9. У АКРУГОВЫЯ СУДЫ:

### Штомесячна.

Натарыяльныя канторы прадстаўляюць справаздачную ведамасьць, як касы спэцыяльнага зборшчыка па форме № 7-а.

### Па чвэрцях году.

Народныя судзьдзі, якія выконваюць натарыяльныя дзеяньні, прадстаўляюць справаздачную ведамасьць аб зваротах прыходу і выдатку.

### Па паўгодзьдзях.

Натарыяльныя канторы прадстаўляюць справаздачу аб дзейнасьці дзяржаўных натарыяльных кантор.

10. Апраўдальныя дакумэнты па ранейшаму павінны хавацца пры справах канцэлярыі канторы або суду ў сыстэматызаваным парадку з тым, каб па першаму патрабаваньню фінансавага кантролю дакумэнты гэтыя маглі быць прадстаўлены пры фактычных рэвізіях на месцы або пасылаемы ў кантроль па яго патрабаваньню.

11. Усе натарыяльныя зборы, згодна правіл інструкцыі аб здачы збораў, павінны здавацца на бягучы рахунак НКЮ № 63.

12. Загадваньне, знаходзячагася пры НКЮ, цэнтральным натарыяльным архівам і выдаваньне з спраў і кніг яго—справак, копій і выпісаў, ускладаецца на Менскую Дзяржаўнаю Натарыяльную Кантору.

Усе закончаныя кнігі і справы, у ўстаноўленыя законам тэрміны, трэба здаваць на імя Менскай Дзяржаўнай Натарыяльнай канторы для хаваньня ў цэнтральным натарыяльным архіве пры НКЮ.

Гэты абежнік уваходзіць у дзеяньне з 1-га ліпеня 1927 г.

Час. вык. пасаду Народнага Камісара Юстыцыі **С. Гохман.**

Член Калегіі НКЮ **С. Эднэрал.**

30 чэрвеня 1927 г.
№ 54.

---

## Абежнік Народнага Камісарыяту Юстыцыі

АБ СКАРАЧЭНЬНІ СТАТЫСТЫЧНЫХ ЗЬВЕСТАК АБ РУХУ КРЫМІНАЛЬНЫХ СПРАЎ АСУДЖАНЫХ.

*Усім акруговым і народным судом.*

У зьвязку з разьмежаваньнем паміж НКЮ і ЦСУ работы па распрацоўцы судовай статыстыкі і ў зьмяненьне формы № 1 статыстычнай ведамасьці аб руху крымінальных спраў і асуджаных (п. 4 дадатку да абежніку НКЮ № 16—1926 г.), Народны Камісарыят Юстыцыі прапануе:

1. Пачынаючы з 1 ліпеня г. г. апусьціць у форме № 1 статыстычных зьвестак „ведамасьці аб руху крымінальных спраў і асуджаных“ графы №№ 25—59 уключна, пакінуўшы ў памянёнай ведамасьці толькі графы 1—24 ўключна, 60, 61, 62 і 63, дзякуючы чаму агульная лічба граф вышэйпаказанай ведамасьці скароціцца з 63-х да 28-мі.

2. Зборныя статыстычныя зьвесткі па форме № 1 дадаюцца акрсудамі ў НКЮ і ў акруговыя статыстычныя бюро 2 разы ў год: 20 ліпеня за час з 1 студзеня па 30 чэрвеня і 20 студзеня за час з 1 ліпеня па 31 сьнежня.

УВАГА. Акрсуды павінны даць адпаведныя паказаньні нарсудом аб тэрмінах даданьня імі ў акрсуды статыстычных зьвестак у мэтах своечаснай адсылкі акрсудамі ў НКЮ устаноўленых статыстычных зьвестак.

3. З прычыны адмены ў статыстычнай ведамасьці формы № 1 зьвестак, паказаных у графах 25—59, акруговым судом належыць зьвярнуць асаблівую ўвагу на тое, каб, згодна раней выданых распараджэньняў, нарсуды і акрсуды своечасна і акуратна адсылалі-б мясцовым аддзелам статыстычнага кіраўніцтва дакладна запоўненыя статыстычныя лісткі па крымінальных справах, па якіх прыгавары ўступілі ў законную сілу.

Нам. Народнага Камісара Юстыцыі *С. Эднэрал.*

Ст. Інспэктар НКЮ *М. Улаўдаўскі.*

7 ліпеня 1927 г.
№ 58.

---

## Абежнік Народнага Камісарыяту Юстыцыі БССР

АБ ПАРАДКУ ВЫНЯЦЬЦЯ АРХІЎНЫХ МАТАР'ЯЛАЎ З ДЗЯРЖАЎНЫХ СХОВЕН АКТАВЫХ ДАКУМЭНТАЎ.

*Усім акруговым судом і акруговым пракурорам.*

Згодна ўзаканеньняў (арт. арт. 176 і 254 КПК і п. „б“ арт. 75 Палажэньня аб Судабудаўніцтве), прадстаўніком судовай і сьледчай улады і пракурорскага нагляду належыць права вытвараць у патрэбных выпадках выемкі спраў і дакумэнтаў з дзелаводзтва ўстаноў і трэбаваць ад апошніх прадстаўленьня першатворных матар'ялаў. Гэты парадак фактычна дзейнічае і ў стасунку гаспадарчых матар'ялаў, якія ўваходзяць у склад адзінага дзяржаўнага архіўнага фонду і якія знаходзяцца ў актасховнях Рэспублікі. З прычыны гэткай практыкі, той альбо іншы гістарычны помнік (памятнік), захоўваемы ў дзяржаўнай актасховні з піль-

наваньнем спэцыяльных правіл, якія выпрацаваны практычнай архіўнай справай, можа быць у кожны час вынят і перанесен у абставіну, часам вельмі небясьпечную ахове гэткага помніку. Ня меншую пагрозу аховы помніку прадстаўляе дабываньне паасобных дакумэнтаў і перапісак з брашураваных і пранумараваных архіўных спраў і кніг; у тым выпадку страта наносіцца і справе і кнізе ў цэлым вынятаму з іх матар'ялу.

З прычыны вышэйпамянёнага, Народны Камісарыят Юстыцыі прапануе: а) дапушчаць вынятак архіўных матар'ялаў з дзяржаўных актасховен толькі ў самых надзвычайных выпадках, калі сапраўды не прадстаўляецца магчымым адмежвацца аглядам спраў, альбо дакумэнтаў на месцы і зьняцьцем з іх копій, альбо вытварэньнем выпісак; б) у тых выпадках, калі няма магчымасьці абайсьціся без патрабаваньня паршатворных матар'ялаў, зварочвацца з гэткім с магчымай ашчаднасьцю, не дапушчаючы адзнакаў на аркушах алоўкам і атрамэнтам, падчыркваньня радкоў, загібаньня аркушаў, выняткаў паасобных дакумэнтаў, аддзяленьня ад перапіскі мэханічна далучаных да яе рэчавых доказаў і іншага парушэньня сыстэмы разьмяшчэньня матар'ялаў і г. д.; в) прыём матар'ялаў з актасховен вытвараць па актах згодна устаноўленых правілаў, з адзнакай у гэтых актах становішча прыймаемых матар'ялаў; г) зварачаць матар'ялы таксама па актах, з адзнакай у іх становішча здаваемых матар'ялаў; д) зварачаць матар'ялы зараз-жа па праходзе ў іх патрэбы ў тэрміновым парадку; е) аб усіх выпадках выняткаў з актасховен першатворных матар'ялаў паведамляць НКЮ з паказаньнем прычын, якія заставілі прыняць вышэйпаказаную меру.

Народны Камісар Юстыцыі і Пракурор Рэспублікі *М. Сэгаль.*

Член Калегіі НКЮ *С. Эднэрал.*

7 ліпеня 1927 г.
№ 59.

---

Адказны Рэдактар: **РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ.**

*Дадатак да часопісі.*

# ІНСТРУКЦЫЯ

**Народнага Камісарыяту Юстыцыі БССР па натарыяту, выданая ў разьвіцьцё палажэньня аб дзяржаўным натарыяце БССР за 31 сьнежня 1926 году (Збор Законаў БССР № 5—1927 г., арт. 17).**

## I. Арганізацыя натарыяльных кантор.

§ 1. Для ўчыненьня натарыяльных дзеяньняў, прадугледжаных Палажэньнем аб Дзяржаўным Натарыяце, закладаюцца дзяржаўныя натарыяльныя канторы. Пытаньне аб адчыненьні натарыяльных кантор узбуджаецца Старшынёю Акруговага Суду як па ўласнай ініцыятыве, так і па ініцыятыве зацікаўленых дзяржаўных і грамадзкіх органаў і ўносіцца на разгляд пленуму акруговага суду. Адпаведная пастанова пленуму акруговага суду падаецца на разгляд Акруговага Выканаўчага Камітэту. Пастанова па гэтаму поваду Акрвыканкому ўзгадняецца з Народным Камісарыятам Юстыцыі.

*Увага.* Пытаньне аб зачыненьні натарыяльных кантор з прычыны яўнай іх убытачнасьці можа быць узбуджаема толькі ў тым выпадку, калі зачыненьне ня зьвязана з ушчэрбам для насяленьня (блізкасьць другой канторы, удобствы шляхоў зносін і г. д.).

§ 2. Натарыяльным канторам прысвойваецца пячатка па зацьверджанаму НКЮ ўзору, які складаецца з гэрбу БССР з надпісам акруг: „дзяржаўная натарыяльная кантора“ (найменьне), абазначэньня гораду або пасяленьня, у якім яна знаходзіцца.

§ 3. Водціск пячаткі захоўваецца ў натарыяльным п/аддзеле НКЮ і Акрсудзе. Туды-ж усякі ўноў назначаны натарыус і асобы, якія прызначаюцца для часовага выкананьня службы натарыусу, паведамляюць узор свайго подпісу.

§ 4. Натарыяльным канторам прысвойваецца найменьне па месцу іх знахаджэньня.

У гарадох, дзе закладзена больш адной натарыяльнай канторы, кожная з іх павінна мець парадкавы нумар.

§ 5. Па распараджэньню старшыні адпаведнага Акрсуду натарыус можа выяжджаць для ўчыненьня натарыяльных дзеяньняў у пасяленьні раёну, грамадзяне якіх у асобных выпадках, азначаемых мясцовымі ўмовамі маюць патрэбу ў натарыяльным афармленьні заключаемых імі ўгод. Аб часе выезду натарыусу і аб назначэньні намесьніка з прыкладам узору подпісу апошняга, Акруговы Суд паведамляе НКЮ. У такіх выпадках 100 проц. звыш сумы асноўнага

збору, згодна таксы аплаты за натарыяльныя дзеяньні, не спаганяецца.

*Увага.* У такім выпадку ў актах і засьведчаньнях даклад-на абазначаецца месца ўчыненьня (акруга, раён, горад або пасяленьне, вуліца, № дому і кватэры).

§ 6. У выпадку зачыненьня натарыяльнай канторы, пячатка прадстаўляецца для зьнішчэньня ў натарыяльны архіў пры НКЮ. Зьнішчаецца пячатка такім-жа парадкам у выпадку зьмены яе або старасьці).

§ 7. У гародах, дзе маецца некалькі натарыяльных кантор, пленуму акругавага суду даецца права разьмеркаваць функцыі паасобных натарыяльных кантор.

## II. Назначэньне і звальненьне службовых асоб натарыяту.

§ 8. На чале натарыяльных кантор стаяць натарыусы, назначаемыя і зьмяшчаемыя Акруговымі Выканаўчымі Камітэтамі па прадстаўленьню Акруговых Судоў з ліку асоб, якія маюць права быць абранымі ў народныя судзьдзі і вытрымаўшых адпаведныя апрабаваньні.

*Увага.* Натарыусы ня могуць быць заняты службай па асабістаму найму ў савецкіх, грамадзкіх і прыватных установах і прадпрыемствах або быць удзельнікамі ў гандлёва-прамысловых прадпрыемствах.

§ 9. Апытаньне на пасаду натарыусу робіцца ў апытальных камісіях пры акруговых судох, у якія ўваходзяць: загадчык натарыяльным п/аддзелам Аддзелу Судабудаўніцтва і Нагляду НКЮ, старшыня адпаведнага Акрсуду або па назначэньню яго член Акругавага Суду па грамадзянскаму аддзелу і натарыус, а пры адсутнасьці апошняга ў акрузе, натарыус другога акрсуду па назначэньню НКЮ. Старшынствуе ў камісіі старшыня або член акрсуду.

§ 10. У праграму апрабаваньняў для кандыдатаў у натарыусы ўваходзіць:

а) уменьне выкладаць угоды, дакумэнты і дзелавыя паперы;

б) веданьне дзелаводзтва натарыяльных кантор;

в) дзяржаўнае будаўніцтва СССР і БССР;

г) Палажэньне аб натарыяце, інструкцыя і дзеючыя абежнікі і распараджэньні па натарыяту;

д) Грамадзянскі Кодэкс;

е) Грамадзянска-Працэсуальны Кодэкс у межах, неабходных для натарыальнай практыкі;

ж) Палажэньне аб вэксалёх;

з) дзейнае законадаўства аб дзяржаўных і прыватных гандлёвых і прамысловых прадпрыемствах;

і) законапалажэньні і ўрадавыя распараджэньні аб пошлінах і падатках (Статут аб гэрбавым зборы, такса аплаты натарыяльных збораў, мясцовыя зборы і г. д.);

к) Зямельны Кодэкс, Кодэкс законаў аб шлюбе, сям'і і апецы, пакольні гэта неабходна для натарыяльнай практыкі;

л) Палажэньне аб падрадах і пастаўках і аб продажу дзяржаўнай маемасьці;

м) іншыя ўзаканеньні, з каторымі прыходзіцца сустракацца ў практыцы натарыяту.

§ 11. У выпадку адчыненьня вакансіі натарыусу, Акруговы Суд прадстаўляе ў адпаведны Выканаўчы Камітэт кандыдата з ліку асоб, вытрымаўшых апрабаваньне. Па назначэньні натарыусу, старшыня паведамляе аб гэтым у Наркамюст і пасылае копіі пастаноў:

а) Выканаўчаму Камітэту аб назначэньні і б) камісіі аб вытрыманьні апрабаваньня, узор звычайнага яго подпісу, анкету па ўстаноўленай форме і аўтабіяграфію.

§ 12. Усе дакумэнты падпісваюцца натарыусам. У выпадку хваробы натарыусу, водпуску, адсутнасьці або вакантнасьці яго пасады, часова выконвае яе другая, назначаная старшынёю адпаведнага Акрсуду, асоба, з паведамленьнем кожны раз аб гэтым у НКЮ.

§ 13. Узоры подпісаў асоб, часова выконваючых пасады натарыусу таксама паведамляюцца ў Наркамюст (форма № 1).

§ 14. Усіх служачых натарыяльнай канторы назначае натарыус, паведамляючы аб кожным выпадку натарыяльны п/аддзел і акрсуд, якім прыналежыць права зьмяшчэньня служачага, не адпавядаючага назначэньню.

## Нагляд за дзейнасьцю натарыяльных кантор.

§ 15. НКЮ па аддзелу судабудаўніцтва і нагляду праз натарыяльны п/аддзел, а акрсуд праз назначаную ім асобу робяць ня менш аднаго разу ў год абсьледваньне кожнай натарыяльнай канторы.

Адначасова з абсьледваньнем робіцца інструктаваньне шляхам указаньняў па пытаньнях, якія зьвязаны з дзейнасьцю натарыяльных кантор. Растлумачэньні па пытаньнях матар'яльнага права, вынікаючага з тлумачэньня законаў, не даюцца.

§ 16. Пры рэвізіі належыць зьвяртаць увагу, ці вядуцца ў натарыяльнай канторы ўсе кнігі, патрабуемыя палажэньнем аб дзяржаўным натарыяце, за захаваньнем устаноўленых форм і правіл, а таксама ці захоўваюцца формы натарыяльнага дзелаводзтва. Рэвізуючыя абавязаны правяраць зьмест актаў і дагавораў з пункту гледжаньня іх законнасьці і захаваньня ўсіх устаноўленых для іх законам форм, пры іх натарыяльным пасьведчаньні, а таксама ці меліся на ўвазе ўсе патрабуемыя законам для пасьведчаньня данага роду актаў спраўкі і дакумэнты.

§ 17. Пры праверцы агульнага рэестру зьвярнуць увагу на правільнасьць запісу ў рэестр істотных элемэнтаў дакумэнту і збораў па ім (у тым ліку і за тэхнічную працу).

§ 18. Неабходна правяраць: ці захоўваецца храналёгічны парадак запісаў, ці ў дзень пасьведчаньня актаў, засьведчаньняў або іншых натарыяльных дзеяньняў робяцца запісы ў кнігах і рэестрах.

§ 19. Пры пасьведчаньні актаў ад імя юрыдычных асоб, ці правяраецца натарыяльнымі канторамі правільнасьць існаваньня юрыдычнай асобы і сапраўднасьць паўнамоцтваў яго прадстаўніка.

§ 20. Пры паверцы дзеяньняў па пратэсту вэксалёў назіраць, ці выконваецца патрабаваньне палажэньня аб вэксалёх з захаваньнем тэрмінаў для пратэсту (арт. 12 Палажэньня ад вэксалёх).

§ 21. Асобную ўвагу належыць зьвяртаць на правільнасьць вылічэньня і спагнаньня натарыяльнымі канторамі збораў (гэрбавага, натарыяльнага, мясцовага).

§ 22. Ці правільна вядуцца ў канторы: а) грашовая кніга, б) кніга для вучоту сум, якія ўносяцца ва ўплату па прад'яўленых да пратэсту вэксалёў, в) квітковая кніга, г) кніга аб продажу гэрбавых знакаў і атрыманых за іх сум.

§ 23. Трэба праверыць парадак вядзеньня грашовай справаздачнасьці, захаваньне ўстаноўленых тэрмінаў здачы грашовых сум, грашовую гатоўку, адпаведнасьць яе з запісамі ў кнігах і парадак хаваньня яе.

§ 24. Пры рэвізіі павінна пракантраляваць захаваньне натарыяльнымі канторамі патрабаваньняў арт. 6 Палажэньня аб натарыяце адносна тэрмінаў пасьведчаньня натарыяльных дзеяньняў, адпаведнасьці супрацоўнікаў займаемым пасадам, правільнасьць разьмеркаваньня работы між імі, отан абсталяваньня канторы, снабжэньня яе літаратурай і канцэлярскімі прыладамі і прыгоднасьць памяшканьня.

§ 25. Натарыяльныя канторы абавязаны падаваць у натарыяльны п/аддзел і Акрсуд справаздачы аб сваёй дзейнасьці па ўстаноўленых формах не пазьней 10-га чысла наступнага за справаздачным пэрыядам.

## IV. Кнігі натарыяльных кантор.

26. Для натарыяльных кантор абавязкова вядзеньне кніг, паказаных у арт. 12 Палажэньня аб натарыяце, а таксама кантрольных кніг для запісаў натарыяльна пасьвядчаемых угод, натарыяльныя зборы па якіх растэрмінованы і ўгод належачых дадатковай аплаце. Кантрольныя кнігі вядуцца па ўстаноўленых НКЮ формах і правілах, апублікаваных у Зборы Зак. БССР № 9—1925 г., арт. 86.

§ 27. Даты натарыяльных дзеяньняў і запісаў у рэестры павінны саўпадаць. У рэестр заносіцца другі паасобнік угоды і нумар па парадку рэестру падаецца адначасна з пасьведчаньнем угоды. Пры выдачы трэцяга экзэмпляру, гэтакі заносіцца ў рэестр пад паасобным артыкулам.

§ 28. Рэестр можа быць у двух часьцях. Кожная часьць мае асобную самастойную нумарацыю.

§ 29. Запіс натарыяльна пасьведчаных угод і даверанасьцяй робіцца ў рэестры ў самай кароткай форме: імя, імя па бацьку, прозьвішча і прафэсія або пасада ўдзельнічаючых асоб і род дакумэнту (напрыклад, арэндны дагавор, купля-продаж будоўлі, даверанасьць), а таксама сума ўгоды (сделки) спагнаныя зборы.

Пры запісу іншых засьведчальных дакумэнтаў (напрыклад: сапраўднасьці подпісу і інш.) у графе 3 рэестру прапісваецца самаасабістасьць і адрас старон, калі яны пасьвядчаліся пры ўчыненьні натарыяльнага дзеяньня, зьмест-жа дакумэнту заносіцца ў сьціслай форме, з тым, аднак, каб былі адзначаны самыя істотныя элемэнты дакумэнту, а таксама паказана якім гэрбавым зборам аплачан першатвор і на колькіх старонках дакумэнт, у тых выпадках, калі натарыяльныя зборы за засьведчаньне спаганяюцца пастаронна. Спагнаныя зборы адзначаюцца ў рэестры ва ўсіх выпадках.

§ 30. Актавы зборнік паказаных у пункце „з“ арт. 12 Палажэньня аб Дзяржаўным Натарыяце, утвараецца з асноўных „першых паасобнікаў“ натарыяльна пасьведчаных угод і даверанасьцяй, якія неадкладна прылучаюцца да раней пасьведчаных угод у храналёгічным парадку. Угоды (сделки) і даверанасьці павінны быць выкладзены на поўных лістох або паўлістох пішучай паперы звычайнага

фармату з застаўленьнем на абодвых бакох палёў шырынёю ў два сантымэтры, усе прабелы пракрэсьліваюцца. Угоды (сделки) і даверанасьці нумаруюцца па парадку, у верхняй часьці першай старонкі і ў надпісу праставляецца парадкавы нумар угоды (сделки) і пасьведчаньня і нумар па рэестру і прыкладваецца пячатка натарыяльнай канторы. Прылажэньні да ўгоды, складаючыя з ёю непадзельнае цэлае ў сілу закону (напрыклад, арт. 153 Грамадзянскага Кодэксу) або ўгоды, прылучаюцца ў актавы зборнік разам з угодай.

§ 31. Па меры накапленьня натарыяльна пасьведчаных угод і даверанасьцяй, складаючых актавы зборнік, прыкладна да 100 або 150 і, ва ўсякім разе, па сканчэньні году, яны прашнуроўваюцца і прапячатваюцца сургучовай пячаткаю натарыяльнай канторы. На апошняй старонцы робіцца заключны подпіс з паказаньнем колькасьці ўнесеных у год даверанасьцяй і нумары з такога-та па такі-та. Потым угоды і даверанасьці пераплятаюцца абавязкова ў памяшканьні натарыяльнай канторы. Закончаны актавы зборнік складае паасобную частку, на вокладцы кожнага зборніку робіцца надпіс: „Актавы зборнік ______ натарыяльнай канторы (частка першая, другая і г. д.) за 192 г.“ Для ўсіх часьцей такіх вядзецца адна агульная нумарацыя.

*Увага.* У залежнасьці ад колькасьці натарыяльна пасьведчаных угод і даверанасьцяй, у канторы, можа быць заведзен, па кожнаму роду ўгод (сделок), паасобны актавы зборнік (напрыклад: для актаў аб адчужэньні будовы, аб устанаўленьні права забудоўкі, для даверанасьцяй і г. д.); у кожным такім зборніку вядзецца самастойны парадкавы нумар.

§ 32. Альфабэтны паказьнік вядзецца па прозьвішчах усіх удзельнічаючых у натарыяльна пасьведчаных угодах, даверанасьцях і засьведчаньнях асоб, з паказаньнем нумару рэестру, пад якім зроблен запіс, а калі ўдзельнічае юрыдычная асоба, то і па форме або найменьню яе.

§ 33. Па зыходу году з часу аканчаньня актавых зборнікаў і кніг, натарыяльныя канторы здаюць іх у натарыяльны архіў; грашовая кніга здаецца ў асобным парадку.

Кантрольныя кнігі могуць вясьціся на працягу некалькіх год кожная, і здаюцца ў натарыяльны архіў толькі пасьля сканчэньня.

§ 34. Для агульнага дзелаводзтва, якое не адносіцца непасрэдна да ўчыненьня натарыяльных дзеяньняў, у канторах вядзецца камбінаваны ўваходны-выходны рэестр, разносная кніга, інвэнтарная кніга для маёмасьці канторы і каталёг бібліятэкі, неабходны для кіраўніцтва дапаможнікаў. Паказаны рэестр і разносная кніга таксама скрапляюцца і здаюцца ў натарыяльны архіў, як і кнігі, паказаныя ў арт. 12 Палажэньня аб натарыяце.

§ 35. Натарыяльныя канторы вядуць нарады: 1) абежнікі Народнага Камісарыяту Юстыцыі і Акруговага Суду і 2) папер да актавага зборніку, на падставе якіх натарыяльна пасьведчаны ўгоды (сделки) і даверанасьці; 3) па агульнай перапісцы; 4) з дакумэнтамі (копія або выпіска), на падставе якіх дапушчаны бясплатныя дзеяньні; 5) аб здачы кніг у архіў; 6) па арэндзе памяшканьняў; 7) па грашовай справаздачнасьці; 8) аб дзейнасьці канторы; 9) аб актах рэвізіі і аб здачы і прыёме; 10) пастаноў аб адмове ў выкананьні натарыяльных дзеяньняў; 11) перапіска аб вэксалёх; 12) па налажэньню

забараненьняў; 13) па зьняцьцю забараненьняў і іншыя па меры неабходнасьці.

*Увага.* У канторы павінна весьціся асабовая справа на кожнага супрацоўніка.

§ 36. У канторы могуць весьціся асабовыя справы юрыдычных асоб, для якіх натарыяльная кантора часта пасьвядчае ўгоды (сделки) і даверанасьці.

Такія справы павінны зьмяшчаць: статут належна пасьведчаны і зарэгістраваны, загады аб назначэньні асоб, якія маюць права па статуту заключаць угоды і даверанасьці або пастановы аб выбары іх.

*Увага.* Пры натарыяльным пасьведчаньні ўгод і даверанасьцяй у парадку ўвагі да арт. 17 Палажэньня аб дзяржаўным натарыяце ў асабовай справе павінны быць узоры подпісаў і пячаткі.

## V. Парадак выкананьня натарыяльных дзеяньняў.

§ 37. Усякага роду ўгоды (сделки) і даверанасьці, паданыя ў натарыяльную кантору падлягаюць абавязковаму натарыяльнаму пасьведчаньню. Засьведчаньне сапраўднасьці подпісаў на якіх-бы та ня было ўгодах забараняецца, за выключэньнем сапраўднасьці подпісу на простай угодзе (сделки) асобы, якая расьпісалася за няграматнага або нямогучага расьпісацца па прычыне фізычных недахопаў, або хваробы (арт. 28 Гр. Код. і ўвагі 1 да арт. 2 Палажэньня аб вэксалёх), калі пры гэтым не засьвядчаецца подпіс іншай граматнай стараны.

§ 38. Пры няграматнасьці каго-небудзь з удзельнічаючых у ўгодзе асоб за няграматнага ня могуць расьпісацца іншыя ўдзельнікі ўгоды.

§ 39. Натарыяльная кантора правярае самаасабістасьць асобы, якая расьпісалася ў парадку арт. 19 Палажэньня аб натарыяце, за ўдзельнічаючую ў угодзе асобу.

§ 40. Самаасабістасьць устанаўляецца пасьведчаньнем асобы, выданым міліцыяй і раённымі выканаўчымі камітэтамі і дакумэнтамі, паказанымі ў арт. I Пастановы СНК за 30 красавіка (Збор Зак. БССР № 5—1924 г., арт. 59), а іменна: а) членскім білетам Прафсаюзу і б) расчотнай кніжкай або другім пасьведчаньнем (з пячаткаю) выданым з месца працы або службы.

Апрача таго, пасьведчаньнем асобы можа служыць: пасьведчаньне выданае сельсаветам, членскі білет таварыства саматужнікаў і асабовая кніжка аб прахаджэньні ваеннай службы.

§ 41. Калі асобы, якія ўдзельнічалі ў угодзе або дакумэнце, натарыусу асабіста вядомы, натарыус пасьвядчае ў угодзе або засьведчаньні, не правяраючы іх самастойнасьці паказаным у арт. 16 Палажэньня аб Натарыяце парадкам.

§ 42. Пры натарыяльным пасьведчаньні ўгод з удзелам дзяржаўных устаноў, або дзяржаўных прадпрыемстваў у парадку ўвагі да арт. 17 Палажэньня аб Натарыяце ў тэксьце натарыяльна пасьведчанага надпісу і засьведчаньня паказваецца, што ўгода натарыяльна пасьведчана на падставе ўвагі да арт. 17 Палажэньня аб натарыяце.

§ 43. У выпадку скасаваньня натарыяльна пасьведчанай угоды або даверанасьці, натарыяльная кантора робіць па затрэбаваньню

старон на асноўным паасобніку папярок запісаў адзнаку аб скасаваньні ўгоды з абазначэньнем даты і падставы, якая падпісваецца старанамі. Пры прысылцы натарыяльна пасьведчанай заявы (па пошце) надпіс аб скасаваньні ўгоды падпісваецца натарыусам.

Угоды (сделки) аб пераходзе праў уласнасьці на немуніцыпалізаваныя і дэмуніцыпалізаваныя будовы могуць быць па згодзе старон зьнішчаны толькі да вытварэньня пасьледуючай рэгістрацыі іх у камунальным аддзеле.

§ 44. Натарыус можа атрымоўваць з урадавых, грамадзкіх устаноў, ад прыватных асоб і арганізацый спраўкі, неабходныя для натарыяльнага пасьведчаньня ўгод, шляхам непасрэдных зносін або шляхам выдачы ўдзельнічаючым у ўгодзе асобам пасьведчаньня на атрыманьне патрэбных справак.

§ 45. Дакумэнты, на падставе якіх натарыяльна пасьведчаны ўгоды падшываюцца ў нарад прадугледжаны пунктам „2“ § 35 інструкцыі. На кожным дакумэнце абазначаецца нумар, пад якім угода значыцца ў актавым зборніку і па рэестру.

§ 46. Аб натарыяльным пасьведчаньні перадавер'я робіцца адзнака на другім паасобніку даверанасьці, на падставе якой пасьведчана перадавер'е.

## VI. Натарыяльнае пасьведчаньне ўгод.

### а) Агульныя правілы.

§ 47. Падлягаючая натарыяльнаму пасьведчаньню ўгода прадстаўляецца старанамі ў натарыяльную кантору няменш чым у двух паасобніках. Усе прадстаўленыя паасобнікі падпісваюцца старанамі ў адпаведнасьці з артыкулам 17 Палажэньня аб Дзяржаўным Натарыяце і зьяўляюцца сапраўднымі. Праэкты і акты могуць быць ізгатоўлены ў натарыяльных канторах за плату па таксе для тэхнічнай працы. Ізгатаўленьне першага выпісу асобна не аплачваецца.

§ 49. Пры прадстаўленьні ўгод для натарыяльнага пасьведчаньня натарыус правярае наяўнасьць акалічнасьцяй, паказаных у арт. 5 Палажэньня ад Дзяржаўным Натарыяце, наяўнасьць і сапраўднасьць подпісаў асоб, удзельнічаючых у ўгодзе і патрабуе прадстаўленьня адпаведных дакумэнтаў.

§ 49. У натарыяльна пасьведчаных угодах павінна быць дакладнае абазначэньне старон: іменьні, імя па бацьку, прозьвішчы і адрасы фізычных асоб і поўнае найменьне (ня толькі скарочаная назва) юрыдычных асоб, з абазначэньнем, ці дзейнічае выступаючы ад імя юрыдычнай асобы прадстаўнік у якасьці службовай асобы (орган у сэнсе арт. 16 Г. К.) і якую пасаду ён займае, або ў якасьці ўпаўнаважанага па даверанасьці. Прадстаўнік юрыдычнай асобы павінен быць найменован яго імем, імем па бацьку і прозьвішчам.

Належыць патрабаваць дакладнага абазначэньня істотных пунктаў дагавору (арт. 130 Г. К.) і прадмету дагавору, цаны, тэрміну.

§ 50. Пры ўдзеле ў угодзе (сделке) юрыдычнай асобы натарыус патрабуе прадстаўленьня належна зацьверджанага або ў падлягаючых выпадках, зарэгістраванага статуту або палажэньня, а таксама прадстаўленьне дакумэнтаў, якія ўстанаўляюць права органаў гэтай юрыдычнай асобы на ўчыненьне паказаных у ўгодзе дзеяньняў. Удзельнічаючыя ў якасьці прадстаўнікоў юрыдычнай асобы ў угодзе службовыя асобы, апрача таго павінны прадставіць довады знаходжаньня іх на пасадах.

§ 51. Даверанасьць ад імя дзяржаўнай установы або дзяржаўнага прадпрыемства, выданая паводле арт. 267 Грам. Код. павінна мець подпіс адказнага кіраўніка і снабжана пячаткаю ўстановы або прадпрыемства. Такая даверанасьць натарыяльнага пасьведчаньня не патрабуе.

§ 52. Прыналежнасьць маемасьці, якая служыць прадметам угоды, правяраецца толькі ў выпадках, дзе такі абавязак ускладзены на натарыяльныя канторы законам або распараджэньнем Ураду (арт. 28 Палажэньня аб Дзяржаўным Натарыяце §§ 73—76, 78, 82, 84, 96, 99, 103, 104 і 125 інструкцыі.

§ 53. У самай угодзе павінна быць паказана, каму належыць выдаць другі паасобнік угоды і, калі абмоўлена выдача трэцяга паасобніку, то каму ён павінен быць выдан.

§ 54. Пасьведчаны подпіс павінен здавальняць патрабаваньням арт. арт. 15 і 27 Палажэньня аб Дзяржаўным Натарыяце і апрача таго, зьмяшчаць: а) абазначэньне роду ўгоды, дагавор угоды, даверанасьць, завяшчаньне, б) паказаньне на тое, што ўгода натарыяльна пасьведчана, в) што ўгода пасьведчана ў парадку ўвагі да арт. 17 Палажэньня аб Дзяржаўным Натарыяце і § 42 гэтай інструкцыі (калі гэтакая пасьведчана ў парадку гэтай увагі) і г) абазначэньне, каторы паасобнік угоды пасьвядчаецца, першы (асноўны), другі, трэці (прыкладныя формы № 2).

*Увага.* Пры наяўнасьці ў канторы асабовай справы, пасьведчальны надпіс на ўгодах і даверанасьцях робіцца па форме № 2.

§ 55. У пасьведчальным надпісу на выдаваемым удзельніку ўгоды другім паасобніку абазначаецца: „другі паасобнік“.

У надпісу на трэцім паасобніку таксама абазначаецца: трэці паасобнік“.

§ 56. Калі на адным баку ўдзельнічаюць некалькі асоб, у ўгодзе павінна быць паказана, каму з іх павінен быць выдан другі паасобнік. Астатнія ўдзельнікі ўгоды могуць атрымоўваць толькі копіі.

§ 57. Надпісы на дагаворах і іншых сапраўдных дакумэнтах натарыяльна пасьвядчаюцца тым-жа парадкам, як і ўгоды. У гэтых выпадках на першым (асноўным) паасобніку ўгоды, якія застаецца ў натарыяльнай канторы, робіцца надпіс: „Гэты подпіс учынен на ўгодзе, натарыяльна пасьведчанай у ..................................................
натарыяльнай канторы .................................. 192 г. № “.
Калі надпіс робіцца на простай угодзе, у надпісу паказваецца найменьне ўгоды. На дагаворы арэнды, заключаных у форме простай угоды .................................. (дата) 192 г. між ..................................
(такімі-та асобамі)“· Першыя паасобнікі ўгоды хаваюцца ў храналёгічным парадку на агульнай падставе.

§ 58. Пры натарыяльным пасьведчаньні ўгод ад імя прафэсіянальных аб‘яднаньняў, як міжсаюзных, так і па лініі вытворчай, прадстаўнікі гэтых устаноў павінны прадставіць копіі пратакольных пастаноў прэзыдыумаў праўленьняў, або іншых раўназначных выканаўчых органаў адпаведных прафэсіянальных арганізацый. У пратаколе дакладна і падрабязна павінна быць паказана, на ўчыненьне якіх дзеньняў і на які тэрмін упаўнаважваецца прадстаўнік.

Першапачатковыя органы прафэсіянальных саюзаў (арт. 156 Код. Зак. аб Працы), у выпадку ўдзелу іх у ўгодзе, павінны прад-

стаўляць копіі пратаколаў прафсаюзных арганізацый, у веданьні якіх яны знаходзяцца, або ўпаўнаважаньняў на ўчыненьне паказаных у ўгодзе дзеяньняў. Натарыяльна пасьведчаных даверанасьцяй натарыяльныя канторы ў такіх выпадках не патрабуюць.

§ 59. Пры прадстаўленьні ўгоды або дакумэнту, пісаных на яўрэйскай або польскай мове, пераклад на беларускую мову робіцца натарыусам, або супрацоўнікам канторы, а ў выпадку няведаньня імі данай мовы, пераклад робіцца за рахунак канторы асобай асабіста вядомай натарыусу. Подпіс перакладчыка засьвядчаецца Натарыусам.

§ 60. У выпадку прадстаўленьня ўгоды або дакумэнту на аднэй з чужаземных моваў павінны быць прыкладзены і пераклады іх. Пераклад можа быць напісан на тым-жа аркушу, на якім выкладзена ўгода. Перакладзен павінен быць увесь тэкст угоды, заканчваючы перакладам (транскрыпцыяй) подпісаў удзельнікаў угоды. Правільнасьць перакладу пасьвядчаецца натарыусам. Калі натарыус ня ведае данай чужаземнай мовы, то правільнасьць перакладу пасьвядчаецца асобай пэрсанальна вядомай натарыусу. Подпіс перакладчыка засьвядчаецца натарыусам.

§ 61. Натарыяльна пасьведчаны подпіс робіцца на беларускай або па жаданьню старон на аднэй з дзяржаўных моваў (яўрэйскай, польскай і рускай) БССР.

У пасьведчальным подпісу натарыус пасьвядчае і подпіс перакладчыка.

§ 62. Пры натарыяльна пасьвядчаемых угодах і даверанасьцях да кожнага паасобніку павінен быць прыкладзен пераклад.

§ 63. Пры натарыяльным пасьведчаньні ўгод ад імя і на імя чужаземных прадпрыемстваў натарыяльная кантора абавязана або патрабаваць ад іх пасьведчаньня рэгістраваньня ў парадку Дэкрэту „ВЦИК и СНК 12 апреля 1923 г. (С. У. 1923 г. № 31, ст. 345)“ і інструкцыі да яго за 26 мая 1923 г. (З. У. 1923 г. № 43, ст. 464) або пасьвядчаюцца ў існаваньні канцэсыённага дагавору або спэцыяльнага распараджэньня Ураду.

§ 64. У адносіне нямецкіх грамадзян (фізычных асоб) паказанае правіла (§ 63) не павінна ўжывацца. У адносінах-жа нямецкіх юрыдычных асоб, парадак, паказаны ў § 63, захоўвае сілу. Такі-ж парадак павінен дапасоўваецца да грамадзян іншых краін, які па міжнародных згодах, канвэнцыях і актах Ураду БССР з Урадамі гэтых краін будуць прадастаўлены правы ня меншага добрапрыемстваваньня, чым грамадзянам Нямеччыны.

§ 65. Натарыяльнае пасьведчаньне ўгод, якія тычацца маемасьці грамадзян польскай рэспублікі, якою яны ўладалі да 18 сакавіка 1921 г. і прадаўжаюць уладаць, вытвараецца толькі пры ўмове прадстаўленьня па ўгодзе пасьведчаньня Народнага Камісарыяту Юстыцыі БССР аб няіменьні з боку Ураду БССР супярэчаньняў да ўчыненьня ўгоды.

§ 66. Афіцыйныя акты і дакумэнты, якія выданы чужаземнымі ўрадамі, або грамадзкімі ўстановамі і прадназначаемыя для прадстаўленьня ў савецкія ўстановы, павінны быць снабжаны візай НКЗС або яго замежных органаў, пасьвядчаючых подпісы асобы, ад каторай даны дакумэнт выходзіць і адпаведнасьці дакумэнту законам данай краіны.

Пры прыняцьці да натарыяльнага пасьведчаньня актаў і дакумэнтаў, якія ня маюць паказанай візы, у пасьведчальным подпісу

павінна быць паказана, што гэтыя дакумэнты і акты, ў выпадку прадстаўленьня ў урадавыя ўстановы Саюзу ССР, павінны быць снабжаны візамі Н. К. З. С. і яго органаў.

§ 67. Дакумэнты аб адукацыі, якія выданы да 1920 году за граніцай навучальнымі ўстановамі прыймаюцца натарыяльнымі канторамі для засьвэдчаньня веркасьці копій і правільнасьці перакладаў з чужаземных моваў, хоць-бы на гэтых дакумэнтах і ня было папярэдняй, або пасьледуючай легалізацыі іх органамі Н. К. З. С. Да дакумэнтаў гэтага роду, выданых за граніцаю пасьля 1920 г., павінен дапасоўвацца агульны парадак (§ 66). Яны падлягаюць легалізацыі ў органах Н. К. З. С.

§ 68. Дакумэнты, якія прадназначаны для адсылкі за мяжу, павінны мець візу Н. К. З. С. Для гэтага натарыяльна пасьвядчаемыя ўгоды і засьвядчаемыя дакумэнты, павінны быць прадстаўлены ў Н. К. Ю. для заверкі подпісу натарыусу, або народнага судзьдзі, пасьля гэтага ў НКЗС—для легалізацыі. Зацікаўленыя асобы могуць і самі прадстаўляць дакумэнт для заверкі ў Н. К. Ю. і Н. К. З. С.

Натарыяльныя канторы і народныя судзьдзі павінны растлумачваць гэты парадак у выпадку выкананьня натарыяльных дзеяньняў для накіраваньня дакумэнтаў за мяжу.

§ 69. Натарыяльная кантора натарыяльна пасьвядчае прапанову заключыць дагавор, зробленая адсутнаму кантрагэнту ў парадку арт. 132 Г. К. У такім выпадку натарыяльная кантора, упэўніўшыся ў самаасабістасьці, праваздольнасьці і дзеяздольнасьці асобы, робячай прапанову, законнасьці ўгоды, робіцца надпіс што натарыяльна пасьведчана.

Адказ на прапанову заключыць дагавор, дадзены ў парадку арт. 133 Г. К., таксама натарыяльна пасьвядчаецца, пры чым праваяраецца самалічнасьць, правааздольнасьць і дзеяздольнасьць асобы, якая дае адказ і законнасьць угоды. На адказе робіцца подпіс, што ён натаркяльна пасьведчан.

§ 70. Натарыяльная кантора можа прыняць на сябе даручэньне пераслаць адказ афэрэнту, пры чым тэрмін на адказ паказваецца, даючым адказ, асобай (акцэптантам).

§ 71. Пры прапанове (арт. 132 Г. К. і § 69) можа быць прадстаўлен праэкт дагавору, падпісаны афэрэнтам. Натарыяльная кантора пасьвядчае подпіс, самаасабістасьць, правааздольнасьць і дзеяздольнасьць афэрэнта. Подпіс, самаасабістасьць, правааздольнасьць акцэнтанта на гэтым дагаворы можа быць пасьведчана ў такім-жа парадку ў другой натарыяльнай канторы і ў іншы час.

§ 72. На дагаворах, якія падлягаюць дадатковай аплаце натарыяльнымі зборамі, ставіцца штэмпель: „Падлягае дадатковай аплаце натарыяльнымі і мясцовымі зборамі па меры выясьненьня сумы дагавору“.

На дагаворах, па якіх прадастаўлена растэрмінаваньне збораў, ставіцца штэмпель: „Натарыяльная плата і мясцовы збор у суме ............р.......... к. растэрмінована і падлягае ўнясеньню ў наступныя тэрміны“: прастаўляюцца ад рукі тэрміны ўзносу і сумы падлягаючых унясеньню збораў.

## VII. Паасобныя ўгоды.

### 1. Угоды, якія тычацца будовы і права забудоўкі.

§ 73. Пры натарыяльным пасьведчаньні ўгод аб адчужэньні будовы натарыяльная кантора патрабуе прадстаўленьня: 1) спраўкі аддзелу мясцовай гаспадаркі (камунальнага) з рэестру ўладаньняў аб прыналежнасьці адчужаемай маемасьці, а, калі гэта маемасьць набыта ўжо шляхам куплі, то другі паасобнік натарыяльна пасьведчанай угоды аб набыцьці (згодна палажэньня аб Дзяржаўным Натарыяце зацьверджаным ЦВК і СНК 31 сьнежня 1926 г.) або выпіс натарыяльнага акту (Палаж. аб Дзяржаўным Натарыяце 1923 г.), або акту аб набыцьці з публічных таргоў (у гэтых дакумэнтах павінна быць паказана на тое, што яны зарэгістраваны ў аддзелах мясцовай гаспадаркі—камунальных).

2) Спраўкі адпаведнай натарыяльнай канторы аб арыштах.

3) Спраўкі падлягаючага органу камунальнай гаспадаркі аб тым, што ад імя прадаўца, яго супруга і няпоўналетніх дзяцей няўўчынялася адчужэньняў уладаньняў на працягу 3-х папярэдніх год.

4) Спраўкі таго-ж органу аб тым, што пакупацель, яго супруг і няпоўналетнія дзеці не ўладаюць будовай у данай мясцовасьці.

5) Спраўкі аб ацэнцы будовы пры застрахаваньні і ўзіманьні падаткаў і збораў (толькі пры ўгодах аб продажу будовы).

§ 74. Пры натарыяльным пасьведчаньні ўгод аб залогу будовы патрабуецца прадстаўленьне справак, паказаных у п. п. 1—2 папярэдняга артыкулу.

§ 75. Пры натарыяльным пасьведчаньні ўгод аб адчужэньні права забудоўкі натарыяльная кантора патрабуе: 1) прадстаўленьня другога паасобніку натарыяльна-пасьведчанай угоды або выпісу акту аб устаноўленьні права забудоўлі; 2) спраўку адпаведнай натарыяльнай канторы аб адсутнасьці на прадаваемай маемасьці арыштаў; 3) спраўку аб ацэнцы будовы пры застрахаваньні і спагнаньні падаткаў і збораў.

§ 76. Пры натарыяльным пасьведчаньні ўгод аб залогу права забудовы патрабуецца прадстаўленьне справак і дакумэнтаў, паказаных у п. п. 1—2 § 73.

§ 77. Пры натарыяльным пасьведчаньні ўгод залогу будоўлі і права забудовы адначасна з пасьведчаньнем угод накладаецца арышт на закладаемую маемасьць.

§ 78. Пры натарыяльным пасьведчаньні ўгод аб адчужэньні муніцыпалізаваных будоў патрабуецца прадстаўленьне: 1) акту аб адбыўшыхся публічных таргох, або паказаньні ў акце аб продажу без таргоў у парадку ўвагі да арт. 4 Пастановы ЦВК і СНК за 6 сьнежня 1924 г. (З. З. БССР. № 12—1926 г., арт. 47); 2) спраўкі падлягаючага органу камунальнай гаспадаркі аб тым, што пакупацель, яго супруг і няпоўналетнія дзеці не ўладаюць будовамі ў данай мясцовасьці. Угода пасьвядчаецца ў відзе двухстароньняй угоды між выканкомам і асобай, купіўшай будову.

§ 79. Пры натарыяльным пасьведчаньні ўгода аб адчужэньні часткі ўладаньня або права забудоўкі неабходна згода органу камунальнай гаспадаркі на падзяленьне адчужаемай маемасьці на самастойныя ўладаньні. Пры адчужэньні ідэальнай долі, такога дазволу не патрабуецца.

§ 80. Пры натарыяльным пасьведчаньні, па жаданьню старон угод, па адчужэньні будовы, разьмешчанай на зямлі прадстаўленай

законным парадкам у карыстаньне працоўных землякарыстальнікаў, натарыяльныя канторы патрабуюць: 1) пасьведчаньня райвыканкому аб прыналежнасьці будовы; 2) аб адбыўшайся перадачы пакупшчыку зямлі працоўнага карыстаньня, на якой знаходзіцца прадаваемая будова; 3) выпіс з падворных сьпісаў аб складзе двара прадаўца будовы з абазначэньнем гаспадара дому; 4) засьведчаную сельскім саветам падпіску членаў двара аб згодзе на адчужэньне будовы і 5) зьвесткі аб страхавой і падатковай ацэнцы будоў. Справак аб арыштах не патрабуецца.

§ 81. Другі паасобнік натарыяльна пасьведчай угоды куплі-продажу будовы або права забудоўкі прадстаўляецца ў райвыканком для рэгістрацыі (арт. 182 Гр. Кодэксу не дапасоўваецца. Зборы спаганяются на агульнай падставе).

§ 82. Пры натарыяльным пасьведчаньні, па жаданьню старон, угод аб адчужэньні будовы, разьмешчанай на землях працоўнага карыстаньня, але асобам, якія ня лічацца членам працоўнай земляробчай гаспадаркі (працоўнага двара), патрабуецца: 1) пасьведчаньне райвыканкому аб прыналежнасьці будоў; 2) аб адбыўшайся перадачы пакупшчыку зямлі, абслугоўваючай будовы і 3) зьвесткі аб падатковай або страхавой ацэнцы. Справак аб арыштах не патрабуецца. Не патрабуецца і зьвестак па арт. 182 Г. К.

§ 83. Пры натарыяльным пасьведчаньні, па жаданьню старон, угод аб адчужэньні будовы, разьмешчаных па-за гарадамі, гарадзкіх пасяленьняў, рабочых пасёлкаў і дачных курортных мясцовасьцях, у мясцовасьцях, якія знаходзяцца ў непасрэдным распараджэньні органаў НКЗ або прадстаўленых у карыстаньне іншым ведамствам, патрабуецца згода ад органаў НКЗ або падлягаючага ведамства на прадастаўленьне пакупшчыку зямлі пад будовай. Спраўкі аб арыштах і зьвестках па арт. 182 Г. К. не патрабуецца.

§ 84. Для ўгод аб адчужэньні будоў, разьмешчаных у рабочых пасёлках, патрабуюцца тыя-ж дакумэнты, што і пры адчужэньні гарадзкіх будоў.

§ 85. Пры натарыяльным пасьведчаньні ўгод аб продажу па-за гарадзкіх будоў на знос і перанос не патрабуецца ніякіх дакумэнтаў.

§ 86. Натарыяльна пасьвядчаемы, у парадку арт. 312 Гр. Прац. Кодэксу, акт аб набыцьці купленай з публічных таргоў будовы, або права забудоўкі складаецца на падставе копіі акту судовага выканаўцы аб вытварэньні таргоў без прадстаўленьня самога гандлёвага справаводзтва.

§ 87. У пасьведчальных надпісах на ўсіх вышэйазначаных угодах (§§ 73, 74, 75, 76 і 84), павінна быць паказана на неабходнасьць прадставіць паасобнік угоды у орган адпаведнай камунальнай гаспадаркі для адзнакі аб рэгістрацыі, а ў выпадках, зазначаных у §§ 81—82—у райвыканком.

Натарыяльная кантора пасылае не пазьней наступнага дня ў орган камунальнай гаспадаркі для адзнакі ў рэестры ўладаньняў і ўладальнікаў на забудоўшчыкаў выпіску з пасьведчанай угоды, ў якой абазначаецца: адчужаемая маемасьць, імя, імя па бацьку і прозьвішчы прадаўца і пакупацеля, натарыяльная кантора, дата натарыяльнага пасьведчаньня ўгоды і нумар па рээстру.

§ 88. Продаж абцяжараных залогам будоўляў або права забудоўлі з пераводам доўгу на новага здабывальніка ўчыняецца з згоды залогатрымальніка (арт. 126 Гр. Код.), выражанага ў надпісу крэдытора і пакупацеля, на другім паасобніку натарыяльнага пасьведчаньня ўгоды залогу (на выпісе залогавага акту) надпіс гэты ната-

рыяльна пасьвядчаецца адначасна з натарыяльным пасьведчаньнем угоды куплі-продажу.

У самай угодзе куплі-продажу зьмяшчаецца ўмова аб прыняцьці на сябе пакупальнікам доўгу, які ляжыць на адчужаемай будове або праве забудоўлі, прычым пры азначэньні падлягаючых выплаце пры ўчыненьні гэтай угоды збораў (гэрбавага і натарыяльнага) сума гэтага даўгу прыбаўляецца да цаны, за якую набываецца маемасьць (п. „а“ арт. 5-га інструкцыі па дапасаваньню Статуту аб Гэрб. Зборы).

§ 89. Пасьля натарыяльнага пасьведчаньня ўгоды куплі-продажу будовы або права забудоўкі і натарыяльнага пасьведчаньня перадатачнага надпісу на залогавым акце (§ 88) натарыяльная кантора накладае арышт на маемасьць, якая перайшла да пакупацеля, і зьнімае арышт, які ляжыць на маемасьці прадаўца, копія патрабаваньня аб арышце пасылаецца ў аддзел мясцовай гаспадаркі (камунальны) і падлягаючую (п. „ж“ арт. 1 Пал. аб Дзярж. Нат.) натарыяльную кантору.

§ 90. Перавод доўгу па залогаваму акту (§§ 88 і 89) можа быць зроблен як да выходу тэрміну выкананьня паказанага ў залаговым акце, так і пасьля яго, але не пазьней выходу даўнаснага тэрміну на прад'яўленьне іску на ўгодзе.

§ 91. Натарыяльныя канторы адмаўляюцца ў натарыяльным пасьведчаньні ўгод аб залоґу будоваў, разьмешчаных на землях працоўнага карыстаньня і на землях, якія знаходзяцца па-за гарадамі гарадзкіх пасяленьняў, рабочых пасёлкаў і дачных і курортных мясцовасьцяй.

§ 92. Пры натарыяльным пасьведчаньні ўгод аб адчужэньні і залогу часткі права забудоўкі, г зн. права забудоўкі на вучастак, вылучаны з агульнагъ зданага пад забудоўку вучастку, патрабуецца прадастаўленьне згоды на выдзел Камунальнага Аддзелу і зацьверджаньне выдзелу акруговым або раённым інжынэрам. Згода Камунальнага Аддзелу павінна быць выкладзена ў выглядзе надпісу на знаходзячымся ў стараны выпісу натарыяльнага акту аб праве забудоўкі (па Пал. аб Дзярж. Нат, выд. 1923 г.) з абазначэньнем у надпісе аб учыненьні адпаведнай адзнакі ў рэестры Камунальнага Аддзелу аб зданых пад забудоўку зямельных вучасткаў.

§ 93. Калі агульны вучастак, з якога вылучаецца і адчужаецца часьць права забудоўкі (на частку вучастку), абцяжаран залогам, то павінна быць прадстаўлена, апроч таго, згода залогатрымальніка (крэдытора), выражаная ў надпісе на знаходзячымся ў яго паасобніку натарыяльна пасьведчанай угоды аб залогу або на выпісе з натарыяльнага акту залогу. Надпіс залогатрымальніка павінен быць натарыяльна пасьведчан.

Натарыяльная кантора зьнімае арышт, які ляжыць на праве забудоўкі на ўсім вучастку, і накладае зноў арышт на права забудоўлі на ўсім вучастку, за выключэньнем адчужаемага вучастку.

Паказаны надпіс неаплачваецца гэрбавым зборам. Плата за натарыяльныя дзеяньні спаганяецца як за надпіс на ўгодах без цаны

## 2. Завяшчаньне.

§ 94. Завяшчаньні могуць прадстаўляцца ў кантору для натарыяльнага пасьведчаньня толькі асабіста завяшчальнікамі, а не іх паверанымі. Натарыус правярае законнасьць распараджэньня завяшчальніка, не ўваходзячы, аднак, у разгляд пытаньня аб прыналеж-

насьці завяшчаемай маемасьці і не патрабуе довадаў прыналежнасьц-асоб, якім па завяшчаньню прадстаўляецца або між каторымі разы мяркоўваецца маемасьць, к чыслу паказаных у арт. 418 Гр. Кодэксу.

Пры няпісьменнасьці завяшчальніка за няпісьменнага ня можа расьпісвацца асоба, у карысьць якой па завяшчаньню прадстаўлена якая-небудзь маемасьць.

§ 95. Пры назначэньні завяшчальнікам, у парадку арт. 427 Гр. Код. выканаўцы завяшчаньня ў выпадку, калі згода выканаўца выражана ў паасобнай заяве, апошняя прадстаўляецца ў натарыяльную кантору адначасна з завяшчаньнем.

Заява перштвору прылучаецца да першага паасобніку ўгоды, а копія яго з прашнураваньнем і замацаваньнем натарыусу да 2 паасобніку, выдаваемаму завяшчальніку.

## 3. Адчужэньне і арэнда прадпрыемстваў.

§ 96. Пры натарыяльным пасьведчаньні дагавораў на здачу ў арэнду нацыяналізаваных або дэнацыяналізаваных прадпрыемстваў, натарыяльная кантора правярае на распараджэньне маемасьцю асобы, якая здае яе ў арэнду.

§ 97. Адчужэньне прыватнаўладальніцкіх прадпрыемстваў, якое зьвязана з адчужэньнем жыльлёвых і няжыльлёвых будоваў, якія прыналежаць прыватным асобам, павінна быць пасьведчана ў натарыяльным парадку.

§ 98. Натарыяльныя канторы павінны адмаўляць у адчужэньні прыватным асобам прадпрыемстваў з лікам рабочых больш 20-ці, калі гэтыя прадпрыемствы ўзьніклі пасьля дэкрэту ад 7-га ліпеня 1921 году (арт. 55 Грам. Код. і арт. арт. 1 і 2 дэкрэту УсеЦВК і СНК ад 7 ліпеня 1921 г.). (З У. 1921 г. № 53, арт. 323).

§ 99. Пры адчужэньні прыватна-ўладальніцкіх прадпрыемстваў павінны быць пададзены спраўкі: а) ад аддзелу мясцовай гаспадаркі (камунальнага) аб прыналежнасьці будоўлі прадаўцу, б) ад мясцовага органу ВСНГ аб тым, што прадпрыемства не нацыяналізавана, з зазначэньнем часу ўзьнікнавеньня прадпрыемства, а пры ўзьнікнавеньні прадпрыемства пасьля дэкрэту за 7-га ліпеня 1921 г. і ліку рабочых прадпрыемстваў.

§ 100. Калі набывальнікам прадпрыемства зьяўляецца каапэрацыйная арганізацыя, час узьнікнавеньня прадпрыемства і лік рабочых ня мае значэньня і не правяраецца натарыяльнай канторай.

§ 101. Пры набываньні прыватнай асобай прадпрыемства ад каапэрацыйнай арганізацыі, натарыяльная кантора патрабуе прадстаўленьня спраўкі ад мясцовага аддзелу ВСНГ аб ліку рабочых; калі лік рабочых перавышае 20 чалавек, у натарыяльным пасьведчаньні ўгоды павінна быць адмоўлена.

§ 102. Пры адчужэньні абсталяваньня прадпрыемства, натарыяльны парадак пасьведчаньня ўгоды не абавязковы.

§ 103. Пры натарыяльным пасьведчаньні, па жаданьню старон, угод аб адчужэньні абсталяваньня прадпрыемстваў неабходны спраўкі: а) пры адчужэньні абсталяваньня прадпрыемства, прыналежачага прыватнай асобе і разьмешчанага ў будове, якая знаходзіцца ў веданьні ВСНГ або яго органаў або прыналежачай прыватнай асобе, ад мясцовага органу ВСНГ аб тым, што прадпрыемства не нацыяналізавана; б) пры адчужэньні абсталяваньня прадпрыемства, разьмешчанага ў будове, якая знаходзіцца ў веданьні аддзелу мясцовай гаспадаркі,—ад мясцовага органу ВСНГ і ад аддзелу мясцовай гаспадаркі.

§ 104. Пры адчужэньні прыналежачых прыватным уладальнікам млыноў, прасарушак і крупарушак патрабуецца прадстаўленьне пасьведчаньня ад аддзелу мясцовай гаспадаркі (камунальнага) аб прыналежнасьці прадаўцу будоўлі. Пры адчужэньні млыноў, прасарушак і крупарушак звыш трэцяй катэгорыі з дапаможнымі да іх прадпрыемствамі патрабуецца прадстаўленьне пасьведчаньня ад Акруговых Аддзелаў па ўнутраным гандлі аб рэгістрацыі прадаваемых прадпрыемстваў.

## 4. Таварыства.

§ 105. У дагаварох таварыства, поўных і на веры, у найменьні фірмы павінны ўваходзіць абавязкова: прозьвішча поўных неабмяжаваных адказных таварышоў, прычым могуць быць паказаны два або тры прозьвішчы з дадаткамі: „і Ка". Прозьвішчы ўдзельнікаў фірмаў павінны быць паказаны і пры ўключэньні ў найменьне фірмы умоўных найменьняў, ня можа быць дапускаема фірменных найменьняў, неадпавядаючых задачам дзеяльнасьці таварystваў або ўтрымоўваючых паказаньні, неадпавядаючыя сапраўднасьці.

*Увага.* Простыя таварыствы ня могуць мець фірмы.

§ 106. Натарыяльная кантора павінна прыймаць да натарыяльнага пасьведчаньня дагаворы таварystваў з удзелам у іх нямецкіх грамадзян пры ўмове прадстаўленьня апошнімі довадаў, што яны маюць сталае месца жыцьця ў СССР (законна пражывае ў Саюзе і ня менш 18-ці месяцаў займаюцца на тэрыторыі СССР прамысловасьцю, гандлем, рамесьніцтвам і г. д.-відамі незабароненай дзейнасьці. Пастанова ЦВК і СНК за 3 верасьня 1926 году (З. З. 1926 году, № 59, арт. 439).

Гэта правіла распаўсюджваецца таксама і на грамадзян тых краін, якім па міжнароднай згодзе, актах і канвэнцыях будуць даны Урадам СССР правы ня меншага добрапрыемстваваньня.

## 5. Даверанасьць.

§ 107. Тэкст даверанасьці павінен пачынацца з дакладнага абазначэньня імя, імя па бацьку, прозьвішча давяральнікаў, а ў належных выпадках і займаемай пасады.

§ 108. Даверанасьці, якія выдаюцца некалькімі давяральнікамі аднаму паверанаму, могуць прыймацца для натарыяльнага пасьведчаньня толькі ў тым выпадку, калі дзеяньні, на якія ўпаўнаважваецца паверany, складаюць агульную справу давяральнікаў.

§ 109. Пры натарыяльным пасьведчаньні перадавер'я належыць патрабаваць абазначэньня тэрміну дзеяньня перадавер'я з тым, каб гэты тэрмін не перавышаў тэрміну дзеяньня асноўнай даверанасьці.

§ 110. Пры натарыяльным пасьведчаньні даверанасьцяй, выдаваемых дзяржаўнымі органамі і іншымі арганізацыямі сваім прадстаўнікам, якія камандыруюцца за граніцу па гандлёвых справах, належыць патрабаваць раней візу Наркамгандлю.

§ 111. Даверанасьці, выданыя заграніцаю для дзеяньня ў межах СССР на тэрмін больш трох год або без абазначэньня тэрміну, павінны лічыцца сапраўднымі ў межах БССР на працягу трох год з дня выдачы.

§ 112. Пры натарыяльным пасьведчаньні перадавер'я на падставе даверанасьці, выданай за граніцаю і не зьмяшчаючай у сабе права

перадавер'я, належыць кіравацца арт. 254 Грам. Кодэксу, хоць-бы па законах месца ўчыненьня даверанасьцяй, перадвер'е магло быць выдана і пры адсутнасьці ў даверанасьці спэцыяльнага аб гэтым паказаньня.

§ 113. Пры натарыяьным пасьведчаньні даверанасьцяй для дзеяньня за граніцаю павінны захоўвацца патрабаваньні Грам. Кодэксу, у тым ліку і арт. 268 Грам. Кодексу аб тэрмінах дзеяньня даверанасьцяй.

## 6. Тэлеграмы даверанасьці.

§ 114. Тэлеграмы, зьмест якіх складаюць даверанасьці першатвораў, аплачаныя гэрбавым зборам і натарыяльна пасьведчаныя падлягаюць бесьперашкоднаму прыёму ад падацеляў па назначэньню.

§ 115. Да зьместу тэлеграмы—даверанасьці адносяцца як самая даверанасьць, так і тэкст пасьведчальнага надпісу з подпісам натарыусу, а ў мясцох, дзе натарыяльных кантор няма, з подпісам народнага судзьдзі.

§ 116. Сапраўднасьць подпісу натарыусу або народнага судзьдзі пасьвядчаецца па тэлеграфу парадкам дапасавальна да арт. 89 дзейнічаючай пастановы па тэлеграфнай часцы, прычым, узамен асаблівых па кожнаму выпадку заяўленьняў аб засьведчаньні подпісу натарыяльнай установы, а ў мясцох, дзе апошніх няма, народныя судзьдзі павінны перадаць у мясцовую паштова-тэлеграфную ўстанову ўзоры подпісаў натарыусаў і народных судзьдзяў, а таксама водціскі пячатак гэтых службовых асоб.

§ 117. На месцы назначэньня паступіўшыя па апаратах тэлеграмы даверанасьці дастаўляюцца адрасатамі з пасьведчаньнем факту іх атрыманьня, выражанага ў надпісе на самай тэлеграме: „сапраўдная прынята па апарату ў такой-та п.-т. установе, такога-та чысла, месяца, году"; надпіс пасьвядчаецца подпісам загадчыка ўстановы або асобы, якая замяняе яго, з прыкладам водціску пячаткі або каляндарнага штэмпеля ўстановы.

§ 118. Прыём тэлеграм--даверанасьцяй ад падавальнікаў дапускаецца выключна ў тых п.-т. установах, якія разьмешчаны ў мясцох знаходжэньня натарыяльных кантор або кантор народных судзьдзяў, прычым у выпадку наяўнасьці ў адным горадзе некалькіх тэлеграфных устаноў, прыём такога роду тэлеграм робіцца толькі ў цэнтральнай канторы.

§ 119. Атрыманая па тэлеграфу даверанасьць замяняе арыгінал, да аплаты якімі-небудзь зборамі і ў тым ліку і гэрбавым, не падлягае.

§ 120. Сапраўдныя тэлеграмы-даверанасьці застаюцца ў ліку выхадзячых тэлеграм месца падачы на працягу тэрміну ўстаноўленага для хаваньня тэлеграфнай справаздачнасьці і па зыходу апошняго, зьнішчаюцца на агульных падставах.

121. Тэлеграмы гэтыя ні ў якім разе не падлягаюць выдачы падавальнікам ні ў першатворах, ні ў копіях.

## 7. Дагаворы па поваду прымацтва.

§ 122. Натарыяльныя канторы не павінны прымаць да натарыяльнага пасьведчаньня дагавораў аб прымацтве (аб прыняцьці і ўступленьні ў склад працоўнага двара новага члена); дагаворы-ж

маемаснага характару па поваду прымацтва могуць натарыяльна пасьвядчацца, калі яны не супярэчаць закону, і, у прыватнасьці, нормам Зямельнага Кодэксу ў адносінах правоў членаў працоўнага двара на зямлю і маемасьць.

## 8. Дагаворы па прадметах замежнага гандлю.

§ 123. Пры натарыяльным пасьведчаньні дагавораў, прадметам якіх зьяўляюцца якія-небудзь апэрацыі па замежнаму гандлю, неабходна ва ўсіх выпадках патрабаваць раней зацьвярджэньня дагавору Народным Камісарыятам Гандлю, за выключэньнем угод камісыйнага характару, якія заключаюцца зьмешанымі акцыянэрнымі таварыствамі ў межах Саюзу ССР з дзяржаўнымі ўстановамі, дзяржаўнымі прадпрыемствамі, каапэрацыйнымі і прыватнымі арганізацыямі, або асобамі аб закупцы для гэтых апошніх заграніцаю тавару, або аб продажу тавару заграніцай, калі па іх статутах ім дадзена права ўчыненьня падобных угод і ў склад праўленьня ўваходзіць прадстаўнік Наркамгандлю.

## 9. Угоды, якія тычацца маемасьці, якая знаходзіцца заграніцаю.

§ 124. Натарыяльныя канторы могуць прыймаць да натарыяльнага пасьведчаньня ўгоды і дакумэнты па пераходу ўсякага роду маемасных правоў грамадзян БССР заграніцаю і ў тым ліку і полісаў замежных страховых таварыстваў, як на карысьць грамадзян БССР, так і на карысьць чужаземцаў, паколькі перадача была забаронена якім-небудзь пэўным законам.

## 10. Угоды па поваду гандлёвых суднаў, плаваючых на ўнутраных водных шляхох.

§ 125. Пры натарыяльным пасьведчаньні, па жаданьню старон, угод па пераўступцы гандлёвых суднаў, плаваючых на ўнутраных водных шляхох СССР, аб залогу такіх суднаў або аб здачы ў арэнду ў довад прынадлежнасьці судна павінна быць прадстаўлена судовае пасьведчаньне, выданае кіраўніцтвам унутраных водных шляхоў (Пастанова ЦВК і СНК СССР ад 24 верасьня 1926 г.). З. З. 1926 г. № 75, арт. 493.

## 11. Пратэст вэксалёх.

### *а) Парадак прыёму і выдачы вэксалёў.*

§ 126. У прыёме вэксалёў да пратэсту натарыяльная кантора выдае расьпіску ў кнігах, пры якіх праправаджаюцца вэксалі ў рэестрах. Усім астатнім грамадзянам выдаюцца ўстаноўленыя квітанцыі, у якіх абазначаюцца атрыманыя з іх зборы, прастаўляецца нумар, пад якім вэксаль запісан у прыёмную кнігу.

§ 127. Прынятыя да пратэсту вэксалі запісваюцца ў устаноўленую для гэтага кнігу, якая здаецца ў натарыяльны архіў у тэрмін, устаноўлены арт. 14 Пал. аб Натарыяце.

§ 128. Асобе выкупіўшай вэксаль, апошні выдаецца пад расьпіску ў прыёмнай кнізе і выдаецца квітанцыя ў атрыманьні сумы вэксалю (валюты), калі гэтакая ўнесена ў касу кантары.

§ 129. Вэксалі, нявыкупленыя да тэрміну, паказанаму ў арт. 12 Пал. аб вэксалёх, па ўчыненьні надпісу аб пратэсьце, уносяцца ў рэестр пратэстованых вэксалёў.

§ 130. Вэксалятрымальнік пры атрыманьні вэксалю з пратэсту або да пратэсту расьпісваецца ў прыёмнай кнізе або ў рэестры пратэстованых вэксалёў.

§ 131. Пры выкупе вэксалю блянканадпісальнікам і пратэсьце ад імя апошняга (у тэрмін установлены арт. 12 Пал. аб вэксалёх) у прыёмнай кнізе робіцца аб гэтым адзнака.

§ 132. У рэестр пратэстованых вэксалёў ня ўносяцца вэксалі, якія выкуплены і атрыманы да пратэсту.

*б) Парадак учыненьня пратэсту вэксалёў.*

§ 133. Вэксаль можа быць прынят да пратэсту, калі ён прад'яўлен па месцу плацяжу ў натарыяльную кантору або пры адсутнасьці на месцы плацяжу натарыяльнай канторы--народнаму судзьдзі. Калі па месцы плацяжу ня маецца ні натарыяльнай канторы ні камэры народнага судзьдзі, вэксаль павінен быць прад'яўлен для пратэсту народнаму судзьдзі таго раёну, у які ўваходзіць месца плацяжу, або ў натарыяльную кантору, калі яна разьмешчана на месцы знаходжаньня камэры народнага суду.

§ 134. Вэксалі прымаюцца да пратэсту толькі пры наяўнасьці ўсіх элемэнтаў (рэквізытаў вэксалю), зазначаных у арт. 2 Пал. аб вэксалёх і ўвага 1 да гэтага арт., і пры ўмове правільнай аплаты гэрбавым зборам.

§ 135. Разарваныя і надарваныя вэксалі да пратэсту ня прымаюцца, за выключэньнем выпадкаў, калі самы характар папсаваньня вэксалю яўна сьведчыць аб выпадковасьці папсаваньня, напрыклад, вэксаль парван на перагібе з прычыны старасьці, адарваны бераг вэксалю зьверху без папсаваньня тэксту вэксалю або без парушэньня істотных рэквізытараў і г. д.

§ 136. Вэксаль можа быць прад'яўлен толькі на наступны дзень пасьля тэрміну, у які вэксалядацель абавязаўся заплаціць па вэксалю. Калі тэрмін плацяжу прыходзіцца на непрацоўны дзень, то тэрмінам плацяжу павінен лічыцца наступны за тым працоўны дзень. Адпаведна перасоўваецца і тэрмін прад'яўленьня вэксалю ў натарыяльную кантору для пратэсту. Як раз таксама, калі пратэст вэксалю прыходзіцца на дзень непрацоўны, то ён вытвараецца ў першы за тым працоўных дзень.

§ 137. Натарыус або народны судзьдзя, прымаючы вэксаль, павінен праверыць непарыўнасьць шэрагу перадатачных надпісаў па якіх вэксаль перайшоў да вэксалятрымальніка.

§ 138. Угледзеўшы парушэньні, зазначаныя ў § 133, 134, 135 136 і 137, натарыус або народны судзьдзя адмаўляе ў прыняцьці вэксалю да пратэсту. Калі ўсе зазначаныя ў §§ 133—137 умовы захаваны, натарыус або народны судзьдзя ня можа адмовіць у прыняцьці вэксалю.

§ 139. Натарыус або народны судзьдзя не ўваходзіць у разгляджаньне пытаньняў, якія не адносяцца да праверкі захаваньня патрабаваньняў Пал. аб вэксалёх. Так, натарыус не ўваходзіць у разглежаньне пытаньняў і праве юрыдычнай асобы абавязвацца вэксалямі, не правярае сапраўднасьці упаўнаважаньня асобы, якая падпісала вэксаль, або перадатачны надпіс па ўпаўнаважаньню, не правярае сапраўднасьці подпісаў на вэксалі, пратэстуючы яго, хоць-бы і была заяўлена спрэчка аб падлогу і г. д.

§ 140. У дзень прыняцьця вэксалю да пратэсту або на наступны дзень натарыяльная кантора або народны судзьдзя прад'яўляе вэксалядацелю асабіста, пісьмова (у тым ліку аплачанай тэлеграмай) альбо пісьмова праз супрацоўніка канторы патрабаваньні аб плацяжу па адрасох, абазначаных ў вэксалі або ў заяве вэксалятрымальніка, альбо вядомых натарыяльнай канторы або народнаму судзьдзі. Пры непаказаньні адрасу вэксалядацеля, невядомасьці яго натарыяльнай канторы, або народнаму судзьдзі, а таксама пры знахаджэньні вэксалядацеля не на месцы плацяжу, пратэст вытвараецца без пасылкі патрабаваньня аб плацяжу.

§ 141. Паведамленьне надпісальнікам пасылаецца толькі пры наяўнасьці зьвестак аб іх адрасах і пры прадстаўленьні грошай на пасылку паведамленьняў.

§ 142. У выпадку неўнясеньня вэксалятрымальнікам плацяжу па вэксалю да тэрміну, паказанага ў арт. 12 Палажэньня аб вэксалёх г. зн. да 15-ці гадзін дня, які ідзе за прад'яўленьнем вэксалю да плацяжу, вэксаль у той-жа дзень пратэстуецца.

§ 143. У выпадку прадстаўленьня ў натарыяльную кантору вэксалёў, у якіх пры абазначэньні месца плацяжоў зазначаецца ня толькі горад, але і памяшканьне, дзе павінен быць вытваран плацеж (наприклад, .................. абавязаны мы заплаціць .................. у гор. .................. у канторы .................. банку") ужываецца наступны парадак пратэсту: 1) патрабаваньне аб плацяжу пасылаецца абавязаным па вэксалю асобам па адрасу памянёнага памяшканьня (напр. горад, .................. кантора .................. банк .................. такому-та ..................). Калі, апрач памяшканьня, дзе павінен быць праведзен дзень плацяжу ў вэксалі абазначан і адрас (месца пражываньня) вэксалядацеля, то патрабаваньне аб плацяжу пасылаецца і па месцу жыхарства вэксалядацеля. 2) Калі вэксаль выкупляецца ўстановай, у памяшканьні якой назначан плацеж, то ўнесеныя ў уплату вэксалю сумы лічацца паступіўшымі ад імя вэксалядацеля. 3) У выпадку неплацяжу, вэксаль пратэстуецца супраць вэксалядацеля.

§ 144. Пратэстам канстатуецца толькі факт непаступленьня грошай на выплату вэксалю ў тэрмін, паказаны ў арт. 12 Пал. аб вэксалёх і натарыяльная кантора або народны судзьдзя, пратэстуючы вэксаль, не ўваходзіць у разгледжаньне прычын непаступленьня плацяжу.

§ 145. Ніякія адтэрмінаваньні ня могуць быць дапускаемы, апроч выпадкаў, калі на прад'яўляемыя вэксалі павінна быць распаўсюджана дзеяньне мараторыуму ў парадку пастановы ЦВК і СНК СССР за 14 лістапада 1924 г. (З. З. 1924 г., № 25, арт. 211 і 25 году, № 41, арт. 361).

§ 146. Аб пратэсьце робіцца на самым вэксалі надпіс па форме № 4. Апратэстованы вэксаль выдаецца вэксалятрымальніку або асобе ім упаўнаважанай.

§ 147. У выпадку паступленьня плацяжу ад вэксалядацеля да паказанага ў арт. 12 Палаж. аб вэксалёх, тэрміну, вэксаль не пратэстуецца і выдаецца асобе, якая аплаціла вэксаль, з надпісам на самым вэксалі аб атрыманьні плацяжу ад вэксалядацеля (форма № 5).

§ 148. Вэксаль тэрмінам па прад'яўленьні належыць тым-жа правілам. На працягу дня, калі вэксаль тэрмінам па прад'яўленьні прадстаўлен у кантору або на наступны дзень, натарыяльная кантора пасылае патрабаваньне аб плацяжу абавязаным па вэксалю асобам, і, калі да 15-ці гадзін другога пасьля прадстаўленьня вэксалю ў кантору (г. зн. ня лічачы дня прадстаўленьня вэксалю ў кантору) для плацяжу не паступіць, вэксаль пратэстуецца.

§ 149. Вэксаль, пісаны тэрмінам ва столькі-та часу па прад'яўленьні, можа быць прынят к пратэсту толькі па зыходу паказанага ў ім тэрміну з дня прад'яўленьня. Час прад'яўленьня вэксалю, устанаўляецца адзнакай вэксалядацеля на вэксалі або пасьведчаньнем у парадку п. „Е" арт. 1 Палаж. аб Дзярж. Натарыяце.

§ 150. Пратэст пераводнага вэкс лю ў няпрыняцьці вытвараецца тым-жа парадкам (§§ 133—140 і 146), апрычым патрабаваньне апцэнта прад'яўляецца трасату.

*в) Прыняцьце ў дэпазыт для перадачы па прыналежнасьці плацяжоў па прад'ядленых к пратэсту вэксалёх.*

§ 151. Адказныя па вэксалю асобы могуць унесьці прылічаючуюся з іх валюту (суму) па вэксалю ў дапазыт натарыяльнай канторы ў Грашовы Аддзел (пункт. „К" арт. 1 Палажэньня аб Дзяржаўным Натарыяце).

§ 152. Адказная па вэксалю асоба прадстаўляе ў натарыяльную кантору квіток фінансавага аддзелу аб узносе плацяжоў па прад'яўленых к пратэсту вэксалёх пры пісьмовай заяве, у якой зазначаецца: а) найменьне і адрас уносячага; б) найменьне і апошні вядомы адрас асобы, для якой ўнесены грашовыя сумы і в) па якому вэксалю ўнесены грошы, з паказаньнем часу выдачы вэксалю сумы, тэрміну плацяжу і найменьне першага вэксалятрымальніка.

§ 153. Пасьля прадстаўленьня даўжнікам у натарыяльную кантору, устаноўленай § 152 гэтай інструкцыі пісьмовай заявы на імя натарыяльнай канторы з квітком грашовага аддзелу аб узносе грашовых сум у дэпазыт натарыяльнай канторы, натарыяльная кантора запісвае грашовую суму на прыход у дэпазытную кнігу з кароткім абазначэньнем зьмяшчаемага ў заяве, г. зн. ад каго паступіла заява, каму прадназначана сума і па якому іменна вэксалю.

§ 154. Адначасна з запісам на прыход у дэпазытную кнігу грашовай сумы, натарыяльная кантора робіць адзнаку на вэксалі ў атрыманай па ім суме і пры поўнай аплаце вэксалю перадае яго, аплаціўшай асобе.

§ 155. Крэдытору па паказанаму даўжнікам месцу яго жыхарства пасылаецца паведамленьне (ф. № 6) не пазьней наступнага дня.

§ 156. Пры яўцы крэдытора за атрыманьньнем унесеных для яго ў дэпазыт грашовых сум натарыяльная кантора патрабуе ад крэдытора паведамленьня (§ 155) і правярае яго самаасабістасьць. Крэдытору выдаецца асыгноўка на атрыманьне грашовых сум з грашовага аддзелу.

§ 157. За натарыяльныя дзеяньні, вытвараныя ў сілу §§ 152, 153, 154, 155 і 156 гэтай інструкцыі, асобнай платы за гэтыя дзеяньні ня ўзімаецца, апрача платы ўстаноўленай па прынятых к пратэсту, але не пратэставаных вэксалёх (арт. 21 такса аплаты нат. дзеяньняў і платы ўстаноўленай арт. 29 тэй-жа таксы).

§ 158. Зварочваньне дэпазыту ўнёсшай яе асобе можа мець месца са згоды крэдытора выражанага ў заяве натарыяльна пасьведчанай або па пастанове суду, увайшоўшай у законную сілу.

## 12. Засьведчаньне вернасьці копій, дакумэнтаў: выпісак з кніг і дакумэнтаў.

§ 159. Да засьведчаньня прымаюцца як дзелавыя паперы і дакумэнты ўрадавых установ, так і дакумэнты, лісты і г. д., якія выходзяць ад прыватных асоб і арганізацый, хоць-бы подпісы прыватных асоб і ня былі засьведчаны, калі толькі дакумэнты і перапіска па свайму зьместу не супярэчаць закону.

*Увага*. Копіі з дакумэнтаў выданых Урадавымі ўстановамі і службовымі асобамі, сьведчацца толькі аб тым выпадку, калі на дакумэнце першатвору маецца службовая пячатка.

§ 160. Пры засьведчаньні вернасьці копіі ў парадку пункту „в“ арт. 1 Палаж. аб Натарыяце прыпіскі, папраўкі, падчысткі і т. п. упамінаюцца толькі ў тых выпадках, калі яны маюцца на арыгінале або копіі.

§ 161. Выпіска павінна заключаць у сабе цалкам цэлыя абзацы, пры чым узятыя ў такім кантэксьце, каб ня было скажэньняў сэнсу дакумэнту. Забараняецца рабіць выпіскі з пропускам у выразах паасобных слоў.

## 13. Пасьведчаньне акалічнасьцяй і дакумэнтаў, якія могуць мець юрыдычнае значэньне.

§ 162. Пры засьведчаньні, паводле пункту „д“ арт. 1 Палаж. аб Натарыяце, часу прад‘яўленьня дакумэнту натарыяльная кантора пасьвядчае самаасабістасьць асобы, якая прадставіла дакумэнт, а таксама, па яе жаданьні, у надпісу могуць быць абазначаны час і мінуты прад‘яўленьня.

§ 163. Пры засьведчаньні знаходжаньні асобы ў пэўным месцы паводле пункту „д“ арт. 1 Пал. аб Натарыяце, таксама па жаданьню зацкаўленай асобы, адзначаюцца ў пасьведчаньні час і мінуты пасьвядчаемай падзеі.

## 14. Засьведчаньне сапраўднасьці подпісаў.

§ 164. Сапраўднасьць подпісаў пасьвядчаецца парадкам, зазначаным у арт. арт. 17 і 19 Палаж аб Дзярж. Нат. Самаасабістасьць падпісаўшагася пасьвядчаецца па правілах артыкулу 16 Пал. аб Дзярж. Нат. Пры гэтым Натарыяльная Кантора, апроч праверкі сапраўднасьці подпісаў і самаасабістасьці падпісаўшагася, пры адсутнасьці ў дакумэнце супярэчаньня закону не правярае ніякіх іншых акалічнасьцяй выкладзеных у дакумэнце, подпіс на якім сьведчыцца.

*Увага.* Натарыусы павінны адмаўляць у прыёме для засьведчаньня сапраўднасьці подпісаў на заявах грамадзян, маючых характар сьведчага паказаньня і прадназначаных для прадстаўленьня ў якасьці довадаў па справах, якія вытвараюцца ў судовых або адміністрацыйных установах.

§ 165. У пасьведчальным надпісу (форма № 9), абазначаецца: 1) найменьне натарыяльнай канторы, 2) пасьведчаньне, што сапраўднасьць подпісу засьведчана, 3) абазначэньне імя, імя па бацьку і прозьвішча асобы, подпіс якой пасьвядчаецца, а роўна і няграматнай або ня могучай расьпісацца асобы (арт. 19 Пал. аб Дзяржаўн. Натарыяце), 4) пералік сум спагнаных збораў гэрбавага, натарыяльнага, мясцовага і за тэхнічную работу; 5) дата, 6) №№ па рэестру, 7) подпіс натарыусу, 8) пячатка канторы.

## 15. Перадача заяўленьняў асоб і ўстаноў іншым асобам і ўстановам.

§ 166. Заявы прадстаўляюцца ў натарыяльную кантору ў двух паасобніках, з якіх арыгінал застаецца ў справах канторы, а копія, завераная натарыусам, уручаецца па прыналежнасьці.

§ 167. Натарыяльныя канторы не правяраюць правільнасьці выкладзенага ў заявах і не пасьвядчаюцца ні ў якіх іншых выкладзеных у заявах акалічнасьцях, але самаасабістасьць асобы, падаўшай заяву, правярае шляхам паметкі (за подпісам натарыусу) на самай заяве, якая застаецца ў справах канторы „заява падана асобай асабіста вядомай або прадставіўшай у пасьведчаньні асобы такі-та дакумэнт“.

§ 168. Заява ўручаецца па прыналежнасьці супрацоўнікамі натарыяльных кантор або супрацоўнікамі паштовых устаноў, парадкам, устаноўленым для ўручэньня судовых папер.

У выпадку адмовы асобы, якой належыць перадаць заяву, супрацоўнік натарыяльнай канторы або паштовай установы адзначае гэту акалічнасьць у разноснай кнізе або ў другім, устаноўленым для разноскі заяваў, дакумэнце.

§ 169. У пасьведчаньнях, выдаваемых натарыяльнымі канторамі на падставе пункту „е“ арт. 1 Пал. аб Дзярж. Нат. (форма № 11), зьмяшчаецца: 1) найменьне натарыяльнай канторы, 2) пасьведчаньне аб паступленьні заявы асобы або ўстановы для перадачы другой асобе або ўстанове з прывядзеньнем зьместу гэтай заявы, 3) пасьведчаньне аб перадачы заявы або аб адмове прыняць заяву ці немагчымасьці ўручыць заяву, 4) указаньне на спагнаныя зборы, 5) дата выдачы пасьведчаньня, 6) № па рэестру, 7) подпіс натарыусу, 8) пячатка натарыяльнай канторы.

Па просьбе старон, у гэта пасьведчаньне можа быць уключана паказаньне на час атрыманьня адказу і яго зьместу ці паказаньня на тое, што адказу на заяву не паступіла.

§ 170. Заява можа быць перадана ў натарыяльную кантору і па пошце.

У такім выпадку сапраўднасьць подпісу заяўніка павінна быць засьведчана натарыяльнай канторай, а ў мясцовасьцях, дзе гэтакіх няма—народным судзьдзёю.

§ 171. Пасьведчаньне можа быць паслана па пошце заказным пісьмом з абаротнай расьпіскаю, якая прылучаецца да рэестру ўзамен расьпіскі ў ім атрымальніка пасьведчаньня.

§ 172. Старане, якая зьявілася ў натарыяльную кантору па выкліку другой стараны, можа быць выдана пасьведчаньне аб факце яўкі яе ў кантору ў парадку п. „д“ арт. 1 Палаж. аб Натарыяце.

## 8. Учыненьне перакладаў з адных моваў на другія і засьведчаньне вернасьці перакладаў.

§ 173. Усе пераклады запісваюцца па рэестру. Надпісы на іх павінны заключаць у сабе элемэнты, зазначаныя ў арт. 15 Палаж. аб Дзярж. Натарыяце. Усё гэта адносіцца таксама і к засьведчаньню вернасьці копій актаў, дакумэнтаў і іншых папер, пісаных на чужаземных і мясцовых мовах.

§ 174. Калі пераклад робіцца адначасна з учыненьнем дакумэнту першатвору, то пераклад зьмяшчаецца на адным аркушы з першатворам—абодвы тэксты поруч на аднэй старонцы, падзельнай простастаўнай лініяй, так што тэкст першатвору зьмяшчаецца ў левым баку старонкі, а пераклад—з правага. Пераклад павінен зьмяшчаць у сабе ўвесь тэкст перакладаемага дакумэнту, заканчваючыся транскрыпцыяй подпісу, падпісаўшых дакумэнт асоб. Пад перакладам зьмяшчаецца подпіс перакладчыка. Пасьведчальны подпіс зьмяшчаецца таксама супроць абодвых тэкстаў (формы №№ 12, 13 і 14).

## 9. Рэгістрацыя арыштаў, накладаемых на немуніцыпалізаваныя і дэмуніцыпалізаваныя будовы і права забудоўкі, а роўна іх зьмяненьняў і зьняцьцяў.

§ 175. Рэгістрацыя накладаемых на немуніцыпалізаваныя і дэмуніцыпалізаваныя будовы і права забудоўкі арыштаў вытвараецца па акругах па месцу знаходжаньня маемасьці і ўскладаецца на натарыяльныя канторы акруговых гарадоў. Пры наяўнасьці ў горадзе некалькіх натарыяльных кантор арышты асярадкуюцца ў першай натарыяльнай канторы.

§ 176. У паказаных (§ 175) натарыяльных канторах рэгіструюцца ўсе арышты па патрабаваньню судовых выканаўцаў і вытвараючых спагнаньне ў бяспрэчным парадку дзяржаўных устаноў і службовых асоб, як пры спагнаньнях, так і пры прывядзеньні ў выкананьне пастаноў судоў аб налажэньні арыштаў у парадку забесьпячэньня іску.

§ 177. Пры натарыяльным пасьведчаньні ўгод аб залогу будоваў і права забудоўкі натарыяльная кантора накладае арышт рэгіструемы ў парадку § 175, або паведамляе патрабаваньні аб арышце ў другую кантору. Пры накладаньні арышту, арышт уносіцца ў зборнік арыштаў і копія паведамляецца ў адпаведны камунальны аддзел.

§ 178. У выпадку атрыманьня натарыяльнай канторай зьвестак не зьмяшчаючых усіх даных, зазначаных у арт. 40 Палаж. аб Дзяр, Натарыяце, натарыяльная кантора, зарэгістраваўшы арышт у альфабэце, выяўляе недахопліваючыя зьвесткі шляхам перапіскі.

§ 179. Забараняльныя артыкулы, складаемыя ў сілу патрабаваньняў аб накладаньні арыштаў, прысылаемых у натарыяльныя канторы і запісы аб арыштах, накладзеных самой натарыяльнай канторай, рэгіструюцца і разьмяшчаюцца ў парадку паступленьня, утвараючы асобныя зборнікі паасобна за кожны год. Арышты пры спагнаньнях на іх абазначаюцца наступным чынам: „зборнік арыштаў па..................акрузе, за 192 г. арышт №..................

§ 180. Пасьля ўнясеньня арышту ў зборнік, натарыяльная кантора паведамляе ў установу, па патрабаваньню якой наложан арышт, аб нумар, пад якім арышт зарэгістрован.

§ 181. Натарыяльныя канторы вядуць альфабэт па ўстаноўленой форме, па прозьвішчах уладальнікаў. У гэтым альфабэце адзначаюцца ўсе арышты, унесеныя ў зборнікі (§ 179) с пасланьнем на нумар па зборніку.

§ 182. Зьмена і зьняцьце арыштаў адбываецца па паведамленьню службовых асоб, наклаўшых арышт, і па заяве залогатрымальніка. Налажэньне, зьмена і зьняцьце арыштаў вытвараецца па формах № № 16 і 15. Калі зьняцьце або зьмена арышту адбываецца па патрабаваньню юрыдычнай асобы, то натарыяльная кантора правярае правамоцтвы іх прадстаўнікоў, калі патрабаваньне падпісваюць прадстаўнікі.

§ 183. Зьмена арыштаў стаіць у зьняцьці ранейшага арышту і налажэньні новага, зьмененага, з рэгістрацыяй у зборніках. Зьняцьце арыштаў рэгіструецца ў асобных зборніках зьняцьцяў арыштаў. Зборнікі вядуцца паасобна за кожны год у храналёгічным парадку паступленьня.

§ 184. Аб зьняцьці і вырашэньні арыштаў адзначаецца з сасланьнем на нумар зьняцьця або вырашэньня арышту: 1) на самым першатворы ў зборніку арыштаў; 2) у альфабэце арыштаў. Копіі паведамленьняў або патрабаваньні аб зьняцьці арыштаў пасылаюцца на агульнай падставе ў камунальныя аддзелы.

§ 185. Усе адзнакі робяцца за подпісам супрацоўніка, на якога ўскладзена рэгістрацыя арыштаў.

§ 186. Спраўкі аб арыштах выдаюцца ўладальнікам маемасьці, залогатрымальніку, спаганяльніку, судовым і сьледчым органам, камунальным аддзелам і іншым асобам і ўстановам, зазначаным у арт. 10 Палажэньня аб Дзярж. Натарыяце.

§ 187. Калі натарыяльнае пасьведчаньне ўгоды аб адчужэньні або залогу будоваў або права забудоўкі вытвараецца ў тэй натарыяльнай канторы, у якой асяродкавана рэгістрацыя арыштаў, натарыус наводзіць бясплатна спраўку аб арыштах пры самым натарыяльным пасьведчаньні ўгоды. Калі ўгода пасьвядчаецца ня ў той натарыяльнай канторы, дзе знаходзяцца спраўкі аб арыштах на маемасьць, якая складае прадмет угоды, то к нараду павінна быць прыкладзена спраўка падлягаючай натарыяльнай канторы. Спраўка гэта мае сілу на працягу трох дзён з прыбаўленьнем часу, неабходнага на дастаўку спраўкі.

§ 188. Калі натарыяльнае пасьведчаньне ўгоды ў гэты тэрмін не адбудзецца, то да дню натарыяльнага пасьведчаньня, назначнага ўноў, павінна быць прадстаўлена дадатковая спраўка.

§ 189. У спраўцы паказваюцца для прадстаўленьня ў якую натарыяльную кантору або іншую ўстанову яна прадназначаецца. Калі на працягу 3-х дзён пасьля выдачы спраўкі на абазначаную ў спраўцы маемасьць паступіць арышт, натарыяльная кантора ў той-жа дзень і не пазьней наступнага дня пасылае паведамленьне ў установу, куды павінна быць прадстаўлена спраўка. Паведамленьне можа быць паслана па тэлеграфу за рахунак асоб, па просьбе якіх тэлеграмы пасылаюцца.

§ 190. Спраўкі могуць быць запатрабаваны натарыяльнай канторай непасрэдна. Перапіска натарыяльных кантор аб арыштах не падлягае аплаце гэрбавым зборам. Паштовыя, тэлеграфныя і натарыяльныя выдаткі аплачваюцца зацікаўленымі асобамі.

§ 191. Зацікаўленыя асобы і ўстановы могуць прадстаўляць як у натарыяльныя канторы, так і ў іншыя ўстановы да спраў—копіі пастаноў суду аб арыштах або распараджэньні аб арыштах іншых урадавых органаў. Копіі гэтыя да атрыманьня натарыяльнай канторай забараняльнага артыкулу аб арыштах ад падлягаючай установы, накладаючай арышт, замяняе гэта забараненьне.

§ 192. За ўнясеньне ў зборнік і альфабэт арыштаў, а таксама зьняцьце і забараненьне арыштаў або выдачу спраўкі бярэцца плата паводле таксы аплаты натарыяльных дзеяньняў. Плату гэту судовы-выканаўца ўносіць на агульнай падставе.

## 10. Выкананьне натарыяльных дзеяньняў народнымі судзьдзямі.

§ 193. У тых мясцовасьцях, у якіх не закладзены натарыяльныя канторы, народныя судзьдзі выконваюць наступныя натарыяльныя дзеяньні:

а) натарыяльнае пасьведчаньне ўсякага роду даверанасьцяй;

б) учыненьне прадугледжаных законам пратэстаў і вэксалёў;

в) засьведчаньне вернасьці копій дакумэнтаў і выпісак з кніг дакумэнтаў;

г) засьведчаньне супраўднасьці подпісаў на дакумэнтах, апроч угод і даверанасьцяй;

д) пасьведчаньне акалічнасьцяй і фактаў, якія могуць мець юрыдычнае значэньне, у якіх судзьдзя асабіста можа непасрэдна пераканацца, і для пасьведчаньня якіх закон не ўстанаўляе іншага парадку (засьведчаньне часу прад'яўленьня дакумэнтаў, засьведчаньня знахаджэньня асобы ў пэўным месцы і г. д.);

е) прыём заяваў фізычных і юрыдычных асоб для перадачы іх другім асобам, а таксама выдачы пасьведчаньняў па поваду перададаных заяваў;

ж) хаваньне дакумэнтаў;

з) пераклады з аднэй мовы на іншыя і засьведчаньне правільнасьці перакладаў;

і) прыём у дэпазыт для перадачы па прыналежнасьці плацяжоў па прад'яўленых к пратэсту вэксалёх і

к) выкананьне розных тэхнічных дзеяньняў, зьвязаных з натарыяльнымі дзеяньнямі.

§ 194. Пэказаныя дзеяньні выконваюць народныя судзьдзі ўсіх гарадоў і пасяленьняў, у якіх натарыяльныя канторы не закладзены, хоць-бы ў акруговых і раённых гарадох адпаведнай акругі і раёну былі натарыяльныя канторы.

§ 195. Пры ўчыненьні натарыяльных дзеяньняў народныя судзьдзі кіруюцца палажэньнем аб дзяржаўным натарыяце, гэтай інструкцыяй, таксама ўстаноўленымі для натарыяльных кантор і ўсімі распараджэньнямі НКЮ па натарыяту.

*Увага*. Зборы за натарыяльныя дзеяньні і тэхнічную работу бяруцца тыя-ж, што і натарыяльнымі канторамі.

§ 196. Народныя судзьдзі вядуць толькі прыходна-расходны рээстр, па форме выпрацаванай НКЮ, куды запісваюцца ўсе ўчыненыя натарыяльныя дзеяньні, а таксама і пратэсты вэксалёў, паказваючы атрыманыя за натарыяльныя дзеяньні гэрбавыя, натарыяльныя і мясцовыя зборы, а таксама і выданьні іх. Прыходна-расходны

рэестр скрапляецца агульным устаноўленым для натарыяльных кніг парадкам. Рэестр можа весьціся на працягу некалькіх год і здаецца ў натарыяльны архіў па заканчэньні. У канцы кожнага году робіцца заключны надпіс.

§ 197. Пры знахаджэньні ў адным пасяленьні камэры народнага судзьдзі, райвыканкому і сельсавету, нарсудзьзі выконваюць толькі тыя натарыяльныя дзеяньні, якія райвыканкомы і сельсаветы выконваць ня маюць права.

§ 198. Кіраўніцтва і кірунак дзейнасьці народных судзьдзяў у адносінах выкананьня імі натарыяльных дзеяньняў прыналежыць натарыяльнаму п/аддзелу і адпаведнаму акруговаму суду. Рэвізія нарсудзьдзяў, выконваючых натарыяльныя дзеяньні, робяцца акруговымі судамі адначасна з агульнай рэвізіяй нарсудоў.

§ 199. Народныя судзьдзі справаздачы аб сваёй дзейнасьці па натарыяту прадстаўляюць у натарыяльны п/аддзел і падлягаючы акруговы суд ва ўстаноўленыя тэрміны і па формах, выпрацаваных НКЮ.

Калі за справаздачны пэрыяд ніякіх натарыяльных дзеяньняў вытварана ня было, то ў той-жа тэрмін пасылаецца аб гэтым паведамленьне ў натарыяльны п/аддзел і падлягаючы акруговы суд.

## II. Абежнікі, якія страцілі сілу з увядзеньнем у дзеяньне гэтай інструкцыі.

§ 200. З увядзеньнем у дзеяньне гэтай інструкцыі трацяць сілу наступныя абежнікі НКЮ: № 51 за 14 кастрычніка 1925 г., № 3 за 4 студзеня 1926 г. і часовая інструкцыя НКЮ за 4 студзеня 1927 г. за № 162.

Нам. Народнага Камісара Юстыцыі БССР **С. Эднэрал.**

Загадчык Натарыяльнага П/аддзелу Аддзелу Судабудаўніцтва і Нагляду **М. Малёнак.**

16 мая 1927 г.
№ 35.

## Аб зьмяненьні інструкцыі НКЮ за 16 мая 1927 г. за № 35.

У сувязі з рацыяналізацыяй апарату Народнага Камісарыяту Юстыцыі і пераходу яго на функцыянальную сыстэму, Народны Камісарыят Юстыцыі пастанаўляе: унесьці ў інструкцыю НКЮ за 16 мая 1927 г. за № 35 ніжэйнаступныя папраўкі і дадаткі:

1. У §§ 3, 14, 198 і 199 замест слоў: „Натарыяльны п/аддзел“— уставіць: „Судовая Інспэкцыя“.

2. У § 9-м замест слоў: „у якія ўваходзяць Загадчык натарыяльнага п/аддзелу аддзелу________________ старшынствуе ў камісіі старшыня або член акруговага суду“—сказаць: „якая назначаецца Народным Камісарыятам Юстыцыі“.

3. У § 15-м замест слоў: „па Аддзелу Судабудаўніцтва і Нагляду праз Натарыяльны П/аддзел“—сказаць: „Судовую Інспэкцыю НКЮ“.

4. У § 25. Параграф 25 зьмяніць і выкласьці яго ў наступнай рэдакцыі: „Натарыяльныя Канторы абавязаны прадставіць у НКЮ і падлеглыя акруговыя суды справаздачы аб сваёй дзейнасьці, ва ўстаноўленыя тэрміны і па формах, устаноўленых НКЮ“.

Нам. Народнага Камісара Юстыцыі БССР **С. Эднэрал.**

Загадчык Натарыяльнага П/аддзелу **М. Малёнак.**

1-га ліпеня 1927 г.
№ 55.

